

Апостал Пётр. Паліхромная скульптура, XVIII ст. Музей старажытна-беларускай культуры. Мінск.

3.91 СПАДЧЫНА
ЧАСОПІС БЕЛАРУСКАГА ФОНДУ КУЛЬТУРЫ

## У НУМАРЫ

НАРОД, ГІСТОРЫЯ, КУЛЬТУРА



ВЯРТАЕЦЦА ДА ЧЫТАЧА



ПРОЗА



ДАСЛЕДАВАННІ, МЕРКАВАННІ, ГІПОТЭЗЫ



СІЛУЭТЫ ПРОДКАЎ



ПОМНІКІ СУСВЕТНАЙ КУЛЬТУРЫ



ЛІТАРАТУРНЫЯ ПОМНІКІ



ДУМКА РЭЦЭНЗЕНТА



На першай старонцы вокладкі: абраз Маці Божая Бялыніцкая, 1-я палова XVII ст., м. Сноў.



**ЧАСОПІС ВЫДАЕЦЦА КОШТАМ ТВЦ «ПАЛІФАКТ» БЕЛАРУСКАГА ФОНДУ КУЛЬТУРЫ**

Тэхнічны рэдактар З. М. МІКІШЧАНКА.

Слайды В. Дубінкі, А. Лабады.

Адрас рэдакцыі: 220049, Мінск, Старажоўская, 5. Тэл. 34-24-54, 34-26-50.

Здадзена ў набор 24.04.91. Падпісана да друку 11.06.91. Фармат 70×100 1/16. Друк афсетны. Ум. друк. арк. 10,15. Ум. фарб. адб. 22,4. Ул.-выд. арк. 12,58. Тыраж 8000 экз. Зак. 231. Цана 1 руб.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі. 220041, Мінск, Ленінскі праспект, 79.

Выходзіць 6 разоў на год.
Выдавецтва «Полымя»
Мінск

# СПРАВА ГОНАРУ НАЦЫІ

**У першым нумары нашага часопіса за гэты год быў змешчаны матэрыял «Круглага стала» аб захаванні і вяртанні беларускаму народу яго культурнай і гістарычнай спадчыны. Але нават такая грунтоўная і цікавая размова, якая, як нам здаецца, атрымалася за «круглым сталом», не вычарпала ўсіх аспектаў праблемы, яна толькі з'явілася штуршком да новай гаворкі. На гэты раз — з Нінай Мікалаеўнай МАЗАЙ. Размову правяла Вольга ІПАТАВА.**

**В. І.:** Нядаўна былі заключаны дагаворы паміж Расіяй і Беларуссю. Як вядома, у Расію, пачынаючы з XVIII ст., рэгулярна вывозіліся культурныя каштоўнасці нашага народа. Ці ішла ў час прамоваў гаворка аб вяртанні іх сюды, на Беларусь?

**Н. М.:** На вялікі жаль, у выніку рознастайных гістарычных прычын, шматлікіх войнаў, якія вяліся на тэрыторыі Беларусі, ды і палітыкі прыгнёту — ў розныя часы з Беларусі былі вывезены многія гістарычныя і культурныя рэчы і, такім чынам, яны страчаныя сваімі сапраўднымі гаспадарамі. Сёння наша спадчына выяўляецца ў розных канцах свету. Многія каштоўнасці, якія па праву належалі беларускаму народу, не знойдзены. Што датычыць культурных каштоўнасцей, што траплялі у розныя часы з Беларусі ў Расію, дык адны рэквізаваліся ў магнацкіх палацах і манастырах у час войнаў (нясвіжскія і полацкія зборы). Другія вывозіліся магнатамі і чыноўнікамі, каб папоўніць пецярбургскія і маскоўскія музейныя і бібліятэчныя калекцыі (так здарылася з гомельскімі зборамі Румянцавых). Трэція прадаваліся або выменьваліся тымі ж магнатамі. На першыя з іх мы маем пэўнае права прэтэндаваць — але толькі маральна, толькі абапіраючыся на добрую волю цяперашніх уладальнікаў, бо юрыдычна, паводле міжнароднага права, такі зварот амаль нерэальны. На другія ж і трэція нават і такога, маральнага, права ў нас няма.

Іншая справа — культурныя каштоўнасці, вывезеныя ў Маскву ча-

сова, у дэпазіт пад час першай сусветнай вайны (да прыкладу, зборы са Станькава, Бачэйкава) і на пачатку Вялікай Айчыннай вайны (калекцыя слуцкіх паясоў і інш.). Такія каштоўнасці мы павінны выяўляць, а затым выкарыстаць усе сродкі для іх вяртання.

Пры падпісанні дагавора паміж Беларуссю і Расіяй было ўлічана цеснае супрацоўніцтва рэспублік у галіне культуры. А Міністэрствы культуры СССР і БССР ў лютым гэтага года падпісалі Пратакол аб супрацоўніцтве, якім прадугледжана аб'яднаць намаганні, накіраваныя на стварэнне спрыяльных умоў для развіцця культуры Беларусі, даступнасці для насельніцтва культурных каштоўнасцей, аказваць пастаянную навуковую і матэрыяльную дапамогу для ўратавання нацыянальнай культурна-гістарычнай спадчыны Беларусі.

**В. І.:** Экспанаты музея братоў Луцкевічаў, заснаванага імі ў Вільні, у асноўным цяпер знаходзяцца ў архівах і сховішчах Літвы. Ці будзе весціся гаворка аб вяртанні яго скарбаў на Беларусь, ці трэба пакінуць экспанаты там, дзе яны былі арганізаваны ў музей, але з ўмовай, што гэты збор стане асяродкам беларускай культуры ў Вільні?

**Н. М.:** Сапраўды, на сённяшні дзень у Літве знаходзяцца экспанаты былога Віленскага беларускага музея.

Беларускай грамадскасцю ўжо рабіліся захады, каб вярнуць зборы Віленскага беларускага музея ў Мінск (частка іх была вернута адразу ж пасля вайны). Літоўскі бок прарэагаваў адмоўна. Асноўны аргумент: усё гэта збіралася ў Вільнюсе. Але паколькі гэтыя зборы распылены сёння па розных бібліятэках і музеях, паколькі доступ беларускіх даследчыкаў да іх вельмі ўскладнёны, а часам і немагчымы, узнікла новая прапанова (найперш, у камісіі «Вяртанне» Беларускага аддзялення Савецкага Фонду культуры, а таксама ў віленскай «Сябрыне»), каб адрадзіць Віленскі беларускі музей у гістарычных сценах былога базыльянскага кляштара, дзе ён быў да вайны. Ён мог стаць сапраўдным асяродкам літоўска-беларускага культурнага ўзаемадзеяння і паразумення. Так што мы чакаем адпаведнай ініцыятывы з літоўскага боку. Тым больш, што ў Беларусі прынята рашэнне ствараць цэнтр літоўскай культуры на Гродзеншчыне, у Астравецкім раёне.

Такую ініцыятыву павінен узяць на сябе і Беларускі фонд культуры, каб разам з калегамі з Літвы павесці сур'ёзную гаворку аб шырокім выкарыстанні каштоўнасцей беларускімі вучонымі ў навукова-даследчыцкай дзейнасці. Трэба шукаць новыя падыходы і вырашаць праблему. Падтрымка з боку Ураду рэспублікі заўсёды будзе.

**В. І.:** Калі мяркуецца адкрыць Скарынаўскі Цэнтр і якія перашкоды існуюць для яго працы?

**Н. М.:** Распараджэннем Савета Міністраў БССР ад 5 жніўня 1990 года прынята прапанова Акадэміі навук БССР і Міністэрства культуры БССР аб стварэнні ў рэспубліцы Нацыянальнага навукова-асветніцкага цэнтра імя Ф. Скарыны па вывучэнню і шырокай прапагандзе беларускай культуры і гістарычнай спадчыны беларускага народа.

Часовы творчы калектыў па стварэнню праграмы, структуры і асноўных напрамкаў дзейнасці Нацыянальнага навукова-асветніцкага цэнтра імя Ф. Скарыны працуе з 1 студзеня 1991 года. Там ужо 23 супрацоўнікі. Цяпер мы шукаем для Цэнтра неабходныя памяшканні. Будзем канчаткова рашаць гэта пасля заканчэння праекта рэгенерацыі гістарычнай часткі г. Мінска, які цяпер распрацоўваецца.

Найбольш верагодна, што Цэнтрам можа быць заняты будынак па вул. Рэвалюцыйнай, 15, у гістарычнай частцы г. Мінска, у якім у 20-я гады размяшчаўся Інбелкульт, дзе працавалі многія відныя беларускія вучоныя і пісьменнікі.

**В. І.:** Ці ёсць нейкая дзяржаўная канцэпцыя вяртання нацыянальнай спадчыны, спробы агульнай інфармацыі аб тым, што, калі было вывезена і дзе яно знаходзіцца зараз?

**Н. М.:** Пры Міністэрстве культуры БССР створана камісія па распрацоўцы доўгатэрміновай комплекснай праграмы «Спадчына». Прапановы да яе дапрацоўкі былі надрукаваны ў штотыднёвіку «Літаратура і мастацтва» 15 чэрвеня 1990 года. Канцэпцыя праграмы прадугледжвае вяртанне старажытнага нацыянальнага мастацтва не толькі для вывучэння гісторыі і культуры, але і для таго, каб шматлікія творы сталі рэальнымі каштоўнасцямі ў жыцці беларускага народа. У Скарынаўскім цэнтры ёю непасрэдна ўжо занятыя вопытныя спецыялісты. Імі ж складаецца фундаментальная картатэка вывезеных каштоўнасцей.

**В. І.:** У сувязі з гэтым — калі такая канцэпцыя ёсць — дзе будуць размяшчаць прывезенае? Наколькі мне вядома, нават у Дзяржаўнай бібліятэцы БССР імя Леніна мала месца для таго, што ёсць у нас зараз. Ці не пагоршым мы такім чынам умовы для кніг і рукапісаў і без таго не пашкадаваных часам?

**Н. М.:** Само паняцце вяртання нацыянальнай спадчыны, на мой погляд, уключае не толькі матэрыяльных каштоўнасцей у іх фізічным сэнсе. Да яго ў поўнай меры адносяцца і пытанні ксеракапіравання, мікрафільмавання, перавод на мікраафішы і, безумоўна, выданне і перавыданне. Дзе будуць захоўвацца прывезеныя каштоўнасці? На мой погляд, месца для іх заўсёды знойдзецца. Саветам Міністраў рэспублікі зроблены пэўныя крокі і прымаюцца адпаведныя меры. У 1990 годзе ў г. Полацку адкрыты музей гісторыі беларускага кнігадрукавання, у сталіцы ствараецца музей гісторыі музычнай культуры Беларусі.

У студзені 1990 года прынята пастанова Савета Міністраў БССР, якой прадугледжана праектаванне і будаўніцтва ў 1992—1996 гадах комплекса будынкаў Дзяржаўнай бібліятэкі БССР імя У. І. Леніна. У жніўні 1989 года Мінскі гарвыканкам перадаў Міністэрству культуры БССР памяшканне (Партызанскі праспект, 31) пад кнігасховішча для яе. Распараджэннем Савета Міністраў БССР ад 25 жніўня 1989 года Мінскаму гарвыканкаму даручана забяспечыць будаўніцтва прыбудовы да Дзяржаўнага мастацкага музея БССР. Урадам рэспублікі прынята пастанова аб стварэнні да 1995 года нацыянальнага музея гісторыі і культуры Беларусі, які будзе размешчаны ў гістарычнай частцы г. Мінска (ў Верхнім горадзе).

Усе гэтыя і іншыя захады дазваляюць нам спадзявацца на тое, што з улікам вяртання мастацкіх і культурных каштоўнасцей на Беларусь будуць створаны добрыя ўмовы для іх захавання, размяшчэння і экспанавання.

**В. І.:** Навучаная горкім вопытам, пэўная частка інтэлігенцыі выказвае і такую думку: калі мы будзем ставіць пытанне аб вяртанні нацыянальнай спадчыны, дык улічваючы агульнае культурнае здзічэнне, ці не можам мы ў адказ мець новыя вогнішчы і патопы, якія знішчаць і тое, што мы маглі б вярнуць (як гэта ўжо было ў Маскве, ці Ленінградзе). Маўляў, няхай яны будуць там — але будуць. Што вы думаеце на гэты конт?

**Н. М.:** Хачу сказаць, па-першае, што вяртанне ў рэспубліку ўсіх дакументаў, кніг, рэліквій, музейных каштоўнасцей, якія знаходзяцца ў сховішчах у Вільнюсе, Кіеве, Маскве, Ленінградзе, Львове і іншых гарадах і за мяжой, сёння немагчыма, ды і не мае сэнсу (як скажам, Літоўскай музыкі). Разумней будзе, калі мы самі будзем актыўней ісці да гэтых матэрыялаў, ствараць у тых жа названых гарадах лабараторыі беларус-

кага пісьменства. Такая ідэя ўжо выношваецца спецыялістамі і навукоўцамі Скарынаўскага цэнтра і Інстытута літаратуры імя Я. Купалы Акадэміі навук БССР.

Па-другое, нам у рэспубліцы самім трэба добра разабрацца са сваім культурным скарбам. У бібліятэках трэба сфарміраваць фонд кніжных помнікаў з выдзяленнем там старадрукаў (з асноўных сховішчаў), пачаць пашпартызацыю кніжных помнікаў гісторыі і культуры (незалежна ад месца іх захавання). Вельмі важнай здаецца мне арганізацыя ўліку асабістых калекцый, у якіх ёсць рэдкія і каштоўныя кнігі (асабліва выдадзеныя ў Беларусі), стварыць у рэспубліцы друкаваныя зводныя каталогі і каталогі асобных калекцый, выдаць даведнік «Фонды рэдкіх і каштоўных выданняў у бібліятэках, музеях, архівах БССР». І новыя асяродкі беларускай культуры паўстануць.

Ставіць жа пытанне аб агульным стане культурнага здзічэння, на маю думку, не карэктна і неэтычна, бо здабыткі беларускай культуры і нацыі вялікія і неаспрэчныя, у якіх бы ўмовах яны не існавалі.

**В. І.:** Маючы на ўвазе сённяшняе (а болей учарашняе) барбарства ў дачыненні да культуры, я згодна з тым, што нам самім у рэспубліцы трэба добра разабрацца, што ў нас ёсць. І таму мы запрашаем да працягу размовы ўсіх, хто зацікаўлены ў захаванні нашых культурных багаццяў.



Касцёл св. Яна ў Вільні.

# «ВЕЧНЫЯ ДАРОГІ»

З найстаражытнейшых часоў Беларусь знаходзілася на скрыжаванні шляхоў, на стыку (ці раздарожжы) этнічных, рэлігійных, эканамічных, сацыяльных асаблівасцей розных народаў. Менавіта тут сустрэліся (і разышліся) славянская і балцкая культуры. Тут быў водападзел (і мост адначасова) між усходнім і заходнім славянствам. Тут, на беларускіх землях, размежаваліся (і пабраліся) каталіцкае і праваслаўнае хрысціянства. А ў больш буйным маштабе менавіта тут ляжыць мяжа заходнееўрапейскага і еўразійскага пачаткаў.

Яшчэ ў перыяд ранняга сярэднявечча праходзіў праз беларускія землі па Заходняй Дзвіне і Дняпру самы старажытны маршрут — «шлях з варагаў у грэкі», які злучыў Паўночную і Паўднёвую Еўропы, Скандынавію і Блізкі Усход. Менавіта па ім тысячу гадоў таму пранікла на славянскія землі магутная духоўная сіла — хрысціянства ў яго «грэцкім абрадзе». Па гэтаму шляху ехалі сюды грэцкія і блізкаўсходнія купцы, і нездарма выдатны даследчык старабеларускага мастацтва М. Шчакаціхін убачыў формы раннехрысціянскага храма Малой Азіі ў гранёных апсідах полацкай Сафіі. Не дзіўна, што Полацкае княства, дзе закладваецца аснова старабеларускай дзяржаўнасці, фарміруецца менавіта на гэтым шляху, а Полацк, з якім звязаны імёны святой Ефрасінні, Францішка Скарыны, Сімяона Полацкага, становіцца духоўным цэнтрам Беларусі. Шлях прынёс сюды тое, што ў гістарычнай навуцы атрымала назву «варажскі пачатак», які аспрэчваецца некаторымі гісторыкамі ў канкрэтных імёнах і датах, але, несумненна, прысутнічаў і ўздзейнічаў на развіццё ўсходняга славянства.

У познафеадальныя часы праз беларускія землі пракладваецца яшчэ адзін «вялікі шлях». Ён мае ўжо іншы накірунак — Усход-Захад. Маршрут гэты ўяўляў сабою шляхі, што ішлі з Заходняй Еўропы і Польшчы ў Масковію праз беларускія землі. Ён пралягаў праз Вільню і Полацк, а таксама з Варшавы праз Менск да Смаленска. Менавіта ўздоўж гэтых шляхоў у XV—XVII стст. кандэнсуецца гандлёвая, ваенная і дыпламатычная дзейнасць. Стагоддзямі маршрут адыгрываў важную ролю і збярог яе дагэтуль.

Вядома, яшчэ задоўга да з'яўлення сухапутных шляхоў існавалі і трывалыя рачныя маршруты. Днепр, Прыпяць, Заходняя Дзвіна, Сож, Нёман былі на беларускіх землях тымі «прыроднымі» дарогамі, уздоўж якіх узнікалі старажытныя паселішчы людзей. Каб упэўніцца ў гэтым, дастаткова зірнуць на размяшчэнне беларускіх



Камень полацкага князя Рагвалода Барысавіча (XII ст.).

гарадоў — Полацка, Віцебска, Турава, Пінска...

## МІФАЛОГІЯ ДАРОГІ

У старажытных славян быў адзіны бог, непасрэдна адказны за дарогу — Велес, бог пастухоў, праваднік чалавека і дамашняй жывёлы да роднага дому. У беларусаў ён пазней становіцца Аўласам. На Аўласа (11-га лютага) адзначалася «конскае свята». У гэты дзень звычайна аб'язджалі маладых коней, давалі добрага корму старым. Аўласа належала ўспамінаць перад пачаткам дарогі. Чаканне небяспекі, а нярэдка страх перад рабаўнікамі пераадольваліся замоваю. Гэта спецыфічны вусны абрад, які вядомы яшчэ з паганскіх часоў:

«Устаў я рана — падвыйду да ваконца, шчыра й шчыра ўздыхну да Бога: дай жа мне, Божа, шчасліву дарогу! Аж святы Юры каня запрагае, святы Аўлас дапамагае, ад бяды, напасці зберагае!»



Капліца (Баранавіцкі раён).

Святы Юры — гэта таксама адзін з варыянтаў дарожнага бажаства, які персаніфікаваўся ўжо ў хрысціянскія часы. Ён выконваў прыблізна тыя ж функцыі, што і паганскі Велес і Аўлас.

Бог дарогі і пастухоў не быў прывілеем толькі старажытнага беларуса. Індусы верылі ў Пушана, егіпцяне — ў Амуна Дарожнага, грэкі — ў імклівага Гермеса, а на перадісламскім і ісламскім Усходзе ўшаноўвалі Хідра (Хізра). Усе яны «дапамагалі» чалавеку ў дарозе, засцерагалі ад рабаўнікоў, зберагалі жывёлу, паказвалі правільны шлях.

Нярэдка ў беларускай міфалогіі менавіта каля дарогі сустракаюцца чалавеку нячысцік ці ведзьмы, якія скідваюць колы з восяў і псуюць жывёлу, збіваюць людзей з дарогі, заманьваючы ў небяспечныя мясціны, насылаюць злодзеяў. Дарога — гэта нічыйная зямля, «прамежкавае месца» ад дома да дома, ад агня да агню, поўнае таямніц і небяспекі. Прайшоў чалавек і пакінуў след, і такі след нясе асаблівы сэнс. След — знак дарогі і разам з тым адбітак падарожніка. Існавала павер'е, што варта ўзяць са следа зямлю, пакласці ў мяшэчак і засушыць, як усохне той чалавек, што тут прайшоў. Такія ж павер'і існавалі ў міфалогіі іншых народаў.

Дарога азначала прыход і адыход, сустрэчу і расстанне, яна была поўная невядомасці. Старажытныя славяне не мелі здольнасці да абстрактнага навуковага мыслення. Для іх чалавек, які ішоў з дому, знікаў назаўсёды, знікаў і нябожчык, і першы, і другі «адыходзілі»... Каля дарогі хавалі славяне сваіх родных. Лаўрэнцьеўскі летапіс данёс да нас вестку пра гэты звычай, якога прытрым-

ліваліся продкі сучасных беларусаў — крывічы і радзімічы. Пасудзіну з прахам нябожчыка пасля рытуальнага спальвання ставілі «на столпе, на путе». Продак «пайшоў», але ён павінен быў і аберагаць жывых.

Звычай хаваць каля дарог вядомы многім народам. Могілкі Старажытнага Рыма месціліся, напрыклад, уздоўж вядомай Апіявай дарогі. Існаваў, нават, выраз: «Пайсці да багоў Апіявай дарогай».

## ПУЦЯВЫЯ СІМВАЛЫ

Традыцыя стварэння прыдарожных крыжоў і капліц на беларускіх землях таксама мае шматвяковую гісторыю і ідзе ад паганскіх вераванняў у неабходнасць абароны на дарозе. Існуе шэраг версій генезіса гэтай вельмі старажытнай беларускай традыцыі. Праваслаўе бачыла ў ёй каталіцкае, лацінскае паходжанне. Каталікі ж скептычна адносілі яе да перажыткаў паганства. Нямецкі даследчык беларускага мастацтва А. Іпэль бачыў вытокі яе ў антычнасці. Аднак, думаецца, што гэта глыбока мясцовая традыцыя, якая не рэгулявалася царкоўнымі канонамі і была звязана са звычаем пахавання праха каля дарог яшчэ радзімічамі і крывічамі. Гэта адно з самых своеасаблівых праяў духоўнага багацця беларускага народа. Магчыма, і майстэрства «беларускай разьбы», якое так яскрава выявілася ў XVII ст., развілася з вясковай традыцыі ўзвядзення драўляных каплічак і крыжоў, дзе вясковы майстар адыходзіў ад царкоўных канонаў і глыбока індывідуальна інтэрпрэтаваў біблейскіх герояў.



Каваны крыж над капліцай (70-я гады. Валожынскі раён). Помнік знішчаны.

Шкада, што агонь атэізму спаліў і разбурыў большасць гэтых выдатных помнікаў. Барацьбу з імі пачаў яшчэ ў 1864 г. указам аб знішчэнні граф Мураўёў. Апошні ж этап прыйшоўся на 60—70-я гады нашага стагоддзя.

У часопісе «Современник» за 1853 г. П. Шпілеўскі пісаў: «Взор путешественника при въездзе в Несвиж встречает почти на каждом шагу деревянные кресты, крестики и такие же часовни (каплички) или большие столбы с резными изображениями Божьей Матери, Спасителя и Ивана Предтечи. Смотря на эти памятники... можем назвать его (этот край) Страною крестов, как именуют свою отчизну жители идиллической Жмуди, соседней с Несвижем».

Гэтую ж асаблівасць беларускага краявіду заўважыў і Янка Купала: «Дзе ні ступіш, крыжавыя і гасцінцы і дарожкі» («Крыжы»).

Асабліва прыгожа выглядалі прыдарожныя капліцы. Драўляныя ці каменныя, з нішай, у якой знаходзілася скульптура Хрыста ці Багародзіцы, яны былі бачны здалёк. Правільныя прапорцыі, белыя сценкі, шэрыя лукавінкі гонта і ажурная празрыстасць кованага крыжа — вось іх характэрныя рысы.

Крыжы і капліччкі былі месцам, дзе падарожнік прасіў у малітве поспеху ў дарозе ці дзякаваў за яго, але адначасова яны пазначалі раздарожжа і скрыжаванні. На святы ў час рэлігійных працэсій хадзілі ад каплічкі да каплічкі. Такія хаджэнні называліся стацыямі (ад лац. statio — стаянка), у гонар хроснага шляху Хрыста на Галгофу і прыпынкаў на гэтым шляху. Гэтая дарога пакут ці Via Dolorosa — і сёння праходзіць па адной з вулачак Іерусаліма з помнікамі на месцах прыпынкаў.



Драўляны прыдарожны крыж (Валожынскі раён).

# ДАРОЖНЫ ПАСТОЙ

З часоў сярэдневечча вядомы абавязак жыхароў забяспечваць ежай, начлегам, калёсамі і коньмі князя, яго паслоў, якія спыняліся ў іх мясцовасці. Існавалі таксама падарожчына і мастоўшчына — абавязкі падтрымліваць і рамантаваць дарогі і масты. У Вялікім княстве Літоўскім гэтыя павіннасці існавалі з часоў Вітаўта і Ягайлы. У суднай грамаце вялікага князя, якая належыць да канца XV ст., гаворыцца: «...а где здавна случане и копыляне мосты мощивали и станы делывали, и стациями подыймывали, и подводы даивали: в тех местех мають мосты мостити, и станы делати и стациями поднимати, и подводы давати по давному».

На сойме 1554 г. кароль Сігізмунд II Аўгуст назваў калёсную павіннасць «потребай Речи Посполитое». У 1557 г. была выдадзена «Устава аб падводах», якая паклала пачатак паштовай справе. Ад Вільны ва ўсе бакі дзяржавы праводзіліся паштовыя дарогі, а праз 3—7 міль (50—70 км) будаваліся станцыі. Жыхары вёсак, дзе былі паштовыя дамы, абавязаны былі вазіць ад станцыі да станцыі паслоў з дакументамі, «запячатаннымі каралеўскім сігнетам».

Акрамя паштовых станцый, на дарогах будаваліся каморы, ці мытні, дзе браліся пошліны з тавараў. Каморы размяшчаліся ў вялікіх гарадах, а ў вёсках і мястэчках пры дарогах ставіліся прыкаморкі, якія выконвалі тую ж функцыю.

Збіранне дарожнага мыта было надзвычай важнай часткай дзяржаўна-эканамічнай палітыкі. Вось што напісаў вялікі князь літоўскі Аляксандр Казіміравіч рускаму цару Івану Васільевічу ў 1499 г.: «...гостем нашим добровольно ездити на обе стороне по нашим землям старыми



Станцыйны дом у м. Артычанка (Івацэвіцкі раён).

обычайными дорогами, а мыта и пошлины везде платити по старому, а новыми дорогами мыт не обьезжати».

Калі магнаты маглі спыніцца ў спецыяльна прыстасаваным паштовым доме, для ўсіх іншых надзейным прытулкам была карчма. «Туды едзе, сюды едзе — карчмы не мінае»,— гаворыцца ў народнай прымаўцы. Першыя беларускія корчмы з'явіліся яшчэ ў X—XI стст.

Паходзіць слова карчма ад стараславянскага — кръма. Магчыма, што яно мае яшчэ больш старажытныя корні і ўтварылася ад стараперсідскага «chorden», што азначае «есці».

Гэтыя ўстановы мелі надзвычай дэмакратычны характар. Шляхціц, мешчанін, селянін адчувалі сябе тут роўнымі: «У карчме ўсякі роўны». Тут адбываліся сустрэчы, вяліся гутаркі, людзі знаёміліся, спыняліся на час. Тут адзначалі святы.

Карчма, як і дарога наогул, не была спакойным месцам. Тут можна было апынуцца ашуканым, абрабаваным і нават забітым. Натуральна, што гэта адлюстроўвалася і ў народнай свядомасці. Страх перад карчмою павялічваўся і таму, што нярэдка селянін траціў тут «апошні грош»: «Як прыйшоў у карчму, чорт за кучму».

Выклікае цікавасць і архітэктура карчмы. Гэта вялікіх памераў драўляная будыніна, звычайна на каменным падмурку, дзе пад адным дахам ужываліся стайні, пакоі падарожнікаў і карчмара. Вядомыя еўрапейскія падарожнікі XVI—XVII стст. Герберштэйн і Таннер, якія праязджалі па беларускіх землях, успамінаюць «гасцініцы літоўскія» і «жыдоўскія корчмы». Бернград Таннер, які ехаў у Маскву з пасольствам князя Міхаіла Чартарыйскага, пісаў пра дзесяткі заезных дамоў, дадаючы, што «...мясцовыя жыхары вельмі гасцінныя».



Стары брук і прысады. (Баранавіцкі раён).

Корчмы былі далёка не легкадумным заняткам і не дарэмна Сігізмунд ІІ ва «Уставе пра валокі» 1657 г. пісаў: «Ведже в каждом войтовстве, а слушном селе, звлаща пры гостиньцу, может быти корчма...».

## ДАРОЖНЫ ПАТОК

Шматвяковая гісторыя беларускіх дарог — гэта гісторыя развіцця сродкаў транспарту і відаў дарожных перамяшчэнняў. Найбольш старадаўнімі перамяшчэннямі, зафіксаванымі дакументальна, былі княскія паходы. Паведамленні летапісцаў кароткія і лаканічныя: «В лето 6902 (1394). Приездил в Новгород князь Ондрей Олгирдович полоцькыи» (Нікіфараўскі летапіс). Паходы звычайна былі конныя, з вялікім войскам. Пра гэта сведчаць, напрыклад, мініяцюры Радзівілаўскага летапісу. Паходы маглі быць даволі хуткаснымі. Вітаўт усяго за дзень дабіраецца з Гродна ў Вільню: «А князь велікы Витовт за один день прижехнет из Городно к отцю своему Кестутию» («Летапіс вялікіх князёў літоўскіх»). Распаўсюджанай прычынай паездак князёў было таксама паляванне — ездзілі «ў ловы».

Народная памяць надоўга захавала ўспамін пра паходы вялікіх князёў літоўскіх. Яшчэ ў мінулым стагоддзі на Полаччыне знаходзілі рэшткі «дарогі Вітаўта» і «дарогі Альгерда».

Другім па значэнню быў рух гандлёвы. Мікола Гусоўскі ў «Песні пра зубра» адзначае: «Рэкі ад самых вытокаў да вусцяў шырокіх поўны плытоў, а плыты на шляхах нашых водных — гэта масты паміж рознымі землямі княства».

Дарогі (водныя і сухапутныя) былі мастамі, якія злучалі не толькі «землі княства», але і розныя краіны і народы. Падарожжы за межы дзяржавы мелі істотнае значэнне і нярэдка рэгуляваліся ў дыпламатычных дакументах таго часу. Вось урывак з перамірнага ліста вялікага князя цвярскогa Барыса з вялікім князем Вітаўтам, які адносіцца да канца XIV ст.: «А людем нашим гостити межи нас путь чист, без рубежа и без пакости».

Госць-купец — паважаная асоба на сярэднявечных беларускіх землях. У Вялікае княства Літоўскае прыязджаюць купцы з самых розных краін. У прывілеі караля Жыгімонта (Сігізмунда) Аўгуста ад 1551 г. адзначаецца, што туркі, татары, армяне і другія госці ў віленскім месцы ўсялякім таварам гандлююць. Ад гасцьбы (купецкага гандлю) утварылася і слова «гасцінец» (гандлёвая дарога). Дзеля ўтрымання гасцінцаў і мастоў прыдатнымі для праезду з купцоў спаганяліся падаткі.

Купецкія караваны рухаліся на вазах, якіх часам налічвалася некалькі дзесяткаў. Так было зручней і спакайней на вельмі небяспечных у той час дарогах. З пашырэннем гандлю перавозка людзей і тавараў робіцца прыбытковай справай. Развіваецца фурманства — наёмныя транспартныя дастаўкі на вялізных крытых палатном вазáх — фурах. Возчыкі аб'ядноўваюцца ў арцелі (славутыя, напрыклад, «слуцкія фурманы»). У Статуце Вялікага княства 1566 г. была парада рабіць такую шырыню дарог, «абы два воз форманских розминулися...»

Вядома, рух на старых беларускіх дарогах не абмяжоўваўся толькі княскімі паходамі ды купецкімі караванамі. Ехалі чыноўнікі, шляхта, просты люд. Мікола Гусоўскі пісаў: «Край мой (цяпер ужо ўласнасць Кароны) калісьці я перамераў удоўжкі і ўпоперак пешшу».

Шмат было на дарогах жабракоў — старых, сляпых, калек і ўбогіх,— якія спявалі жалобныя песні пад акампанемент ліры. Хадзілі і квестары, збіраццелі-вандроўнікі, спевакі ў доўгіх адзежах, са скуранымі торбамі для ялмужыны на цар-

коўныя патрэбы. Квестары чыталі евангелле, вялі пропаведзі.

«Хаджэнні» былі доляй не толькі жабракоў ці прафесійных збірацеляў. Можна сказаць, што пілігрымаж — падарожжы з рэлігійнымі мэтамі — былі неад'емнай часткай духоўнага жыцця народа.

## ФІЛАСОФІЯ ДАРОГІ

Хаджэнне, пілігрымаж, хадж — гэта розныя назвы адной і той жа з'явы — пахода да святых месцаў. Гэтыя падарожжы мелі вельмі глыбокі духоўна-маральны сэнс.

Ужо ў старажытнай беларускай літаратуры мы знаходзім філасофскае асэнсаванне шляху, як «шляху да Бога», «сапраўднага шляху» і як жыццёвага «шляху чалавека». Гэтае філасофскае прачытанне слова «шлях» ёсць у Сімяона Полацкага ў «Вертограде многоцветном»: «К небесной горе хощу аз творити путь, дабы на ней во веков жити». У «Псалтыри рифмоторной» Сімяон раздзяляе «шлях правых» і «шлях непачцівых». Але ён прапаведуе і вандроўку як важную частку пазнання свету існуючага: «Что я стяжу в дому? Что изучуся? Лучше в странствии умом обогачуся».

Францішак Скарына збірае некаторыя хрысціянскія кананічныя тэксты ў «Малую подорожную книжку» і гэтым як бы падкрэслівае неабходнасць далучэння чалавека да духоўнасці менавіта праз дарогу. У Лявонція Карпінскага ў творы «Казаньне на преображение Господа Бога и Спаса нашего Исуса Христа» знаходзім такія радкі: «...в той гостине и дорозе якобы преводники, вера и надея устанут и на строну уступят». Шлях — сімвал жыцця і ў духоўнай літаратуры тых часоў.

Пазней, у беларускай паэзіі, адбы-



Дарога з «паласатымі вёрстамі». Фрагмент гравюры Н. Орды «Różana».

ваецца далейшае асэнсаванне шляху як філасофска-эстэтычнай катэгорыі. Паўлюк Багрым у адзіным, што захаваўся, вершы гаворыць:

«Дзе ж я пайду? Мілы Божа!
Пайду ў свет, у бездарожжа...»

Тут «бездарожжа» — сімвал агульнай неўладкаванасці і несправядлівасці жыцця, цяжкасці жыццёвага шляху. Гэтая тэма з цягам часу стане ў беларускай паэзіі адной з галоўных.

«Я — шлях, якому век няма спакою
Ні ў чорны дзень, ні ў месячную ноч...»

У вершы «Па шляху» Я. Купала з біблейскай велiччу перадае адчуванне тугі і жыццёвай неўладкаванасці. У той жа час ён дакладна вызначае ролю Паэта як прарока, праведніка людзей на жыццёвым шляху. Тут прамая сувязь з евангельскім маніфестам Ісуса Хрыста: «Я ёсць шлях, і ісціна, і жыццё».

## ДРЭВЫ ЛЯ ДАРОГ

Распавядаючы пра беларускія дарогі, нельга не ўспомніць пра старадаўні звычай садзіць дрэвы каля дарог. Здарылася так, што апошнія сто гадоў усе старыя дарогі на Беларусі называюць «екацярынінскімі». Адметная асаблівасць іх — прысады векавых дрэваў, звычайна бяроз. Адсюль і другая традыцыйная назва — «екацярынінскія бярозы».

Матэрыялы Статутаў Вялікага княства Літоўскага, арганізацыя пошты ў Рэчы Паспалітай гавораць аб тым, што дарогам тут здаўна аддавалася належная ўвага. Так, у наказе Гродзенскага павятовага сейміка паслам на сойм 1768 г. адзначалася, што «паляпшэнне стану дарог, мастоў і пераездаў неабходна для палягчэння гандлю, для зручнасці ўсяго насельніцтва і, акрамя таго, робіць краіну прыгажэйшай».

Старой традыцыяй была і пасадка ўздоўж дарогі дрэваў. Гэты звычай культывуецца ў многіх народаў і адыгрывае важную ролю ў дарожным добраўпарадкаванні. Па-першае, дрэвы пазначалі дарогу на мясцовасці. Пры рэдкім, перыядычным руху, адсутнасці пабудаванага насыпу і пакрыцця, дарогі звычайна зарасталі, гублялі напрамак. Дрэвы як бы замацоўвалі накірунак дарогі, рабілі яго бачным яшчэ здалёк. Гэтая «сігнальная», «знакавая» роля прысадаў асабліва дапамагала зімою адшукваць шлях. Найбольш падыходзячым дрэвам, добра бачным і ўзімку, і ўлетку, была бяроза.

Дрэвы, акрамя ўсяго іншага, адыгрывалі важную практычную ролю, яны асушвалі сваімі каранямі насып дарогі. Асаблівай дрэнажнай здольнасцю валодала вярба, таму часта мы яе сустракаем ля масткоў, запруд, млыноў, перапраў, дзе вада падыходзіць проста да дарогі.

Азеляненне дарогі праводзілася разам з іх агульным «выпраўленнем», збудаваннем мастоў і гацяў. Інструкцыя князя Радзівіла ад 10 чэрвеня 1620 г. патрабуе: «як мага лепш зрабіць дарогу з Любчы да Ляцічаў, абкапаць з абедзьвух бакоў дарогу ірвамі, высадзіць рознымі дрэвамі, а менавіта ліпай, клёнамі, дубам».

Заўсёды былі прысады на падыходах да панскіх маёнткаў, касцёлаў, цэркваў, манастыроў. Групы дрэў высаджваліся ля прыдарожных капліц і крыжоў, што яшчэ больш вылучала гэтыя помнікі, падкрэслівала раздарожжа і скрыжаванні, уваходы ў населеныя пункты.



На гэтым можна было б і скончыць аповяд пра беларускія дарогі, каб не адзін важны момант. Са старажытных часоў да нашага імклівага стагоддзя дажылі рэшткі старых дарог, прысады, паштовыя станцыі і карчмы, а дзе-нідзе капліцкі і крыжы. Зараз яны, на жаль, гінуць на нашых вачах, бо не ўмеюць процістаяць пачварам, назва якіх — АГРА і ПРАМ, БУД і ДАР.

**Армэн САРДАРАЎ**

# ВАСІЛЬ ЦЯПІНСКІ. НОВЫЯ ДАКУМЕНТЫ

*Летась у Цэнтральным дзяржаўным гістарычным архіве БССР адкрыўся новы ў структуры аддзел старажытных актаў. Дакладней, гэта ўжо другое адкрыццё. Аддзел быў заснаваны ў 1964 г., а праз год зліквідаваны, на дзесяцігоддзі была штучна спынена сістэматычная распрацоўка багацейшага дакументальнага матэрыялу. Даследчыкаў чакае агромністая па памерах і унікальная па каштоўнасці праца — апісанне старажытных дакументаў, увод іх ва ўжытак беларускай гістарыяграфіі. У архіўных сховішчах знаходзіцца больш за 6 тысяч актавых кніг XV—XVIII стст. Каля 500 з іх напісана лацінкай, астатнія на старабеларускай і польскай мовах.*

*Праца аддзела мае і першыя вынікі. У актавай кнізе «Менскі гродскі суд» за 1600 г. занатаваны звесткі, што датычацца смерці найбольш загадкавай постаці беларускага асветніцтва, зямяніна Полацкага ваяводства Васіля Цяпінскага, якія дадаюць новыя факты да ягонай біяграфіі.*

*У гродскім судзе месца менскага запісана скарга жыхароў Полаччыны Канстанціна і Абрама Цяпінскіх на людзей з наваколля, якія замахнуліся на іх жыццё. Калі б не адбылася гэтая жахлівая сутычка (такая характэрная для свайго часу), не даведаліся б мы аб нагодзе іх з'яўлення ў межах Меншчыны і мэце падарожжа «... по справе своей, которую мети маем за позвы гродскими... перед судом... з земяны господарскими воеводства Полоцкого с паном Иваном и Василием Матеевичами Тяпинскими о забите через них отцу нашого пана Василя Цяпинского...»*

*Такім чынам, дакумент сведчыць, што Васіль Мікалаевіч Цяпінскі быў забіты сваімі пляменнікамі ці на пачатку 1600 г., ці ў 1599 г. ужо ў сталым узросце. Матывы гэтага злачынства невядомыя, але карані яго, магчыма, бяруць пачатак яшчэ з даўняй варожасці Васіля Цяпінскага і брата Мацея, пра што гаворыцца ў дакуменце з «Літоўскай метрыкі» («Беларускі архіў», т. 11, 1928 г.). Аб шматлікіх недабразычліўцах ды ворагах прыгадвае Цяпінскі і ў сваёй прадмове да «Евангелля».*

*Фігуруе ў дакументах раней даследчыкам невядомае імя сына Васіля Цяпінскага — Канстанціна. І, нарэшце, даведаліся мы, як называўся маёнтак жонкі Цяпінскага, княжны Зофіі Жыжэмскай — Амельянаўшчына («Омельяновщына»). Ён знаходзіўся ля Латыголі ў Менскім павеце, і, магчыма, можа даць ключ да тлумачэння другога прозвішча Васіля Цяпінскага — Амельянавіч...*

*Без сумневу, можна зрабіць новыя цікавыя высновы на падставе пададзенага тут матэрыялу.*

**Вольга БАБКОВА**

# Скарга зямян Полацкага ваяводства Абрама і Канстанціна Цяпінскіх на баяраў зямяніна К. Гурына з маёнтка Юнцаўскі за гвалтоўны напад і збіццё іх у стадоле маёнтка Крайскі

Року 1600, месяца марца первого дня.

Прысылали до враду гродского замку господарского менского до мене, Андрея Станкевича, старосты и мостовничого менского, земяне господарские воеводства Полоцкого пан Абрам и пан Костантын Тяпинские, обтежливе жалуючы и оповедаючы: иж в року тепер идучом, тисеча шестсотном, ехали дей есмо от пани матки нашоее пане й Зофеи, кнежны Жыжэмское, до места господарского Полоцка на рочки, тепер, близко в року тепер идучом, тисеча шестсотном месяца марца первого дня прыпадаючые, по справе своей, которую мети маем за позвы гродскими полоцкими перед судом гродским полоцким у Полоцку з земяны господарскими воеводства Полоцкого с паном Иваном и Василием Матеевичами Тяпинскими о забите через них отцу ношого пана Василя Тяпинского. И гды есмо року тепер идучого, тисеча шестсотного месяца февраля двадцат семого дня, прыехали до стодолы земенина господарского воеводства Менского пана Миколая Ярошевича Волчка на Крайску, которая стоит на гостинцу, который лежыт з Старын до Каменя и до Долгинова, называемое на Кобыли, не далеко речки Кобыля лежачое, ку двору и именю его милости Крайску у воеводстве Менском лежачого, и стали есмо в той помененой стодоле, хотечы в ней конем одпочынут, и скоро есмо увошли до грыдни, то пак бояре земенина господарского воеводства Менского пана Костантына Львовича Гурына именя его Юнцовского у воеводстве Менском лежачого з села Сморгов найме Болтроме й Кедройть, Лукаш Балтромеевич, Матей Василевич а Миколай Василевич Гедройти, препомневшы боязни Божое и строгости права на свовольных опысаного, з многими людьми а помочниками своими, которых они сами знают и имена их ведают, прышодшы, моцно, гвалтом в той стодоле в господе нашой до грыдни, не маючы до нас жадное прычыны, не ведати, если з направы чыее, альбо так, сами, з своее воли и умыслу своего, того дня, вышэй помененого, месяца февраля двадцат семого дня молчком, без жадное звады, с тылу мене, Абрама Тяпинского, чоловека невинного им и никому, и во всем спокойного, без брони, кийми збили и зранили и на члонку охромили, то ест плечо правое выбили, с которого окрутного збитя их не ведать, жыв ли зостану. И мало на том маючы, мене, Костантына Тяпинского, чоловека безбронного, там же, у вызбе, гвалтом и великою моцю оскочывшы, окрутне а немилостиве кийми збили и зранили, и пры нас на той же час служебника моего, Костантынового, Миколая Остроуха, теж кийми збили и зранили. И зараз на тот же час з возов корды два, а з нас шапки две, куницами подшытые, и рукавицы двои сукна фалюндышу бурнатного, смушками подшытые, а з служебника шапку, горлы лисими подшытую, порвали. И ест ли бы у в обороне жыботов наших, о чом неведаемо, которого з них, або кого иного на тот час пры них ранено, тогда се то с тих мусело за таковым, верху менованых, початком их у в обороне жывота нашого чынит. И просили, абы тое оповедане их до книг гродских менских записано было, што ест записано.

# Скарга ўрадніка маёнтка Юнцаўскі зямяніна К. Гурына Б. Гедройта на зямяніна Полацкага ваяв. Канстанціна Цяпінскага за збіццё і абрабаванне.

Року 1600, месяца марца, трыдцатого дня.

Прысылал до враду гродского замку господарского Менского до мене, Яна Куроша, подстаростего Менского, жалуючы и оповедаючы, урадник земенина господарьского воеводства Менского его милости пана Костантына Гурына Болтромей Гедройти о том, иж дей в року теперешнем, тисеча шестсотном месяца марца двадцат третего дня, в небытности его милости пана моего в дому его Юнтевскум, за одеханем его милости в пилных и гвалтовных потребах в повет Витебский, едучы бояром его милости с торгу Долгиновского, которие были у Долгинове, торгуючы купецкими речами, найме Лукаша Гедройтя и Петра Гедройтя Болтромеевичов, сынов моих, там же едучы и хотечы конем своим отпочынут, заехали дей до стодолы пана Миколая Волчка над рекою Кобылею, а потом дей, приехавшы неякий чоловек опилый, который менилсе быть Костантын Василевич Тяпинский и з слугами и з многими помочниками своими, а меновите которого дей знаем, Миколай Остроухович, слуга его, з бронми, добытыми умысльне, ведаючы, же они с купецкими речами едуть, почали дей тых бояр пана моего, а сынов моих, шляхтичов учстивых, на которых се пастьвили, и яко хотечы, водлуг злого умыслу своего, кийми били, стреляли. С которого дей бою, зранившы их окрутне, и их от возов и от товаров их отогнали и сами тые товары забравшы, тот дей Костантын Тяпинский до дому матки своее, до Лотыюлы, найме Омельяновщыны, в повете Менском лежачое, отвез а меновите товаров: воску не меней петнадцат, селедцов — пол бочки, готовых грошей — коп двадцат у Лукаша, а у другого сына моего Петра — коп сем грошей готовых. Который тот врадник пана Костанты Гурына возным и стороною тых сынов своих раны оказавшы и тые шкоды оповедавши, до книг гродских Менских записать дал, што есть записано.

Пры котором оповеданю, сего ж року тисеча шестсотного месяца марца трыдцатого дня, передо мною ж, Яном Курошом, подстаростим менским, ставшы возный повету Менского Юри Бартошевич Малопенянский ку записаню до книг гродских Менских прызнал квит свой под печатю своею и под печатьми стороны шляхты. В том квите мененое в тые слова писаны: я, Юрей Барташевич Малопенянский, возный воеводства Менского, сознаваю те сим моим квитом, иж в року теперешнем, тисеча шестсотном месяца марца двадцат осьмого дня, будучи дей мней взятому от врадника земенина господарьского воеводства Менского его милости пана Костантына Гурына Болтромея Гедройтя на огледене ран и шкод слуг бояр пана своего а сынов моих найме Лукаша и Петра Болтромеевичов Гедройтев, которые дей, едучы з Долгинова, с торгу, с купецкими речами, заехали были до стодолы пана Миколая Волчка над рекою Кобыленкою, хотечи конем своим отпочинуть, а потом дей прыехавшы неякий чоловек опилый, который менилсе быть Костантыном Тяпинским з слугами и помочниками своими, которых он ведает и знает только дей одного слугу его они познали — Миколая Остроуховича, которые ведаючи, ижтые слуги бояре пана

Гурыновы с товарами ехали, добывшы броней голых и полгаков, почели на них бить и стрелять. Там же дей их окрут не поранили, и тот товар их взявшы, до дому матки своее тот Костантын Тяпинский отвез, так же пенязей готовых, што при собе мели побр........все ширей и достаточней на оповеданю того Болтромея Гедройтя, урядника пана Гурынового, до книг гродских Менских записуючы доложоное есть, што и мною, возным, и шляхтою, на тот час при мне будучою, оповедал и оказал. А так я, возный тых слуг и бояр пана Гурыновых раны огледил, маючи при собе стороною двух шляхтичов найме Петра Миколаевича а Яна Юревича, и видели есмо тых слуг бояр пана Гуриновых, окрут непрораненых тоест: у Лукаша — руки, пальцы посечены и на хрыбте раны синие, знать же кием, так же у Петра — рана у голове тетая, и так же кием округне збит. Што я, возный, огледавшы и тое оповедане урядника пана Гурынового, слышавшы, и сейквит мой под моею печатью и под печатьми стороны шляхты, на тот час пры мне будучое, до книг гродских Менских записать дал. Писан у Менску, року и дня вышей писаного, которое тое оповедане и очевистое сознане возного до книг гродских Менских есть записаное.

*Выпис выдан*

## Квіт вознага аб аглядзе пацярпелых зямян Абрама і Канстанціна Цяпінскіх

Року 1600 месяца марца осмнадцатого дня.

На враде гродском в замку господарском Менском передо мною, Яном Курошом, подстаростим Менским, ставшы очевисто возный господарский воеводства Менского Юрей Малопенянский тот квит свой сознал и того сознаня своего квит свой под початю своею и под печатьми стороны шляхты в том квите мененое ку записаню до книг гродских Менских подал в тые слова писаный. Я, Юрей Малопенянский, возный господарский воеводства Менского, сознаваю то сим моим квитом, иж будучы, я, возный, узятым от земян господарских воеводства Полоцкого от пана Абраама и Костантына Василевичов Тяпинских на огледане их побитых и пораненых. Ино я, возный, за взетем их на справу и маючы я, возный, пры собе сторону двух шляхтичов, пана Филона Матеевича а пана Петра Юревича, року тепер идучого тисеча шестсотного месяца марца девятого дня, за оказыванем пана Абраама Тяпинского видел есми я, возный, з стороною верху помененою на нем пану Абрааме Тяпинскому, з стылу у голове рану, кием пробитую крывавую, а на руце правой, нижей запясти, рану битую, кровью подселую, успухлую, и на той же руце вышей локтя в самом плечу видел есми рану успухлую, кровью подселую, аж кости хрустят, и не ведаем о том, если плечо володати пан Абраам Тяпинский будет. Видел теж есми у него пана Абраама, хрыбет весь син, спух, кровю подсел, а на пану Костантыну Тяпинском видел теж есми по правой и левой стороне на голове раны крывавые, кием бытые, и хрибет весь збит, спух, синий, кровью подсел, и на слузе его пана Костантыновом Миколаю Остроуху видел есми рану на плечу левом синевую, успухлую, кровю подселую. Менили пан Абраам и пан Костантын Василевичы Тяпинские и слуга его

пана Костантынов Миколай Остроух, иж стало се дей нам року теперь идучого, тисеча шестсотного месяца февраля семого дня, едучы дей нам от пани матки нашое пани Зофии, кнежны Жыжемское, до места господарского Полоцкого на рочки теперь блиско в року теперь идучом, тисеча шестсотном месяца марца первого дня прыпадаючые, по справе своей, которую мети маем за позвы гродскими полоцкими перед судом гродским полоцким у Полоцку з земяны господарскими воеводства Полоцкого с паном Иваном, Василем Матеевичами Тяпинскими о забите через них отца нашого, пана Василя Тяпинского. И гды дей есмо року теперь идучого, тисеча шестсотного месяца февраля двадцат семого дня, прыехали до стодолы земенина господарского воеводства Менского пана Миколая Ярошевича Волчка на Крайску, которая стоит на гостинцу, который лежыт з Тарын до Камена и до Долгинова, называемое на Кобылине, недалеко речьки, прыналежачое ку двору именю его милости Крайскому, у воеводстве Менском лежачого, и стали есмо в той помененой стодоле господою и хотечы в ней конем отпочынути, и скоро есмо увошли до гридни, то пак бояре земенина господарского воеводства Менского пана Костантына Гурына, именя его Юнцовского, у воеводстве Менском лежачого, з села Сморков найме Балтромей Кедройть, Лукаш Балтромеевич, Матей Василевич Кедройть, пропомневшы боязни Божое и строгости права на своволных описаного, з многими людми а помочниками своими, которых они сами знают, имена их ведают, прышодшы моцно, гвалтом, там, в той стодоле, в господе нашой до гридни, не маючы до нас жадное прычыны, не ведати если з направы чыее, албо то сами з своее воли и умыслу своего, того то дня, верхпомененого, месяца февраля двадцат семого дня, молчком без жадное звады, с тылу мене, дей Абраама Тяпинского чоловека невинного им и никому и вовсем спокойного без брони, у голову ударили, с которого удареня их, гды им на землю пал, там же дей мене, Абраама Тяпинского, на земли, праве вжо без памети лежачого, кийми окрутне збили и зранили, и на члонку моем, на том плечу правом охромили, якож и шапки три, то ест две, куницами подшытые, а третяя, горлы подшытую, и рукавицы двои сукна фалюндушу бурнатного, смушками подшытые, и корды два порвали. Ино я, возный, маючы пры собе сторону шляхту, верху помененую, што слышал и видел, то все списавшы на сей квит мой, пану Абрааму и Костантыну Василевичом Тяпинским ку записаню до книг гродских Менских дал есми под печатью моею и под печатьми стороны шляхты, верху помененое, писан року месяца и дня верху помененого. У того квыты печатей прытисненых тры, которое очевистое сознане возного Юря Малопенянского и тот квит его до книг гродских Менских есть записано.

*Выпис выдан*

А. ЦЬВІКЕВІЧ

# «ЗАПАДНО-РУССИЗМ»

## II

Прычын, дзякуючы якім «Вестник Западной России» мусіў перабрацца з Кіева ў Вільню, было некалькі. Прычынілася гэтаму дрэннае матэрыяльнае становішча, якое была вынікам ня толькі малога ліку падпісчыкаў, але і няўмелага кіравання самой часопісьсю. Гаворскі быў дрэнным гаспадаром «Вестника», выдаваў яго неахайна і неакуратна, заблытваў разрахункі. Чарговыя кніжкі яго выходзілі са спазьненьнем на месяц, а то і два — тры, і гэта рабіла на падпісчыкаў дрэннае ўражаньне. Ратуючы журнал, Гаворскі зьвяртаўся за дапамогай да ўсіх знаёмых, але просьбы ў большасьці былі дарэмнымі, бо прыхільнікаў у «Вестника» на Украіне было надзвычайна мала. Сам Гаворскі скардзіўся, што нават сярод украінскага чынавенства і духавенства, якія мелі непасрэдны загад ад вышэйшай улады падпісвацца на «Вестник» за скарбовы кошт, нават і тут ён не знаходзіў падтрымкі. Аб шырокім грамадзтве Кіева і ўкраінскае провінцыі няма чаго і гаварыць. У найбольш жывой і актыўнай частцы яно спачувала лібэральным і ўкраінафільскім часопісям, і груба-патрыотычны «Вестник Западной России» выклікаў з яго боку толькі варожасьць. Да ўсяго — барацьба Гаворскага з украінафільскім рухам у 1864 г. страціла ўжо сваю ранейшую вострасьць. Дзякуючы польскаму паўстаньню, правыя ўрадовыя сфэры Пецярбурга, кіраваныя «тройцай» у складзе міністра ўнутраных спраў П. Валуева, обэр-прокурора сыноду гр. Д. А. Толстого і шэфа жандараў кн. В. Долгорукова, падтрыманыя ў Маскве ўплывовым рэдактарам «Московских Ведомостей» Катковым, узялі гару над пецярбурскімі лібэраламі і пачалі жорсткую кампанію ўціску ўсялякага нацыянальнага руху. Разам з паўстаўшай Польшчай, урадовым рэпрэсыям падпала і Украіна, якая так буйна ўзьняла ў пачатку 60-х гадоў працу па сваім нацыянальна-культурным адраджэньні. Згодна формуле Гаворскага, украінская справа была абвешчана «коварной иезуитской интригой», нацыянальныя школы, падручнікі на ўкраінскай мове, лекцыі, сходы, спэктаклі, нават казаньні ў царквох паўкраінску,— усё было прызнана дзяржаўна небясьпечным і забаронена. Пачалася расправа з найбольш актыўнымі ўкраінскімі працаўнікамі. Калі ў гэтым сэнсе яшчэ заставалася што-небудзь дарабіць, дык гэтым заняўся «Киевлянин» — толькі што заснаваная газэта Шульгіна (бацькі сучаснага монархістага), выдаваная ў Кіеве з 1864 г. і таксама прысьвяціўшая свае сілы

Працяг. Пачатак у № 2, 1991 г.



**Уваскрашэнне і сыходжанне ў пекла. (Фрагмент абраза́), XVIII ст., в. Бездзеж Драгічынскага раёна.**



**Сынковіцкая царква. Фасад.**



**Сынковіцкая царква. Апсіда.**



**Царква ў вёсцы Мураванка.**

З гэткай-жа адданасьцю падтрымлівае Гаворскі і іншыя пачынаньні муравьёўскае ўлады ў галіне культурнага жыцьця Беларусі.

Ён прымае бліжэйшы ўдзел у разгроме віленскага археолёгічнага музэю; якому разгрому быў наданы характар «преобразования». Пагромная прамова на паседжаньні Археолёгічнай камісіі 11 лютага 1865 г. нейкага А. Сталыпіна, калі гэты «преобразователь» называў віленскі музэй «помнікам чужаземнага ярма, які з сорамам абыходзяць «западно-русские люди», і заклікаў «западнорусских» людзей «быть неусыпными в борьбе с полонизмом»,— называецца Гаворскім «гістарычнай, надзвычайнай і нябывалай» па сваім актыўна-патрыотычным значэньні. У другім месцы ён дэтальна апісвае факт разгрому музэю і пералічвае ўсе тыя «крамольныя» экспонаты, якія былі выбраны П. Батюшковым і разасланы ў Пецярбург, Маскву ды інш. гарады Расіі. У ліку гэткіх «крамолаў» аказаліся труба Касьцюшкі, палітон А. Міцкевіча і інш. рэчы[1].

У зьвязку з «преобразованием» музэю і існаваўшай пры ім віленскай публічнай бібліотэкі, «Вестник Западной России» зьвярнуўся з адозвай «к свежим русским людям, которые прибывают в Западный край для деятельности на пользу коренного здешнего народа», дзе просіць дружна дапамагчы вялікай народнай праваслаўна-рускай справе. «Кожны з гэтых рускіх людзей»,— гаворыцца ў адозьве,— «што змагаецца тут з лаціна-польскай пропагандай, натыкаецца тут на зьявішчы, якія радуюць сэрца сваёй сувязьзю з карэннай Расіяй, якія зьяўляюцца сьвяшчэннымі помнікамі адзінства духоўных помыслаў і інтарэсаў Заходняй Русі з усёй вялікай Расіяй. Няхай-жа яны ўважліва зьбіраюць і запісваюць гэтыя зьявішчы. Ва ўсіх кутках Заходняй Расіі даволі знойдзецца расійскіх рук і галоў, каб настойліва зрабіць гэтую справу — гістарычнай, палітычнай і рэлігійнай сьвядомасьцю давесьці, што мы тут «исконные владыки». Адозва канчаецца заклікам надсылаць усе сабраныя матэрыялы на адрас музэю і бібліотэкі[2]. Да рэчы, ён падмацоўвае гэты заклік зваротам «да ўсіх славян, якія пішуць лацінскім шрыфтам», «да ўсіх славян-лацінщчыкаў», разумеючы пад імі чэхаў, славакаў і славенцаў.

Актыўны ўдзел бярэ Гаворскі і ў выданьні «Книги для чтения на простонародном наречии», у якой, да рэчы кажучы, менш за ўсё было гэтага «наречия». Кніга была рэдагавана яшчэ пры Шырынскім-Шахматове, і ў першым выданьні, накшталт «Родного Слова» Ушынскага, зьмесьціла даволі мясцовага пэдагогічнага матэрыялу[3]. У далейшых выданьнях, дзе прыклаў руку Гаворскі, яна абярнулася ў патрыотычна-вялікарускую хрэстоматыю, складзеную з апавяданьняў аб маскоўскіх князёх і царох, з царскіх гімнаў, табельных календароў, вялікарускіх песень і г. д. Русыфікатарскае значэньне гэтае «кнігі» выключнае: першае яе выданьне разышлося ў ліку 5.000 экз., другое — у 10.000 экз., трэцяе — у 20.100 экз. і чацьвертае — у ліку 40.000 экз.

Выказваўся Гаворскі таксама і з прычыны організацыі маладэчанскай і панявескай настаўніцкіх сэмінарый, якія павінны былі «ўзгадоўваць у настаўнікаў любоў да праўды, самаахвярнае выконваньне законаў і прывязанасьць да расійскай нацыянальнасьці»[4]. Аднак асаблівага захапленьня ў Гаворскага пры гэтым ня было. Па пытаньні аб мясцовай сярэдняй і асабліва вышэйшай адукацыі ён меў асаблівы погляд,— надзвычайна характарны выключна для яго «западнорусской» партыі. Выказаў яго Гаворскі з прычыны проектаванага адчыненьня ў Вільні замест унівэрсытэту — духоўнай акадэміі. Да думкі адчыніць акадэмію схіляўся Муравьёў, бараніў яе сам Іосіф Семашка і рэшта працаўнікоў «русского дела». «Дзеля таго, каб абрусіць Заходні край, нам патрэбна»,— пісаў «Виленский

---

[1] «В. З. Р.», 1868, кн. IV, стар. 202.

[2] «В. З. Р.», 1864—65 гг., кн. VI, отд. IV. «К русским людям», стар. 308. Ibid.— 1868, кн. II, отд. IV.

[3] Адносіны кн. Шырынскага-Шахматова да мясцовых асаблівасцяў Беларусі былі даволі цярпімымі. Ласьне гэтая цярпімасьць і стала прычынай таго, што ён быў заменены Корніловым. Пры Муравьёве ён быў у Вільні менш чым год,— а затым мусіў падаць просьбу аб адстаўцы. У літаратуры няма дакладных вестак аб разыходжаньнях паміж Шырынскім і Муравьёвым. А. Белецкі (гл. яго «Сорокалетие русской начальной школы», стар. 64) глуха заўважае, што паміж імі былі «некоторые шероховатости».

[4] Н. Знойко. «К 50-тилетию Молодеченской Учительской Семинарии» («Педагогический журнал», 1914).

Вестник»,— «узвысіць у ім расійскую народнасьць, рускі дух, расійскую асьвету і г. д. Для дасягненьня нашых нацыянальна-расійскіх інтарэсаў мы павінны прыпомніць і скарыстаць тую практыку з народнай асьветай, якую ў свой час праводзілі тут Адам Чарторыйскі і Фадзей Чацкі. Дзеля гэтага абавязкова патрэбна адкрыць у Вільні духоўную акадэмію з гісторыка-філёлёгічным факультэтам; апошні патрэбны для таго, каб выхоўваць на месцы настаўнікаў, даваць ім адпаведную пэдагогічную падрыхтоўку»[1].

Гаворскі адказаў: «Мы не падзяляем гэткага пераконаньня. Пры існаваньні побач з Вільняй, на адлегласьці ўсяго толькі аднаго-двух дзён па чыгунцы, пецярбурскай духоўнай акадэміі, адкрываць тут акадэмію няма ніякае патрэбы,— толькі дарэмная страта грошай. Апрача таго, *згрупаваньне ў гэтай акадэміі студэнтаў з заходня-рускіх*, у тым ліку быўшых вуніяцкіх сэмінарый, *шкодна адбілася-б на іх выхаваньні ў сэнсе сучаснага ачышчэньня расійскае мовы ад мясцовых провінцыялізмаў і беларускага акцэнту* (курсіў наш.— А. Ц.), ад чаго яны, зьяўляючыся тутэйшымі ўраджэнцамі, ня могуць пазбавіцца ў мясцовых сэмінарыях. Калі пазбавіць іх сувязі з студэнтамі — ураджэнцамі вялікарускіх губэрань, яны ня здолеюць пранікнуцца «истинно-русским духом», расійскім праваслаўем і расійскімі звычаямі і, гэткім чынам, ня будуць магчы пазбавіцца цалкам ад тутэйшай пальшчызны»[2].

Погляд Гаворскага, як вядома, перамог, і віленская духоўная акадэмія адчынена ня была.

Загады і мерапрыемствы Муравьёва аб назначэньні ў Беларусь, пасьля паўстаньня, расійскіх чыноўнікаў таксама сустрэлі з боку «Вестника Западной России» поўнае прызнаньне і падтрыманьне. Трэба зазначыць, што адозвы, якія пісаў Муравьёв і Корнілов да расійскага грамадзтва, «прыйсьці з дапамогай Заходня-Рускаму краю» — сустракаліся гэтым грамадзянствам спачатку вельмі сьцюдзёна. «Ня гледзячы на запросіны і вызавы праз папячыцеляў і праз газэты, доўгі час не зьяўлялася ахвотнікаў займаць месцы ў Заходнім краі»,— скардзіцца Корнілов[3].— «Прычыны гэткага зьявішча тлумачацца вельмі проста: служба ў Заходнім краі вымагае ад рускага большае працы, энэргіі і такту, чым у цэнтральных губэрнях. Самае жыцьцё ў павятовым горадзе або ў бедным мястэчку, воддаль ад усяго роднага, сярод людзей, чужых па веры і па пераконаньнях, а вельмі часта проста варожых, зьяўляецца малапацяшаючай. Па-за службай жыцьцё расійскага чыноўніка, поўнае трывогі і няпрыемнасьцяў, абмяжоўваецца вузкімі рамкамі сямейнага або таварыскага гуртка».

Адзіная магчымасьць прывабіць сюды на службу вялікароса — гэта было даць яму як мага большую пэнсію. Грошы,— вось чым замест ранейшай ідэёвасьці і патрыотычнага служэньня інтарэсам імпэрыі пачаў заахвочваць Муравьёв і Корнілов расійскае настаўніцтва і чынавенства. «Вестник Западной России» з захапленьнем падхапіў гэтае мерапрыемства: яно як нельга лепш адказвала яго ўласным апэтытам і да пэўнай ступені апраўдвала зьяўленьне яго самога ў Вільні. Програма «обрусения Белоруссии» з гэтага моманту ясна вызначылася ня як культурнае ці нацыянальнае заданьне, а як вузка экономічны, папросту сказаць, шкурны інтарэс тых «дзеячоў», што пачалі з 1864 году ехаць на Беларусь на цёплыя месцы, на падвойныя пэнсіі, нагароды, пад'ёмныя, ордэны і г. д.

Панаехала гэтых «дзеячоў», трэба зазначыць, надзвычайнае мноства. «Натоўпы тых, што знаходзіліся *пры* (ген.-губарнатары) і *по* (упраўленьні краем) з кожным днём усё павялічваліся»,— піша ў сваіх успамінах А. Мосолов,— чыноўнік асобных даручэньняў пры Муравьёве[4]. Работы для іх у самай Вільні не хапала, і шмат каго пасылалі па мясцох проста бяз пэўнага назначэньня, «в распоряжение» губарнатараў. Імкненьне гэтых паноў да службы было вялізарнае,— кожны ехаў сюды ці для таго, каб пралажыць сабе дарогу па службе, ці то для таго, каб паправіць папярэднія памылкі і няўдачы. На провінцыі, расьцярушыў-

---

[1] «Памяти гр. М. Н. Муравьёва. «К истории Виленского учебного Округа». И. П. Корнилова, СПБ, стар. 171.

[2] «В. З. Р.», 1865—66 г., кн. II, отд. IV, стар. 238.

[3] «Памяти М. Муравьёва». «Общие замечания о Виленском учебном округе», стар. 8.

[4] А. Мосолов. «Виленские очерки», 1863—1865 гг.

шыся па глухіх кутках Беларусі, уся гэтая чыноўная сіла сапраўды адчувала сябе ня надта добра,— мусіла жыць у варожым акружэньні і ад нуды, як кажуць, «піла горкую» і гуляла ў карты.

Наплыўшы з глыбіні Расіі адно ў мэтах напхаць сабе кішэню і ня маючы абсолютна нічога стрымліваючага, уся гэтая арава чыноўнікаў, паліцэйскіх, пасярэднікаў, настаўнікаў, а то проста афіцэраў тых бязьлічных жандарскіх і казачых пастояў, якія хмарай пакрывалі пасьля паўстаньня «заміраную» Беларусь,— унесла ў край надзвычайны маральны распад, збэсьціла і спростытуявала грамадзкае жыцьцё ў самых асновах. «Адзінае шчасьце для краю»,— піша аб гэтых часох адзін з сучасьнікаў,—«была надзвычайная хціваcьць гэтых псэўда-патрыотаў на грошы. Толькі ў хабары можна было знайсьці сабе ў той час паратунак ад гэтае ўлады; трэба было адкупляцца на ўсе бакі, каб пазбавіцца ад вобыскаў, рэвізій, скандалаў, якія пакідалі пасьля сябе сьляды поўнага зьнішчэньня»*. Толькі ў рэдкіх выпадках траплялі на Беларусь людзі грамадзкі сумленныя, якія сапраўды хацелі служыць справе, а ня грошам.

Залітая крывёй толькі што задушанага паўстаньня, разбураная гаспадарча, змучаная і зьбітая з нормальнага жыцьця, краіна сапраўды стагнала ад гэтае процьмы кар'ерыстых і прайдзісьветаў.

У Вільні ў гэтым сэнсе было крыху больш прызваіта (...) Цэнтрам новастворанага расійскага таварыства ў Вільні быў у той час Эўропэйскі готэль, дзе спатыкалася ўся расійская колёнія. Тут быў агульны стол, тут адбываліся «патрыотычныя вечары» з пяяньнем расійскіх песень, гімнаў і традыцыйным камарынскім, тут, разам з прыехаўшымі з Масквы і з беларускай провінцыі знаёмымі, абгаварваліся ўсе палітычныя навіны, мерапрыемствы ўлады, а таксама службовыя прызначэньні. Другім месцам спатканьня расійскага грамадзтва была кватэра Корнілова, салон Е. Потаповой — жонкі віленскага губарнатара і «попечительницы детских приютов Северо-Западного края». Урэшце, не бракавала і «русского клуба» (...) Тут таксама адбываліся «задушевные беседы» на тэму аб абрусеньні Беларусі, абгаварваліся дасягненьні і недахопы ў гэтай працы, выхоўваўся патрэбны ўзбуджаючы настрой.

У Вільні стварылася два сьветы: з аднаго боку, старое польскае грамадзтва, стэрорызаванае, загнанае ў кут, асабліва ў асобе тых работнікаў, якія перад 63-м годам зьяўляліся носьбітамі мясцовай культурнай думкі і творчасьці, пачынаючы старым Нарбутам, братамі Тышкевічамі, Круповічам, энэргічным Кіркорам ды інш., і з другога боку — грамада вялікаросаў — губарнатараў, афіцэраў, чыноўнікаў. Удзелам першых была агульна-нацыянальная жалоба, забарона выходзіць з дому пазьней пэўных гадзін увечары, грукат барабанаў і жах, шыбеньніцкія працэсіі на Лукішкі; разбураныя кнігарні, закрыты тэатр, забарона ўжываць польскую мову ў публічных мясцох, і ў пэрспэктыве — нямінучая эміграцыя з краю, дзе прайшло ўсё жыцьцё, які быў так дарагі,— эміграцыя з роднай Вільні ці то ў Варшаву, ці то ў Пецярбург, а то і за граніцу. Удзелам другіх былі афіцыяльныя парады, казённыя сьвяткаваньні з тостамі «за царя и отечество», ілюмінацыі ў царскія дні, рапорты і камандыроўкі ў сталіцы, рэвізіі па губэрнях з малебнамі і царкоўным хорам, урачысты трыумф над падбітым ворагам (...)

Гаворскі і рэдакцыя «Вестника Западной России» ўсёй душой належалі да гэтага «хорошего русского общества». Праўда, у гурток вышэйшых чыноўнікаў, у тую асярэдзіну, якая была блізка да Муравьёва і Корнілова, іх ня пушчалі,— фігура Гаворскага, як зацятага рэнэгата, браўшага цішком грошы з генэрал-губарнатарскае канцылярыі, была, відаць, не да спадобы вышэйшым чыноўнікам, і асабліва з ім не таварышавалі. Тым ня менш, ён чэсна служыў ім сваім «западно-русским» сумленьнем і ад душы хацеў быць жывой сувязьзю паміж гэтым чыноўным сьветам і мясцовым жыхарствам.

**Працяг будзе.**

* E. Wasilewski. «Wspomnienia z przeszłości», Wilno, 1907, стар. 108. Аб тым-жа гл. «Moskiewskie na Litwie rządy» (1863—1869), Kraków, 1869, стар. 375,— праца ананімная і, відаць, напісаная з чужых слоў.

# ДАКУМЕНТЫ БЕЛАРУСКАЕ САЦЫЯЛІСТЫЧНАЕ ГРАМАДЫ ЧАСОЎ РЭВАЛЮЦЫІ 1905 г.

Беларуская Сацыялістычная Грамада. У 20-я гады яе называлі нацыянальна-рэвалюцыйна-народніцкай дэмакратычнай партыяй, блокам народнікаў і марксістаў.

У сялянскай краіне, якою была Беларусь, ідэі марксізму знаходзілі паслядоўнікаў найбольш у гарадах, мястэчках, сярод інтэлігенцыі. Ні РСДРП, ні тым больш Бунд ці Паалей-Цыён не выказвалі спецыфічна беларускіх інтарэсаў, інтарэсаў маладой, яшчэ кволае нацыі. Гэта маглі зрабіць *беларускія* марксісты. З усіх марксісцкіх партыяў толькі яны звярталіся да беларускага народа ў яго роднай мове. Беларускіх марксістаў была жменька (Іван і Антон Луцкевічы, Цётка, Алесь Бурбіс...) Таму яны не маглі не ствараць блок з народнікамі. Сацыялісты-рэвалюцыянеры, спадкаемцы народніцтва 70—80-х гг. XIX ст., выказвалі інтарэсы сялянства. Праўда, яны таксама не надавалі асаблівага значэння беларускай нацыянальнай і сацыяльнай спецыфіцы. Паслядоўнікі М. Чарнышэўскага, эсэры стаялі за «общину», за «переделы», а ў цэнтры і на захадзе Беларусі яшчэ з часоў валочнай памеры (1557 г.) склалася спадчыннае сялянскае землекарыстанне. Нельга, аднак, забываць, што менавіта народнікі — сацыялісты, рэвалюцыянеры — першыя заявілі аб нацыянальных правах беларусаў у часопісе «Гомон» (1884 г.). Менавіта з нацыянальна сведамымі народнікамі беларускія марксісты склалі першую нацыянальную палітычную партыю — Беларускую Сацыялістычную Грамаду (1903 г.).

З тае прычыны, што партыя была блокам, яна не выпрацавала дасканалай аграрнай праграмы. Да гэтага трэба дадаць і адрозненні паміж усходняй часткай Беларусі (Магілёўшчына, Віцебшчына, Смаленшчына, паўночная Чарнігаўшчына), дзе панавалі «община» і «передел», і цэнтральна-заходняю часткай са спадчынным землекарыстаннем. І трэці фактар: пры спадчынным землекарыстанні сялянскія парцэлы драбніліся і драбніліся. Як зняць супярэчнасці? Як задаволіць усіх сялян? «Добрэ было бы, каб уся віоска чы там часць яе, кали надта вялікая не дзелила зямли, але каб вела гаспадарку гуртом»,— чытаем мы ў пракламацыі «Першы мужыцкі зъезд». БСГ не настойвае, але пэўным чынам згаджаецца з эсэраўскімі пастулатамі «сацыялізацыі» зямлі і «кааперацыі». Згаджаецца яна і з падзелам зямлі па колькасці душаў у сям'і, і з перадзеламі праз кожныя дванаццаць гадоў, але пры той умове, што ў такім разе «кожны ведзе гаспадарку асобно». У другой пракламацыі («Да усих работникоў и работниц дваровых...») мы чытаем нешта іншае: «По справедливосци, то зямля — ничья, нихто яе сам не зрабіў, и дзеля таго яна павинна належэць да усяго народа, да усей нацыи...» Тут ужо думка пра нацыяналізацыю.

Гісторыкі ў 20-я гады дакаралі БСГ за недасканаласць яе праграмы. І рабілі гэта дзеля таго, каб давесці, што толькі бальшавіцкая партыя выпрацавала правільную аграрную праграму. Але гэта не так. У бальшавіцкай партыі ішла палеміка паміж прыхільнікамі муніцыпалізацыі зямлі і нацыяналізацыі. Дэкрэт жа аб зямлі, прыняты на II Усерасійскім з'ездзе рабочых і салдацкіх дэпутатаў, бальшавікі запазычылі ў сацыялістаў-рэвалюцыянераў.

Гісторыя паказала, што ні прыватная ўласнасць, ні муніцыпалізацыя, ні нацыяналізацыя зямлі не ўратуюць селяніна ад гвалту і здзеку, калі не будуць створаны адпаведныя інстытуты сацыяльнай аховы земляроба,

калі ў грамадстве не ўсталюецца дэмакратыя. Гісторыя паказала, што толькі ўласнікі могуць кааперавацца (супрацоўнічаць) на роўных правах з іншымі ўласнікамі. Прыклад такое кааперацыі — Данія, Швецыя, Аўстрыя, Фінляндыя, Нідэрланды... Але для цывілізаванае кааперацыі патрэбна цывілізаванае грамадства.

Гісторыкі 20-х гадоў дакаралі БСГ за яе контррэвалюцыйнасць у 1917 годзе і пазней. Яны пісалі пра яе «дробна-буржуазную дэмакратычную сутнасць». Гісторыкам не падабалася дэмакратычнасць БСГ. Так, большасць партыі не падзяляла тэзіса пра дыктатуру пралетарыяту. Разам з іншымі марксісцкімі партыямі Беларуская сацыял-дэмакратычная партыя, што вылучылася з БСГ, у 1918 годзе адкінула адно з асноўных палажэнняў у тэорыі К. Маркса. У той час як бальшавікі стваралі пралетарскую дзяржаву, пралетарскія законы, беларускія сацыялісты — стваральнікі БНР — выказваліся за ўсеагульнае, роўнае і прамое выбарчае права, супраць цэнзуры, за свабоду сумлення і г. д. Як і ў 1905 годзе, яны былі за парламент, за дэмакратыю (гл. пракламацыю «Што такое канстытуцыя»).

І яшчэ адно. БСГ настойліва бараніла нацыянальныя правы нашага народа. Яе дзеячы распачалі беларускі друк і школьніцтва, былі ініцыятарамі склікання Усебеларускага з'езду, абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі. З шэрагаў БСГ выйшлі і дзеячы БССР — З. Жылуновіч, А. Чарвякоў, Я. Дыла... Як і ў 1905 годзе, яны былі перакананыя, што «кажны народ павинен мець свой сэйм», што «выборные ад усей зямли Беларуской... будуць раиць, на якие народные патрэбы маюць исьци грошы, што плациць народ, якие назначаць падатки, каб не абдзираць бедных людзей, якие устанауляць законы, каб были справедливые».

Сацыяльная справядлівасць, дэмакратыя, роўнасць, свабода, прыярытэт закона...

Па-ранейшаму яны застаюцца ідэаламі.

Па-ранейшаму мы пра іх марым.

Анатоль СІДАРЭВІЧ

*Працавита бедната ўсих краёў, злучайся!*

# ЦАРАВО ЖНІВО

## [Па выпадку расстрэлу 9 (22) студзеня рабочых у Пецярбургу.]

Чули муси, таварышы, па крысе, што дзелася у Петербурху, чули што лилася кроў. А за што, ци хоця ведаете.

Цяжка працаваць беднаму народу, усюды здзирства и гнибенне. Ня ляпей было и у Петербурху: працавали цяжка, а зарабляли мала, не тольки, што плацили мала, дый здзекавалися яще дый круцили. Ужо з два гады думали работники, як бы сваю долю паправиць, али нияк згаварыцца уси разам не магли. Гэты рок ящэ горш было, бо праклята вайна ци мала рук ад сахи, ад касы наканец свету забрала и хвабрычным и да хаты пасылаць и на сябе зарабляць трэба была. А и работы на каторых хваб-

Тэксты дакументаў публікуюцца паводле выдання Інстытута Беларускае Культуры «Соцыялістычны рух на Беларусі ў праклямацыях 1905 году» (Менск, 1927).

рыках менш стала, а на каторых и заўсим не стала. Кудыш дзецца работником и тольки цэну за роботу псуюць адзин аднаму.

мала яно даць няпраўду, ды так, каб работники за праўду яе трымали. Парабила яно — «саюзы» — кватэры, гдзе магли збирацца работ-




Сяргей Цімохаў. Іван Луцкевіч. Палатно, алей. 1981. З прыватнага збору С. Сокалава-Воюша.

ники, гаварыць, а пасадзила туды сваіх людзей, каб народ у руках трымали, да цара гарнули. Як багата таких людзей, што народу вочы туманяць — жандароў, настаўникоў, приставоў, али тут знайшоўся чалавек — сам з беднаты

Пачули ўсе, што кепска, а скуль кепска, добра ведаем. По ўсе з гнибения таго, з цара дый палици, што народу навет о бедзе сваёй пагаварыць дый паталкаваць не дае.

Увидела правительства, што самы работники праўду пазнаюць, заду-

выйшоў, беду народу добра разумеў и стараўся заўсёды падаць раду. Гэта быў бацюшка Рыгор Гапон.

Яго правицельства над «саюзами» паставила, а ён работником, а не правицельству служыў.

Вучыў ён работникоў, як у других краёх працавиты народ жыве, як сабе раду дае, дый падмовиў народ на новым року сёлета кинуць працу дый пайсци да цара прасиць, каб ён заступиўся за их проци ўселяких крыўдзицеляў. Да и подмаўляць ня трэба было, ўси добра ведали гнибенне правительства, бо з никого яно тольки падаткоў не дзярэ, як з бедных, никому так мала не дае, як бедным працавитым, ўси самы рады шукали. Ведали яны, што правицельства пияўка, а таки спадзевалися, што цар мо што кольвек паможе.

Дзевятаго дня студзьня месяца пашли пад цароў палац и як папрыбиралися, як на свята, бацюшку Гапона на перэд пусьцили, шапки паздымаўшы пад палац падходзяць. Цар добра ведаў, чаго работники да яго идуць и гэта ведаў, што прысягали яны яму ниякай крыўды не зрабиць, а таки выпусьциў на народ войска, жандароў, казакоў, народ разганяць. Стали страляць, коньми таптаць, шаблями сеч и забили и накалечыли больш як дзве тысячы народу.

Тут тольки пазнали работники, што ад цара ничого добраго не спадзяваецца, што цар-бацька тольки для крыўдзицеляў нашых, для палици, хвабрыкантаў, паноў, а для нас,— беднаты працавитай ён наибольшы крыўдзицель, бо ён войскам дый палицiей сваёй за багатых бярэцца, а з бедных людзёў тольки падатки здзирае.

Ведае ён добра, што голодному народу, тольки хлеб у голове, а будзе народ сытшы, тогды и думаць здалее и дадумаецца, што пачатак бяды з яго — з цара.

Пакуль народ голодны дый дурны, патуль и цару жыцьцё.

Гэта и пецербурские работники зцямили дый зараз па стрэлох крычали, и мы за ими гукнем:

Далоў цара! Далоў царава правительства!

Беларуска социялистычна грамада.
У студзьня месяцу 1905 року.

# ШТО ТАКОЕ КОНСТЫТУЦЫЯ

Ужо дауно усякiй мужык жалицца, што кепска жыць на свеци бедным людзям: усякiй дзярэ, усякiй бярэ, усякiй крыудзиць. Не знайдзеш нигдзе ни суда, ни справедливосци. Падатки за землю ды усякiе акцызы зоусим нас заели, а тут ище пачалася гэта праклята война — и хоть памирай. Скольки работникоу павыбирали з вiосок, скольки кармильцоу павысылали на убой, скольки новых падаткау панакладали, а гэтаж ище тольки пачаток: цар и яго чыноуники кажуць, што людзей многа — «людзи растуць, а земля не расце», кажэ цар. Бо и чагож им шкадаваць — сваих галоу яны пад кули не падстауляюць. От и цяпер кажуць, што хутко возьмуць апалчэнiе, бо надто много нашых солдат выбили японцы. Скажыце, людзе, за што мы ваюем? За што мы сваи головы нясем? Нашто нам патрэбна гэто Манчжурiя, и якая была бы нам карысць, каб мы ж сваею кроую заваевали? Зямли у нас кольки хочэш, тольки не у бедных людзей, а и у нас на Белой Руси цэлые сотни тысяч дзесяцин належаць да казны, катора гэту землю раздае усяким царэнятам и крыудзицелям беднага народу.

Так само было бы з гэтою Манчужырією, каб мы яе заваевали. Манчжурія патрэбна не нам, а тольки правицельству и багачам, которые хочуць сосаць кроу з таго працующага народу, што жыве на той земли. Не мы хацели гэтой вайны: цар и царенята и усіо правицельство хоцели пожывицца, та и пажывилися. Гэта вайна каштуе ужо две тысячы мильоноу рублiоу, и гэтые грошы выциснули з народу; а чыж вы думаеце, што усе тые грошы на праудзе пашли на вайну? Ой не! Палавина паразходзилася па кишенях царских сваякоу чыноуникоу; так чамуж им не ваеваць, для них гэто война-жниво! Ну и скажыце людзе, чамуж гэто так? Чаму мы на усіо гэто пазваляем, чаму мы так цяжка працуем, знимаем з сябе апошнюю кашулю, пасылаем на смерць сваiх сыноў и братоў, чаму пазваляем, каб нас абкрадывали ды ищэ здековались над нами? — А мусиць таму, што мы народ ціомны и дурны: каб мы были разумнейшие, то мы бы ведали, што за нами сила. Пасчитайце сколько нас, а сколько царских чыноўников, гэтож у царевом войске нашы сыны и браты, каб яны и мы были разумнейшые чыж яны пашли бы проціу нас? Гэта разумеюць добра цар и яго чыноуники и стараюцца усеми силами каб мы были сляпые, бо ведаюць яны добра, што конец их панаванню, як тольки мы пазнаем прауду. Тож усюды учаць паны, жандары, палиція казенные настауники, што цар усіо роуна што Бог, што ен дае мужыкам усякіе добрадзейства.

За границэю лепей жывецца мужыкам; тамтэйшы мужык и багатшы и разумнейшы и нихто не мае права яго крыудзиць и знайдзе ен сабе суд и праведливосць, а неколи и у них такжэ было як у нас, аж пакуль народ не пазнау, што так жыць не можна и потрэбовау каб ихній цар дау им больша прау и свабоды.

1. Перш на перш зразумели, што для таго, каб паправиць сваю долю трэба быць разумнейшым, ведаць адчаго залежыць беда и як яе паправіць — для гэтаго трэба свободы слова, каб усякій челавек меу право свободно гаварыци: кто яго и як крыудзиць, каб меу право обратиць свои бяды и патрэбы нихто за гэта не меу бы право яго крыўдзиць и судзиць.

2. Далей зразумели, што патрэбна свобода друку газэт и книжек без цензуры правицельства, каб можно было об усіом свободно писаци; пакуль нима гэтой свободы трудно людзям згаварицца, але нихай тольки будзе свобода друку, так зараз усе праудзивые прыяцели народа пачнуць писаць об том, што трэба бедному челавеку, тады газэты и книжки пойдуць у все концы зямли нашэй, прачытаець народ, пабачыць што прауду пишуць, научыцца тагды народ шукаць сабе помочы и пазнае як яму спрауляцца з сваими крыудзицелями, можно будзе смела писаць хто каго гдзе скрыудзиу и як другія людзи дабилися праўды. А як іосць свобода друку, то ужо ня може нихто забораниць писаць и чытаць усяго гэтаго.

3. Далей дабилися людзи свободы змовы, брацтв, сходоу, што значыць каб можна было не боятса ни урадникоу, ни земских, ни жандармоу, а можно было змаулятца и сбирацца людзям на сходы таварыства як цяпер у воласци, не тольки у адной віосцы, але и у повеце и у губерніи, а на гэтаких сходах талкаваць о сваих бедах и крыудах, каб памоч им, бо як кожный з нас па сабе будзе крычаць, што яго крыудзяць, то з гэтаго ничога не будзе, але як мы усей губернией, або и несколькими губерніями, сталкуемся дый заявим разом о своих бедах и патрэбуем каб нам зрабили тае, што мы хочэм, то нам повинны зрабиць, што мы хочэм, бо тогды за нами сила. Як іосць свобода слова, друку, сходау и таварыств, то не трудно людзям згаварыцца; кождая віоска навет самая забитая и дур-



Антон Луцкевіч. 30-я гг.

ная, што цяпер и света божага не видзиць, можэ тоды свободне палучаць газэты и книжки, сходзицца на сходы, закладаць таварыства, и тады одна віоска згаварыцца з другой тая з трэцей и так весь павет, тады одзин павет з другим и вот ужо мы сила.

4. Дадумалися людзи за границею да таго, што каб паправиць сваю долю трэба мець свободные училища и школы, каб каждая віоска мела право наймаць сабе такого учыцеля, якога сама хочэ и учыцца праудзивой науки и каб учыли дзяцей для лепшага вырозумення науки и на их бацьковый мови и каб не учыли баламутняго богаслоўя, як цяпер учаць папы и настауники па віосках бо гэта страта часу и карысци на грош нима, а як будзе свобода обучения, то нихто не мае права умешывацца в обучение, каго мы захочэм таго и выберем сабе за учыцеля и никаму да гэтага дзела нима; дабилися там ище людзи обучення огульнаго, канечнаго для усех; тагож трэба и нам.

5. Далей за границаю, як например у Японіи дабілися людзи свободы веры и народносци, там усяки веруе, як сам хочэ, и ужывае усюды своей прырожоной мовы; за веру и народносьць никого не маюць права преследоваць и судзиць.

6. Дабилися и ответственносци чыноуникоу перед судом народа, ня тольки такой дрэбязы як урядники; прыставы, земскіе и жондары, але и важнейшых чыноуникоу, як министры и санаторы; у нас бедный человек мусиць маучаць, хацябы яго крыудзили неведома як: ищэ на урадника и пристава, кали знайдзецца добры чалавек, можна знайсци управу, а як на министра чы губернатора, то ужо суду нима, нихто апрыч цара не мае права іх судзиць, а цар з ними за адно, будзь яны хоч паследніе злодзеи и разбойники ничого тут не падзелаеш, але як іосьць у народа право трэбоваць ответу у усих чыноуникоу и министроу, тады самый малый и бедный человек, мае право падаваць у суд на всякага и знойдзе справедливосць.

7. Добилися тагож безпеченства особистое усякага человека, каб нихто не меу права без суду арештоваци и крыудзици, нетак як цяпер у нас абы за што зараз без ніякага суду содзяць да цюрмы.

8. Каб суд и судзьи были выборные од народу, а не назначалась ад казны, як цяпер у нас.

9. Але гэтаго ищэ мало, зразумели людзи, што пакуль законы будзе писаць и выдаваць цар яго чыноуники и министры да тых пор ня будзе справедливосци, и таки дабилися, што законы пишутца самим народом; весь народ ад сябе выбирае самых разумных людзей, таких каторым можно верыць што

яны не прададуць сваих людзей, и пасылаюць гэтых выборных у столицу на сход; там яны сабраушыся пишуць законы, каторые повинны споуняць и цар, и министры, и усе чыноуники. Сам цар и министры прысягаюць споуняць гэты законы и не нарушаць их, а выборные доглядаюць, чы цар, и министры акуратне их спауняюць. Як яны або хто-коль век не споуняюць гэтых законаў, то яны значыць изменники и их аддаюць пад суд.

Так братцы за границою ужо дауно дадумалися, што без усяго гэтаго нима жыцця бедному человеку. Там сам народ на сходзе праз сваих выборных людзей назначае, куды павинны исци тые грошы, што казна палучае з падаткоу, налогоу и акцызоу, а хоця народ и плациць падатки, як и у нас, але зато выборные раскладаюць гэтые падатки усих роуно по их заможносци и багацтву; яны пастауляюць з ким ваеваць, а с ким не, и даюць грошы на вайну и на жалованне цару, министрам и чыноуникам; з гэтых же падаткоу идуць грошы и на школы такія, якія патрэбна для народа, на палепшенне гаспадарам их гаспадарки, на паправу мастоу и дарог, на сельскія больницы, на народные цеатры. Гэты новы парадак и законы, яких дабиуся бедны народ за границою, называюцца констытуціей; так братцы и нам трэба дабицца гэтакой констытуціи, кали не хочэм згинуць каб мы мели сваих выборных, што писали бы законы и назначали бы, што зрабиць з грошми, каторые падздзирала цяпер казна з мужыкоў? Мы бы сказали царю: вают сабе, скольки хочэш, а грошэй мы табе не дамо; и штож бы іон зрабіў? Уже рабочые у горадах и мужыки на віосках, там гдзе народ не таки сляпы, як у нас, зразумели, што без констытуціи больш не жыціо, а смерць. Пецербургскіе работники, тые што ищэ верыли у цара, пашли да яго прасиць, каб іон выслушау народ, каб іон дау гэтую констытуцію; писали цару, што чыноўники яго ашукиваюць, што яны абдзираюць народ; стали яны, дурни, перэд царским дворцом на калени, пазнимали шапки як малицца; а іон на гэто прыказау стрэляць у свой народ и забіу больш як две тысячы людзей. Тады и тые дурные работники пазнали, што цар таки самы жыводзер и грабицель, як и яго чыноуники; зразумела, што нияких ласк и змыловання чэкаць ад яго не можна и парэшыли узяць сабе права силою. Пачались бунты у Пецербургу, у Маскве, Варшаве, Кіеве, у Рызе и на Кавказе, словом усюды народ сказау, што больш не хоча гэтак жыць, як жыу и патрэбовау констытуціи. У Маскве навет забили дзядзьку цара, великага князя Сергея, каторы многу народу пазабивау и пагубиу у Пецербургу и Маскве. Яго навет жанка не шкодовала и сказала, што выбачае таму, хто яго забиу. Цар спужауся, бо чуе, што и яму таки канец будзе и захацеу ашукаць народ: дау цяпер указ, што іон будзе прызываць выборных ад народа, каб разам з ними писаць законы, пакуль народ не успакоицца, а пасля их вон пагониць. Так нехай же цар ведае, што іон будзе прызываць нашых выборных не з ласки, а што гэто наше право, бо мы ужо людзи свабодные. Мы павинны добрэ памятаць, што и выборные нашы не много памогуць, пакуль у нас не будзе свабоды слова друку, змовы, таварыств, сходоу, школ, веры и народносци, пакуль сам цар, министры и чыноуники так само, як и усе людзи, не будуць ответственны перэд судом народа и пакуль законы не будуць писацца нашыми выборными и сам цар не будзе паслушны гэтым законам.

А для таго трэба скликаць констытуцыйны сход з представицелей народа, выбраных огульным, роуным для усих и тайным, т. е. добровольным голосаваннем. На сходзе тым пастановяць новые законы, каторые называюцца констытуцией.

Так братцы трэба гэто усим ведаць, разсталкуйце ж гэто усим вашым суседам и знакомым. Без гэтаго для вас ня будзе лепшой доли, будзеце заусюды у здзеку и паневерцы, трэба вам исці разом з вашыми братами-рабочыми и прыяцелями, каторые добра хочуць усяму беднаму народу. Талкуйце и сынам вашым, што идуць да войска, што им вялики грэх стрэляць у сваих братоу, каторые дабиваюцца прав свабоды для усих нас, кроу у их гэтож кроу нашых братоу, што сваго жыцця не жалеюць для нашего добра.

Проч з усеми крыудзицелями народа!

Не чакайце! Ганице проч стражникоу сельских, урадникоу, приставоу, земских!!!

Проч царскую палицию! а як з добрай воли не покинуць службы — забивайце их на смерць!!!

Трэбуем освабадзиць усих арыштованных за веру, за народну справу и свабоду, и прекрациць палитычные справы!!!

Не плацим падаткоу усе разом!!!

Проч вайну!!! Проч царево правицельство!!!

Хай жывець констытуцыйны сход выборных народа!!!

Хай жывуць новые законы и новы парадок — констытуція!!!

Белоруска Социалистычна Громада.

(Сакавік 1905 г.)

## ДА САЛДАТАЎ!

Браты-салдаты! Агульныя забастоўки, народныя демонстрацыи, разлитая кроў на вулицах гарадох нагнали страху на правицельства, задрыжаў деспатызм, пахыстнуўся высоки трон, цар адною рукою пише здрадливые указы аб свободзи слова, аб свабодзи сходаў, а другою прыказвае салдатам стаяць з штыками перед дзверми митынгоў, прыказвае казакам з нагайками пильноваць забраўшыся [1] народ. Кожны мемент [2] можна чакаць, што з вашей братней салдацкай руки будзе пущена куля ў народ па прыказу царских чыноўникоў, што изноў пальецца невинная гарачая кроў, як лилася 16-га акцябра на вулицах Вильны.

Але браты, народ ня верыць у царские указы, бо гэта не першае и не астатнее ашуканства.

Народ не апусьциць рук, пакуль не дабьецца праўдзивай свабоды.

Браты-салдаты! висяць венки разevаюцца стужки, крычаць надписы на свежых магилах аб невинне пралитой царским правицельством кры-ви.

Браты-салдаты! глядзице, каб уже больш не падымалася ваша рука на народ!

Хай жывець згода арміи з народам!

Далоў нову царску Думу!

Хай жывець народны сход Литвы и Беларуси ў Вильни!

Други Краевы Комитет
Беларускае Сацiалистычнае
Грамады.

(19 кастрычніка 1905 г.)

[1] Так у аўтэнтыку.
[2] Так у аўтэнтыку.

# «АПАВЯДАННЕ БЕЗ НАЗВЫ»

*Што застаецца з чалавекам, прымусова адлучаным ад радзімы ці ізаляваным глухою сцяной турмы? Памяць... Гэты вялікі скарб нельга ні адабраць, ні знішчыць — ён надае чалавеку веру і надзею ў жыцці, падтрымлівае, не дае сканаць. Думкі, думкі... Нібы тыя зорачкі вітаюць, мігцяць і просяцца на паперу... І былі часы — папера была ў турмах і ссылцы... Так, у Мінскай турме ў 1911 г. пачыналася славутая «Новая зямля» Якуба Коласа, так, у 1928 г. з Віленскай Лукішскай вязніцы выйшлі ўспаміны Антона Луцкевіча «За дваццаць пяць гадоў»... Вялікі спіс гэты хочацца падоўжыць і цяпер у поўны голас сказаць пра незаслужана забыты твор беларускай літаратуры — «Апавяданне без назвы» Язэпа Лёсіка.*

*1911 г. За ўдзел у рэвалюцыі, уцёкі з-пад варты і перахоўванне — вырак суровы: бестэрміновая высылка ў Сібір, таежнае Прыбайкалле...*

*Вось такія поўныя адчаю радкі неўзабаве дашле ён на радзіму ў рэдакцыю «Нашай Нівы»:*

*«Каля гораду Кірэнска прытулілася амаль ня сотня палітычных ссыльных. Шукаючы работы, зышліся яны сюды з усіх куткоў кірэнскаго павету, дый паспыняліся ў ваколіцах, у вёсках, бо ў горадзі жыць забараняецца... хто ведаў якое майстарства, пашанцавало знайсці заработак, але гэткіх надта мала, рэшта, паабіваўшы парогі, стрэлася твар з тварам з магутным голадам... Ёсць многа гэткіх, што німаюць у ва што ані абуцца, ані апрануцца. На дварэ сыбірская сьцюжа, а тут ня дзіва спаткаць на вуліцы «палітыка» у адным кулёчку. Тутэйшы народ ніколі не бачыў гэткаго здарэньня і вельмі дзівуецца, што «які трывалы расейскі чалавек»... І гібеюць людзі бязконца, гінуць як мухі у восень. Той занядужае ад холаду і голаду ды памрэ, а той ня вытрывае ды сам сябе звядзе са сьвету. З таго ліку таварышоў з якімі я прыйшоў, гэткім парадкам страцілося ужо 9 чалавек. Ды каб вы ведалі, мае землякі, які́е гэта ўсё людзі маладые, пісьменные, надта патрэбные нашай гаротнай старонцы... Ніхто ня ведае, што здарыцца заўтра, ніхто не бярэцца сказаць, ці хопіць магчымасьці прагнаць заўтрашні дзянёк. Боязна зірнуць у вочы заўтраму, бо яно, як ваўкалак, стаіць, выскаліўшы зубы...*

*Да гэтаго ешчэ прылучаецца нуда па роднай старане. Сэрцэ заходзіцца ад жалю, што можэ ніколі не пачуць тых мілых песень, які́е сам сьпеваў з маленства. Таварыш мой усхопіцца ў ночы, ды пачне заганяць гусей: «гыля, гыля!» Потым прачнецца, зьвернецца да мяне, ды запытае: «Ці німа ў нас лустачкі хлеба? Ну, хоць малюсенькае скібачкі?..» — «Німа, братка! Сам ведаеш: учора з'елі»... Ды ужо ня сьпіць усенькую ноч, усё варочаецца, уздыхае і думае...»*

*І Аляксандр Уласаў, рэдактар «Нашай Нівы», не пакінуў гэты крык душы без увагі. Газета не толькі надрукавала яго, але і чым магла дапамагла сваім братам-беларусам. Магчыма, якраз А. Уласаў, адчуўшы пэўныя літаратурныя здольнасці аўтара ліста, параіў яму пісаць надалей, абяцаўшы высылаць ганарар і газету.*

*І вось на старонках «Нашай Нівы» мы бачым яго першыя літаратурныя спробы. «Геркулес і селянін» — прыгожая і павучальная казка, як адна з лепшых уваходзіць у зборнічак «Нашай Нівы» і Беларускі каляндар за 1916 г. Апавяданне «Не ўсе-ж разам,*

# ВОЛЬНАЯ Беларусь

Цэна асобнаго №

Умовы падпіскі на 1917 год.

Падпіска прымаецца толькі с 1-го чысла кожнаго месяца.

Перамена адрэсу—50 кап. Пры зьмене адрэса конча прыкладаць стары адрэс.

Рукапісы павінны быць чытэльна напісаны і толькі з аднаго боку паперы. Кепска перапісаныя рукапісы ні чытацца, ні друкавацца не будуць.

На пасыланьне, перасылку рукапісаў і іншыя адказы павінны прыкладацца маркі.

Газэта палітычная, эканамічная і літэратурная.

№ 1. (Нядзеля) Выходзіць двойчы на тыдзень. (28 мая)

„Вольная Беларусь"

# БЕЛАРУСЬ

ГОД ВЫДАНЬНЯ 1.

Рукапісы назад не вяртаюцца.

ЦАНА 1 МАРК.

№ 1

ШТАДЗЕННАЯ ПОЛІТЫЧНА-ЭКОНАМІЧНАЯ І ЛІТЭРАТУРНАЯ ГАЗЭТА.

Менск, Аўторак 21 кастрычніка 1919 г.

№ 1 (28).

НАШАЕ СЛОВО.

Паўстаньне у Петраградзе.

Ліанозаў аб палажэньні пад Петраградам.

# ВОЛЬНАЯ Беларусь

Цэна асобна

Умовы падпіскі на 1917 год.

Газэта палітычная, эканамічная і літэратурная.

№ 12. 1917 г. Аўторак. Выходзіць двойчы на тыдзень. 8 жніўня 1917

400-ЛЕЦЬЦЯ

6 жніўня 1517 — 6 жніўня 1917 г.

БЕЛАРУСКАГО ДРУКУ.

Газеты «Вольная Беларусь» і «Беларусь», у якіх друкавалася «Апавяданне без назвы» Язэпа Лёсіка.




Язэп Лёсік. Бадайбо, 1914 г. Копія з арыгінала, што захоўвае А. Лёсік. Друкуецца ўпершыню.

*ягомосьці!»*, сюжэт якога пабудаваны на ўспамінах і шчыльна крыжуецца з «Апавяданнем без назвы» (крыху пазней выходзіць нават асобнай кніжачкай). «1906—1912» — калектыўны допіс у рэдакцыю з нагоды 6-й гадавіны выдання «Нашай Нівы» ад ссыльных беларусаў напісаны рукой Лёсіка з праўкамі сяброў-беларусаў — Янкі Усціновіча і трох Алесяў: Прушынскага (Алесь Гарун), Капусціна і Толпінскага.

Па невядомых прычынах 1913 г. застаўся без публікацыяў. Гэта, напэўна, было звязана са зменай месца жыцця, пошукамі працы. Але ўжо ў 1914 г.

*Я. Лёсік зноў плённа працуе — і мы знаходзім яго новыя публікацыі. Вершык у лацінцы «Winszawańnie z sałdatau» палемічны артыкул-водгук «Ці запраўды мы ніколі не будзем мець свайго Міцкевіча, Пушкіна, Сенкевіча, Толстого?», прыгожае апавяданне «Першынка», цесна злучанае па сюжэту і форме з «Апавяданнем...».*

*Матэрыяльнае становішча Я. Лёсіка ўжо было значна лепшае. Дзякуючы прыгожаму, роўнаму почырку, яму пашчасціла знайсці месца памочніка пісара ў канторы залатых прыіскаў г. Бадайбо. Там жа вартаўнічым служыць і А. Гарун. Як памяць аб неразлучным сяброўстве дайшоў да нас невялічкі, памерам з паштоўку, здымачак. Ён захоўваўся ў сям'і Язэпа Лёсіка, прайшоў цяжар усіх пакут, але нядаўна раптам бясследна знік. Дзякуючы нябожчыку Юльяну Пшыркову, мы маем хоць гэтую, не вельмі якасную яго копію. А вось другі здымак з архіву Алесі Лёсік, зроблены 20 мая 1915 г.* Цяжка ўявіць сабе, што гэты элегантны чалавек — палітычны ссыльны...*

* Тут і далей па 1917 г. стары стыль.

## II

*У такі час Язэп Лёсік пачынае працаваць над «Апавяданнем...». Першыя раздзелы, што потым пабачылі свет, датаваныя з 19 лютага па красавік 1914 г. Астатнія пазначаны — 25 чэрвеня 1914 г.*

*Рыхтавалася яно для «Нашай Нівы», і толькі закрыццё газеты ў сувязі з нямецкай акупацыяй Вільні адсунула выданне на некалькі гадоў. Магчымасць такая з'явілася пасля лютаўскай рэвалюцыі 1917 г. Я. Лёсік вяртаецца ў Мінск і займае пасаду рэдактара газеты «Вольная Беларусь». На працягу 2 гадоў пабачылі свет раздзелы «Яўхім-Плашка» (ён увайшоў таксама ў зборнічак «Вольнае Беларусі»); «Гаронім-лянік»; «Наша гаспода», «Каля карчмы», «Дома»; «Падарож да навукі»; «Панскія дзяўчаты, або Юзікава натура».*

*У 1918 г. газета спыніла дзейнасць,*

# ГОДЗЕ!..

Годзе брэхні ужо, падкупляных зводаў!
Годзе таптаньня праўд вечных, сьвятых!
Сьцежку свабоднаму духу народа,
Сьцежку да сонца і зор залатых!

З году у год мы жылі, як жывела,
З году да году чакалі сьвятла—
Што ж нажылі мы, як глянуць наўкола,
Што нам апека тут ваша дала?!..

Тые у дагонцы за блескам часовым
Брацьцяў запрэглі у нявольнічны плуг,
Тые, таргуючы імем Хрыстовым,
Цемру і здраду сплодзілі увакруг.

*
* *

Годзе заходняй ці усходняй культуры!
Для беларуса цана ім адна,
Усе вы, панове, аднолькай натуры:
З сэрца чужога краю ссалі-б да дна.

Вашу карысьць нам і вашы заслугі
Добра ужо сьвеміў тыптаны народ:
Добры вядомы і путы і пугі,
Несьціў якімі ваш заход і усход.

Мы не акінем свае папялішчы,
З сьцежкі наперад ня пойдзем назад!
Сьмела здруэгонам старые бажышчы,
Новым законам збудуем пасад.

*
* *

Годзе нам сілу прыблудаў вялічыць
Дзецьмі багацьцем роднай зямлі;
Н шы загоны даўно ужо нас клічуць—
Нашы загоны, што зельлем зрасьлі.

Досіць ішлі па чужым павадку мы
Доўгіе векі бяз веры у сябе.
Мы ужо ня тые,—іншыя думы
Вырасьлі з намі, заvуць к барацьбе.

Станем к змаганьню мы з ведзьмаю—крыўдай
Дружна, адважна, плячо а плячо;
Рухне старое, хоць крэпкае з віду:
Яснае, вольнае створым жыцьцё.

*
* *

Годзе нам есьці абедкі і косьці.
Злыбедзе усякай ці клоны дарыць!
Гаспадары мы у сябе, а ня госьці.
Час к панаваньню нам сьлед церабіць!

Тое, што узята мапою дачэсна,
Вечна ня будзе душыць, як прыгон;
Наша вярнуцца к нам мусіць канечна,
Гэткі ужо біту народаў закон!

Гібне памрока, душыўшая ад веку,
Сонцо і зоры к сабе сьвет завуць..
Сьцежку свабоднай душы чалавека!
К-вольным дням вольные людзі ідуць!

**Янка Купала.**

# Апавяданьне бяз назвы.

**Гаронім у дарозе *).**

У такіх выпадках Юзік ня любіў аставацца дома. Яму рабілося нядобра, маркотна і нечага шкода.

Некі смутак агортаў яго і трымаў у задуменьні яго дзіцячую душу.

Не хацелося аставацца дома, каб не запытаў хто, чаго ён маркотны.

А хіба мог ён расказаць, што робіцца на душы? І хіба гаворка тут паможа? Гэта пра-

ходзіць само сабою, як праходзі
усьпіляюць неба, і як расходзяц
тры. Трэба толькі сьпісьці з ха
самоце.

І Юзік ішоў на агароды, на
у чыстае поле, дзе хадзіў, як
межах, слухаў сьпеў птушак ці
галоўкай, каб разагнаць апан
коту.

„Матка-ж мая да старэнька
ты паясочкаў ткаць! Не дывай-жы
ткаць, каб ён агора ... ня ст
неля у вушшу песьня, якую ён
вялі дзяўчаты у пост на вячоры
такі жаль разьбіраў душу яго, п
боб, каціліся па твары, і Юзік л
ву ды плакаў. А устаўшы, браў
ты на дарозе аскабалак ды хва
бою, збіваючы галоўкі у кветак.
тое, як адбітые расьлінкі з квет
скаргі, каваліся на зямлю, ён, чу
казаў: „Ага, вот расьлі, а я ст
вас на сьвеце ніколі“!

Шкода было расьлінак і кв
неспадзявана згінулі з сьвету, ...
не пераставаў. На задор сабе ...
сьвету ён выцінаў цэлые лапі
таптаў іх нагамі.

Так мсьціўся Юзік за тые с...
ці, што не давалі яму супакою!

Заходзіў ён тагды і да Гар...
калі траплялося гэта пад „ваз...
каторы возіць дровы з лесу. Г...
тагды на ганку і пільнаваў, каб н...
міма каторы ды ня правеў дроў...
Няручна было старому Гаронім...
дзень каля ганку на вуліцы, ал...
дзей цікавы. Сарытней рабіў ...
шпарка бегаў ад аднаго возу да...
памятые у сялянскіх кішэнях цэл...

*) „Апавяданьне бяз назвы“ друкавалося у „Вольнай Беларусі“ за 1917 г. і 1918 г. Як ведама, рэдакцыя „Вольнай Беларусі“ была разграблена бальшавікамі летась, у сьнежні, і гэтае апавяданьне не магло выдрукавацца да канца. Мы друкуем цяпер канец гэтага апавяданьня. *Рэд.*

Фрагмент з газеты «Беларусь» 1919 г., № 27 за 20 лістапада.

*з гэтым спыніўся і выхад апошніх частак. Толькі ў 1919 г. «Беларусь» выдала апошні раздзел «Гаронім у дарозе».*

*Пасля таго «Апавяданне без назвы» нідзе не перавыдавалася: ні ў Беларусі, ні па-за яе межамі. Толькі ў «Выпісах з беларускае літаратуры» і хрэстаматыі І. Дварчаніна змешчаны асобныя раздзелы. Ды яшчэ сам Я. Лёсік выкарыстоўваў урыўкі ў літаратурных зборніках «Наша Крыніца» і сваіх падручніках.*

## III

*Рэдкае гэта здарэнне ў беларускай літаратуры, выключнае і амаль сенсацыйнае — супадзенне па часе і месцы дзеяння двух значных твораў: паэмы «Новая зямля» Я. Коласа і «Апавядання...» Я. Лёсіка, напісаных да таго ж блізкімі сваякамі, амаль равеснікамі, у форме ўспамінаў з дзяцінства.*

*Цяпер цяжка сказаць, ці Я. Колас падштурхнуў Я. Лёсіка, свайго роднага дзядзьку па матцы, да такой тэмы, ці Лёсік звярнуўся да яе сам. На жаль, ніводны з іх не пакінуў успамінаў. Вядома толькі, што Колас пачынае працаваць над паэмай раней за Лёсіка, плануючы значны паэтычны твор. Лёсік жа наўрад ці лічыў літаратарства сур'ёзным заняткам для сябе. Сваё прызначэнне ён бачыў у настаўніцтве. Але забарона настаўнічаць у ссылцы, цяжкія матэрыяльныя і бытавыя ўмовы, а таксама духоўныя патрэбы — усё гэта патрабавала нейкага выйсця энергічнай, валявой натуры.*

*Пачынаючы працу над «Апавяданнем...», Я. Лёсік не ставіў перад сабой нейкіх сур'ёзных планаў. Пісаў, як пісалася. І гэта відаць з папярэдніх публікацыяў — «Не ўсе-ж разам, ягомосьці!», «Першынка», што маюць шчыльную лучнасць з «Апавяданнем...» і з лёгкасцю маглі б увайсці ў яго; бачна з самога назову твора і яго зместу. Гэтым «Апавяданне без назвы» саступае «Новай зямлі». Але толькі гэтым, бо, шчодра адораны ад прыроды, Язэп Лёсік пакінуў нам спадчыну высокай мастацкай вартасці.*

## IV

*У «Апавядання...» і «Новай зямлі» шмат агульнага: дзейныя асобы, апісанне адных і тых жа мясцін, рэчаў. Вось цікавыя прыклады. У Коласа ў раздзеле «Дзедаў човен» ёсць такія радкі:*

Цяпер дазвольце вы ўжо мне  
Сказаць аб дзедавым чаўне.  
Калі казаць пра човен дзедаў,  
То трэба ўжо, каб кожны ведаў  
Пра дзеда Юрку хоць бы змала.  
Перш-наперш Юрка — цесць Міхала,  
А, стала быць, яго сваяк;  
Затым — дзед Юрка быў рыбак.  
Ды рыбакі не ўсе аднакі —  
Свае ў іх густы і адзнакі.  
Дзед меў да сецей нахіленне,  
А вудзіць — не: не меў цярпення  
І не любіў наогул вуды  
І гэтай вудавай маруды,  
Бо вуды любяць больш паны  
І, выбачайце, свістуны...

*А вось што піша пра «дзеда Юрку», свайго бацьку, Я. Лёсік у раздзеле «Яўхім — Плашка»: «Татулька наш — скарбовы рыбак і кіраўнічы ў рыбацтві, мэрам той сотнік, ці ротман у плытніцтві. Ён любіць свой талянт і талянтуе рыбацтвам даўно, як запамятаць. Увесь двор наш, платэ, усе жэрдкі пад стрэхамі абчэпляны розным рыбацкім начэнням. Але не шукайце, бо німашака ў нас трох рыбацкіх рэчаў: тапчана, бродня і вудаў. Гэтым начэнням татулька ганьбуе і ні вельмі шануе таго, хтой мае яго.*

*— Вудаю, кажа ён: ловіць гультай, тапчаном — дурань, а бродням — бабы».*

*Адчуванне такое, быццам пісаліся гэтыя ўрыўкі адным чалавекам — нагэтулькі яны падобныя! Дарэчы, крыху ніжэй і пра «дзедаў човен» у Я. Лёсіка ёсць звестачка (раздзел «Наша гаспода»): «З гэткаго чоўна зроблен у нас жолаб у стайні. Нябожчык наш дзядзька Матэва праз дзён колькі «хаваўся ў ём ад праваслаўя» і казаў, што пачуваўся там добра й прасторна, як лепей ні трэба».*

## V

*«Апавяданне без назвы» — гэта ўспаміны, успаміны з маленства, замалёўкі з жыцця роднага сяла Мікалаўшчыны (так любоўна клікаў Я. Лё-*



Язэп Лёсік і Алесь Гарун. Бадайбо, 1914 г. Копія з архіва Пшыркова Ю. С.

*сік сваю радзіму). За хлопчыкам-шаляніцам Юзікам стаіць сам Язэп Лёсік. Ён не хаваецца і не адмяжоўваецца ад свайго маленькага героя, а шчыльна, непадзельна злучаны з ім, падчас узіраецца ў свет маленькімі вачанятамі. Толькі не адкрывае аўтар нам, чытачам, што Юзік — гэта сам ён, Язэп Лёсік, пяцігадовы малец, што «гаспода» — гэта яго родная хата і падвор'е, дзе ён рос, «матка» і «татулька» — бацькі яго, «дзядзька Матэва» — родны дзядзька па бацьку, а Катарына, Петра і Антось — старэйшыя браты і сястра...*

*Нарадзіўся Язэп Лёсік у 1883 г. Дакладная дата невядомая, бо метрычныя кнігі Мікалаеўскай царквы, дзе ён быў хрышчоны, не ацалелі ў віхуры 40-х акупацыйных гадоў, а ў пазнейшых дакументах не знойдзена пра гэта звестак. Праўда, паводле М. Гарэцкага і з успамінаў брата Антона, нарадзіўся наш маленькі Юзік 6 лістапада. Значыць, дзеянне ў «Апавяданні...» прыпадае на канец 80-х гадоў мінулага стагоддзя. Але гэта — чыста ўмоўна. Мы адчуваем подых 1905 года ў раздзеле «Падарож да навукі», прызнанне ў каханні і тугу па радзіме з далёкай Сібіры, адчуванне сыноўняй адказнасці ў заўчаснай смерці бацькоў з-за непуцёвага сына, які патрапіў у турму і ссылку ў раздзеле «Гаронім-ляснік».*

*Язэп — Юзік быў самы маленькі ў вялікай сялянскай сям'і і апошнім дзіцём у Юрыя і Крысціны Лёсікаў. Дзякуючы мікалаеўцам Лявону Бірулю і нябожчыку Уладзіміру Міцкевічу вядомыя імёны братоў і сясцёр. Прывядзём іх у парадку старшынства: Ганна. Петра, Базыль, Міхась, Ігнась, Магдаліна, Антось, Паўлюк, Катарына.*

*З іх Базыль і Міхась пакінулі радзіму ў пошуках лепшае долі. Базыль апынуўся аж у Сібіры, а Міхась пайшоў па службе, працаваў на чыгунцы непадалёк ад Луганска. Ганна, Петра, Ігнась, Магдаліна жылі ў вёсцы сваімі сем'ямі, сваёй гасподай. Толькі Антося, Катарыну, Паўлюка і Петру (ён жыў разам з бацькам) сустракаем у «Апавяданні...» Розніца ва ўзросце дзяцей была такая, што калі нарадзіўся Язэп, то ў Ганны ўжо былі дзеці.*

*«Як самы малодшы ў сям'і,— успамінае Антон Лёсік — Язэп быў пястуном маці і бацькі, братоў і сёстраў. Маленства Язэпа, значыцца, прайшло для яго добра, бяз усякіх турбот і асаблівых абавязкаў, бо былі старэйшыя браты, якія выконвалі ўсе гаспадарскія справы; нават не застаўлялі Язэпа пасьціць гусі, што звычайна ўскладалася на малых. Язэп жыў вольна і праводзіў час, як хацеў». І што цікава — гэта знаходзіць прамое адлюстраванне ў «Апавяданні...». А наогул — тут шмат можна пачэрпнуць дзеля раскрыцця ўнутранага свету і характару маленькага Юзіка — Язэпа, будучага пісьменніка, публіцыста, грамадскага дзеяча, навукоўца.*

## VI

*Калі гаварыць пра мастацкую вартасць «Апавядання...» Я. Лёсіка, то просіцца перш за ўсё такі прыклад: на працягу года была магчымасць даваць чытаць урыўкі з яго так, «на пробу», людзям рознага сацыяльнага паходжання. І ў выніку — не было ніводнага абыякавага. Адзначалася багацце мовы, цікавыя назіранні аўтара і ўменне бытаапісання. Мяркую, гэта самы лепшы паказчык. А што датычыцца аўтарытэтнай ацэнкі, то яе будзем чакаць пасля гэтай публікацыі ад нашых прафесіяналаў-крытыкаў. Цяпер жа можна прывесці толькі каштоўныя меркаванні М. Гарэцкага, сучасніка і шырокавядомага пісьменніка-літаратуразнаўцы: «Лёсік дужа т а л е н т н ы а п а в я д а н ь н і к і напісаў выдатную ў нашай эпічнай поэзіі рэч «Апавяданьне бяз назвы». Асабліва ўдаецца яму маляваць беларускіх дзетак (Анцік [герой апавядання «Першынка — **А. Ж.**], Юзік). Творчасьць Лёсіка вельмі нацыянальная, народна-беларуская... Гэтага слаўнага пісьменніка чакаець «яшчэ слаўнейшая будучына».*

*Калі прыходзілася бываць у Мікалаеўшчыне, гутарыць з тутэйшымі людзьмі, то прыемна было адзначыць, што асаблівасці мовы Лёсіка, мовы «Апавядання...» жывыя і па сёння (ці выжывуць надалей?). Усе гэтыя жарты і прымаўкі, клёнка і лаянка, пэўныя звароты і вымаўленне некаторых слоў (скажам, кадаўбэ, платэ, братке) і зараз можна пачуць на радзіме Лёсіка.*

## VII

*Нельга не сказаць яшчэ пра нязвыклы для сённяшняга чытача правапіс «Апавядання...». Калі быць дакладным, то тут мы бачым тры варыянты правапісу. А звязана гэта з тым, што выходзіла яно па частках на працягу 1917—1919 гг.*

*Так, для раздзелаў «Яўхім-Плашка» і «Гаронім-лясьнік» не ўласцівыя канкрэтныя правілы напісання, дзейнічае толькі прынцып «пішы, як чуеш». Розныя адценні вымаўлення аднаго і таго ж слова тут знаходзяць сваё адлюстраванне на пісьме. Багаты дыялекталагічны матэрыял крыецца тут. Раздзелы «Наша гаспода», «Каля карчмы», «Дома», «Падарож да навукі» маюць унармаваную арфаграфію, прапанаваную самім Я. Лёсікам у артыкуле «Наш правапіс». Раздзел «Панскія дзяўчата, або Юзікава натура» афармляўся пад уплывам граматыкі Б. Тарашкевіча. Вось як піша пра гэта рэдактар Я. Лёсік: Пачынаючы з 31 № «Вольная Беларусь» уводзіць правапіс паводлуг граматыкі Б. Тарашкевіча, пакідаючы у сіле §§ 2, 3 і 5 артыкула «Наш правопіс». Заканчэнне «Апавядання...», што было надрукавана «Беларуссю»,— далейшае ўдасканаленне правапісу.*

*Аб'яднаныя цяпер пад адной вокладкай, гэтыя раздзелы сведчаць аб цікавым перыядзе развіцця беларускага правапісу.*



*У 1921 г. была зроблена спроба падрыхтаваць да друку і выдаць літаратурныя творы Я. Лёсіка. Нават назоў быў прыдуманы да гэтага зборніка вельмі ўдалы — «Родныя вобразы». На пасяджэнні навукова-літара-*

*турнай калегіі пры Наркамасвеце БССР 15 сакавіка 1921 г. ідэя выдання была ўхвалена, і аўтару ўжо 22 сакавіка быў нават выплачаны аванс у лік ганарару.*

*Я. Лёсік сам рыхтаваў кнігу: падбіраў матэрыялы, кампанаваў, плануючы ўключыць і ўжо вядомыя апавяданні, і нідзе яшчэ не друкаваныя. Праца па выданні вялася каапераціўна-выдавецкім таварыствам «Адраджэнне» і да 1922 г. была амаль скончана. У выпушчанай у гэты час «Практычнай граматыцы беларускае мовы» Язэпа Лёсіка было нават рэкламнае паведамленне пра хуткае з'яўленне «Родных вобразаў».*

*Але гэтага не адбылося, Прыгожае пісьменства Я. Лёсіка так і не знайшло свайго чытача. «Родныя вобразы» былі забаронены для выдання з-за «нацыяналістычнага, рэлігійна-дагматычнага» характару. Сумны лёс спаткаў і выдавецтва «Адраджэнне», яно было расфарміравана.*

*Спадзяюся, што беларускія выдавецтвы зацікавяцца літаратурнай творчасцю Язэпа Лёсіка, і чытач наш убачыць яе у адной кнізе.*

**Алесь ЖЫНКІН**

# ЯЎХІМ — ПЛАШКА

Татулька наш — скарбовы рыбак і кіраўнічы ў рыбацтві, мэрам той сотнік ці ротман у плытніцтві. Ен любіць свой талант і талянтуе рыбацтвам даўно, як запамятаць. Увесь двор наш, платэ, усе жэрдкі пад стрэхамі абчэпляны розным рыбацкім начэнням. Але не шукайце, бо німашака у нас трох рыбацкіх рэчаў: тапчана, бродня і вудаў. Гэтым начэнням татулька ганьбуе і ні вельмі шануе таго, хтой мае яго.

— Вудаю, кажа ён: ловіць гультай, тапчаном — дурань, а бродням — бабы.

Вось Цыбаты Яўхім, або Плашка, чалавек і ні кепскі, а татулька няўзлюбіў яго за тапчан, як чорт зна за вошта.

Яўхім натта густуе сьвежую рыбу, і пад сьвяты дзень хібіць не можа, каб не зьбегаў у тонь ці ў Нёмнішчэ.

Летась, на Ушесьця, заснуў ён у цэркві ды ма быць, сасніў, што сом той ці ментус выслізнуў с торбы, бо нарабіў лямэнту на ўсю царкву:

— А братке-ж вы мае, уцёк!.. Вялізны, як плашка!..

Часам ён сам, здароў, бачыць, што ні час яму ні кошкацца з рыбай, што ў дому ніўпраўка, збожайка плача, жонка сярдуе, крычыць, вярадуе і, здаецца, ніхай-бы яе пярун спаліў з гэстаю рыбай, дык, бачыш, стрымацца ня можа. А вырвецца з дому — з гарматы не спыніш...

Заходзіць сонца. Аздобна і пекна ў паветры, як на Вялікдзень у хаці. Крэўчык як со сну бомкае ў цэркву... Абвязаўшы хусткамі твар ад загару, мятуць каля хатаў дзяўчата. Мыюць ў гасподах, прыбіраюць з надворку. Пасыпаюць жоўтым пясочкам прызбы, надворныя сцежкі ды весяла гудзяць, жартуюць, смяюцца. А дзеці ў коні гуляюць. Усеўшы на палкі, або пабраўшы, як цуглі, аборкі ў зубы, гасаюць па вуліцах то ўзад, то ўперад, покі ня зморацца, або не пабьюцца...

Варочаюцца с поля, з работы. Рыпаюць дзьверы, скрыгаюць студні, рыпяць, як рагочуць, варота. Вёска гудзе і шамоча, як вуляй у вечар... Патаміліся людзі — ходзюць паціху, гавораць спавагу. Прыветны і рады, што заўтрайка свята і вольна часіна. І кожан ахвотна і рупна прагладжвае конус тыднёвае працы... Яўхім-жа тым часам імчыцца на рыбу.

І мусіць ня рыба цікавіць Яўхіма і ні карысьць ім кіруе, як ні карысьцю й жадобай кіруецца той паляўнічы, што страляе качак на рынку, ідучы дамоў с паляваньня. Яму проста прыемна паплюхацца ў тоні, люба пабродзіць па цёплай вадзіцы, пабэрсаць нагамі лопух з расою ды, спрытна падняўшы тапчан над вадою, борздзінька

*Захаваны правапіс арыгіналу, апрача напісанняў у/ў.* — **Рэд.**

глянуць: ёсьць там штокольвек ці гола, як бубян? І кожан вечар, пад свята, Яўхім клянецца і божыцца жонцы, што гэта — апошні ўжо раз і калі на гэты раз нічога ня зловіць, дык ніхай яму рукі адсохнуць, калі дакранецца хоць пальцам да сеткі. А надыдзе нядзелька, ці сьвята якое, выпадзе вечар харошы — тапчан зноў на плячы і Яўхім зноў чэша на рыбу...

Каб лацьвей было бродзіць, ды ямчэй варочаць нагамі ў вадзе, дык ён, заміж портак, ускладзе жаночу спадніцу, а на сябе, дзеля агульнай спрытнасьці, жончын мантон без рукавоў. Рудая ад брыдкай вады спадніца вісіць на ім, як на кіі; мантон падраны: латка на латцы; спад мантону высмыкае падол паласатай, кшталтам жыдоўскага багамолля, сарочкі. На галаве — аблавухая шапка з вушамі; спераду, на шыі, шэйдаецца каравая торба с пад рыбы, ззаду — дзеля асьцярожнасьці на вадзе, чырвоны кісет с тутуном. Вушы ў шапцы целяпаюцца на хаду, як у надворнай сьвіньні на бягу. У гэтым убранні — Яўхім копана тое страшыдла, што бабы ставяць з вясны па агародах на страх усяму варавітаму птаству. Трымаючы аднэй рукой тапчан на плячы, а другой — люльку ў зубах, або апусьціўшы другую звольна матацца ў тахту, ён так шпарка сьцігае і моцна ступае, што здаецца да бойкі ірвецца, або рыхтуецца скокнуць праз плот ці на муру. Вось татулька часам як згледзіць яго, як ён прэцца па вуліцы, мэрам той бусял па лузі, дык аж плюне. Потым адверняцца, страсяне галавою ды скажа:

— Мм-ы! Божа твая воля, колькі таго глупства на сьвеці! Вунь — зноў, абібок, пацыбаў плюхацца ў Нёмні.

# ГАРОНІМ — ЛЯСЬНІК

## І.

Есьць і паны, што шануюць пасты,— на ўсіх — грэх людзям нарэкаці. У Энскім замку, напрыклад, дык, мабыць, і ў пятніцу посьцяць, бо што тыдня, ў чацьвер, ловіцца рыба да панскага столу. Татулька наш, як скарбовы рыбак і кіраўнічы ў рыбацтві, пачынае зьбірацца на рыбу яшчэ с панядзелка. Каб потым ня кошкацца ды ня тачыць, як той кажа, гарачкі па часі, дык ён загадзе ўжо спраўляе начэнне, аглядае усе тоні ды склікае патрэбных людзей. А ў чацьвер, яшчэ шэраю гадзінай, прыходзіць да нас Гаронім — лясьнік, назірач у скарбовым рыбацтві.

Ахрышчан Гаронім інача́й, а гэтак завецца ўмоўна, з ласкі першага попа ў нашай парахвіі і вось з якога прыпадку.

Ужо адным зьяўленнем на сьвет нарабіў ён клопату ў хаці. Дый радзіўся ён неяк саўсім ніўспадзеўкі. Прынамсі, нябошчык бацька яго, дык мабыць саўсім ня чакаў, ці Бог яго ведае, бо так зьдзівіўся, мэрам хто сьвіснуў яго зьнячэўку кулаком па патыліцы. Пачуўшы крык дзіцяці, ён увесь сьцепануўся, кіўнуў барадою, якбы валаючы кагось да сябе ў сьведкі, пасьміхнуўся ды сказаў.

— Ага, чалесьнікі абваліліся...

Каб доўга ня вэдзгацца ды ня траціцца дарма, дык бацька на заўтра ранютка ўстаў, нагатаваў сяго таго для пачастунку, паклікаў зараз кума с кумою, сунуў ім у рукі пляшку гарэлкі, лусту хлеба с сольлю ды выправадзіў борздзінька хрысьціць да попа ў плебанію. Аб імю й забыліся. Вось поп і пытае: «Якое-ж бажаеця даць імя дзіцяці?» А даляй, разгарнуў сьвятцы, пашмараваў пальцам па друку ды й кажа: «На сягодня значыцца Нікіфора, патрыярха канстантынопальскага. Дык мо' Нікіфор хай будзе імя яму?» запытаў ён, пазірнуўшы на куму праз чорныя акуляры. Кума была, як той кажа: «цяраз плот, у агарод — нарву сабе мяткі; а хто хоча мяне ўзяць — запытайся ў маткі». Імя ёй спадабалася — яна аж пасьміхнулася з радасьці,— так яно далікатна і хараша зычэло з вуснаў сьвяшчэнніка. І загадзе ўжо цешылася думкай, што вот, моў, прыдзя да дому, зложыць харашынька губкі ды на запытанне родных тонінька, па-панску адкажа: Н і к і п а р. Тут яна крыху папярхнулася, але ня зьвярнула ўвагі. А на вуліцы, па дарозі да хаты, колер грэцкага імя стаў прэнтка ліняць і аблазіць, і на запытанне стрэчных — як дражняць хрышчонага? —

кума ўжо сарамліва хавала вочы ды паціху адказвала: Мікіпар. Дома-ж да рэшты зблуталася і стала, як слуп, сярод хаты. «Вотаж, небажаткі... Ва імя Ойца й Сына!.. саўсім забыла»... чуць ня плакала яна, зьбянтужаная, ды цярабіла, нешта мармычучы, хвартушок у руках. Забыць-жа яна ня забыла, але слабая галоўка яе так перакруціла нізнаёмае грэцкае імя, што язык ня варочаўся вымовіць. Яго вымовіў кум. Ён дзесь затрымаўся на вуліцы і скрыпнуў дзьвярыма у той момант, як кума, стоючы на мейсцы, чырвоная ад бяды і сораму, напружала апошнія сілы, каб як выцягнуць с памяці гэтае запансьлівае панскае імя. «Нічыпар!» гукнуў кум: «ну, вот то дальбогжа, Лючыпар,— спытайце хоць попа»... На хрысьцінах усе войкнулі і замятусіліся. Кабеты успляснулі рукамі ды захрысьціліся. Нябошчык Сьцёпка Банюта падняў голаў, мэкнуў, ды нешта хацеў сказаць, але нічагутка ня сказаў, а толькі вышмаргнуў капшук спад паясьніцы ды стаў набіваць люльку, увесь трасучыся. Матка ўсхапілася, зірнула людзям у вочы, уся затраслася, як ліст, зьбялела, енкнула ды схілілася зноў на пасьцель, абамлеўшы. Ушчухаўся гоман, крык, прычытання... Тым часам, бацька схапіўшы кума с кумою, рынуўся з імі да попа.

— Зьмяні імя, панойча! завалаў ён, упаўшы на калені. Зьмілуйся над намі! Лючыпар па нашаму — чорт, самы большы д'ябал у пеклі...

Поп — хвала яму — ня стаў перавучваць, мабыць скеміў чым справа запахла, ды адказаў гэтак:

— У паперах — нельга перапрaвіць. Там ніхай яно стаіць, як стаяло, а вы — клічце яго Г а р о н і м.

Яшчэ й досі людзі ня адважваюцца кпіць з гэтага, а с трывожным пачуццям містычнага жаху апаведаюць таёмна, на вуха, пра гэта здарэнне. А тагды быў час ніспакойны,— вярнулі людзей на праваслаўя. Татулька расказваў, што сам ён у той час, яшчэ маладым хлопцам, ехаў раніцай с поля,— папары зябліў каля ельніку, як яго запынілі на грудку, каля крыжа, ды павалаклі да попа. Увесь грудок быў усыпан народам. Там, пасярэдзіні, стаялі сталы пад белымі абрусамі, а каля сталоў два попы ў рызах. Абапал — народ на каленях, а навокала — казакі вярхом на канях с пікамі у руках і стрэльбамі за плячыма. Мужчыны маўчалі; кабеты хрысьціліся, гаварылі пацяры да паціху плакалі, бо за лямэнт і прычытанне казакі хвасталі нагайкамі. Тым часам, дзеці, трымаючы ў зубох дудкі, з разбітых касьцельных арганаў, бегалі па вуліцы ды гралі. Труна с сьвятым Пабіянам стаяла тут-жа на грудку, на зямлі. Некія паны, с блісчастымі гузікамі, с цэшкамі на шапках, падыходзілі да труны, нешта мацалі, шапталіся ды рагаталі. Ксяндза,— дык таго арыштавалі, пасадзілі ў буду ды павязьлі да Мінску ў вастрог, як казалі. «Такога страхоцьця», дадаваў татулька: «ня было яшчэ на сьвеці». Народ перапалохаўся. Старыя жанке прыгатавалі сьмяртэльныя сарочкі, паабвязвалі галавы белымі хусткамі ды з жахам чакалі антыхрыста. Казалі, што прыедзе ён адзін на самакаці, бяз коняў, і будзе мець постаць афіцэра ў сіняй шынелі, с чырвонаю, як жар, барадою і с цьвікам на лбе. Усім, хто пакарыцца яму, дык ён загадае пацалаваць сабе руку і, каб аддзяліць верных ад няверных, увабье кожнаму у лоб па цьвіку. А тым часам людзей вярнулі на праваслаў'е. Дзеля гэтага падводзілі да попа чалавек па дзесяць, ставілі на каленькі ды, загадаўшы падняць па два пальцы ўверх, спавядалі. На заўтра зганялі прычашчацца. Татульку, дык, адзін поп пахваліў нават за тое, што ён завецца Ю р к а. «Тъ там», казаў ён: «всё — Прянціcь, Габрусь да Карусь, а у тебя имя хорошее,— искони русское и... православное»...

## II.

Лясьнікуе Гаронім даўно. Доўгія вусы яго ужо пасівелі і зьвіслі наніз, як у Тараса Бульбы на малюнку. Тым часам, ня звык ён да службы і нязжыўся з ёю. Здаецца яму, што дачэсна ён лясьнікуе і ня моцна сядзіць на гэтай пасадзі. Бог яго ведае чаму,— сэрца яго з некай містычнай упартасьцю, подчас найбольшай цішы і пакою, пачынае дрыжаць і баяцца, што раптам рашчыніцца хата, панойдуць людзі,— закрычаць, загалдзяць, як жыды у сваёй школі, і зьляціць ён с пасады, як голая галка з гнязда. Ато зьявіцца нехта страшэнны, выскаліць зубы ды, пасьміхнуўшыся, скажа:

— Як семаш, Ягомосьць! А ці ні час табе лахі пад пахі,— га? Ці ні пара, кажу, выбірацца адгэтуль?..

Звычайна чалавек разважны й разумны, ён траціць даладнасьць і тарахціць, як папсованая машына, калі дзела таркнецца лясьнікоўства ці яго абавязкаў. І прыйшоўшы да нас, ён першым дзелам пытае: «Куды сёдні,— на вазёрыны ці ў Нёман?» А ўжо потым дае «пахвалёны», вітаецца ды з упрашаннем садзіцца на лаві. Распытаўшыся пра што-колячы, падсоваецца бліжай да лучніка (сьвяцільні),— паправіць агонь, паложыць корч, асьцярожна дастане ды памаленьку пачынае набіваць сваю люльку.

Яго люлька, ні ў жарты, варта ўвагі. Цікавыя рэчы, як і добрыя людзі, заслугуюць пашаны. Ня ўвалгаўся нехта, давёўшы, што ні людзі, а звычайныя рэчы пануюць на сьвеці, а чалавек у іх — найміт. Але брэша той, хто кажа, бытцым кожны з нас сам свае долі каваль. Нідавумства і жарты,— сказаў бы Гаронім. Хутчэй ты, мабыць, выкуеш сабе трасцу, ні шчасьця, калі ня адтрымаеш у спадшчыну малатка і кавадла. Але як-бы яно там ня было, а для нас даволі і таго, што кожная рэч мае ўласную вагу. У гэтым Гаронім пераканаўся даўно, і сваёй люльцы наровіць, як маці дзіцяці. Курачы, напрыклад, ён трымае яе ні за цыбук, як зручней і звычайна трымаюць добрыя людзі,— а знізу за пыпцік, пад кадобчык ладонью. Трымаючы за цыбук, ні заўсюды, бачыш, усьцеражэшся,— люлька прыпадкам можа зваліцца ды — крый Божа — разьбіцца, а з гэтае люлькі, калі хочаця ведаць, курыў сам яснавяльможны пан князь. Гэта люлька, у свой час, прывяла Гароніма на новы шлях жыцьця і, дзякуючы ёй, ён знайшоў сабе іншую долю ды выйшаў у людзі...

## III.

Ня радзіся красным, а радзіся шчасным.

Каб знацьцё чалавеку, дзе ён рынецца ды ўстане бяз носу, дык-бы загадзе ужо паслаў там саломкі. А каб ведаць чалавеку, дзе яго доля гуляе, дык бы ня рыпаўся дарма, ня вандраваў-бы па беламу сьвету, а пабег-бы на сустрэч, распасьцёр-бы рукі, раставіў-бы ногі ды стаў-бы лавіць яе, леўку, як ловяць бабы курэй па надворку. Але ніхто ня знае, дзе яго доля спаткае, і часам натрапіш на лёс свой там, дзе страціш апошнюю надзею. Хіба ведаў Гаронім, што купляючы люльку, ён трапіў купіць сабе й долю?!

Да ляснікоўства Гаронім гасаў па плытох і у хвалях Нёмна шукаў свайго шчасьця. Нёман ён ведаў, як гаспадыня уласныя ночвы, а ўсе сёлы, мястэчкі і вёскі па беразі Нёмна пералічваў па пальцах і пра кожнае апаведаў шмат розных цікавых гісторый. Вось у Шчорсах, напрыклад, дык ёсьць таемніца, а ў тэй таемніцы — кнігарня. Штогодна пад новы год, а поўначы, загараюцца там ліхтарні ды зьяўляюцца людзі,— даўнейшае вяльможнае панства нашага краю. Блядыя, у чорных з белымі, палярынай, каўнярамі, старасьвецкіх убраннях,— яны ціха садзяцца круг столу, разгартаюць чорныя, с срэбнымі зашчэпкамі, кніжкі ды, аблёгшыся, моўчкі чытаюць, покі ня пачуецца лопат крыльляў і сьпеў пеўняў. Тагды ўсё раптам зьнікае,— і кнігарня, і людзі, і самае мейсца,— толькі блісьне агонь у паветры і пойдзе дымок да небёсаў.

Адрокшыся ад веры продкаў сваіх і зьняважыўшы звычаі краю свайго, яны падаліся чужынцам ды сталі с кніжкаў даводзіць, што Бога німа, а вера — шэльмоўства. Але пракляў іх Пан Бог з вісокага неба і зьніклі яны з нашай зямлі, як кампора, мэрам, даруйце, карова языком зьлізала. Толькі раз у год, на другую куцьцю, а поўначы, зьяўляюцца яны у розных мейсцох, па кнігарнях, на страх і навуку, дзеля вялікай спакусы усёй белянькай Русі, бо кожын, хто забажае, дык можа дайсьці да тэй таемніцы. Трэба толькі нікому нічога ня казаць, дачакацца новага году ды пайсьці да кнігарні а поўначы. Падышоўшы да дзьвярэй, трэ' стукнуць чучкамі трэйчы аб дзьверы і схіліць голаў на грудзі, а трохі счакаўшы, калі хопіць сілы і адважнасьці, пабожна, як пацяры, пераказаць ось гэта: «пічэмся, лічэмся,— кудой нам пайці ў шыбкі, ў лыбкі, ў петровіцы, лебядовіцы? Сушчык, лушчык, шыка, брыка, пац!» Пачуецца рогат нялюдзкі, задрыжыць зямля, заблішчыць маланка і пойдзе смырод навакола. Потым паўстане сьмяртэльная ціша ды мэ-

рам з нетраў зямліскі ці с тэй дамавіны пачуецца голас жалобны: «Апамятайся,— што робіш, сьмяртэльны?!» У гэты момант расчыняцца дзьверы, шугане табе сьвет с таемніцы і адтуль завалаюць хаўтурным сьпевам: «Проша да столу!» «Але ня дай Божа гэтага нікому», кажа Геронім. «Хто прадасьць сваю душу ды пачне чытаць тыя кніжкі, дык засьне там навекі і ня ўстане ніколі, бо пра вошта піша ў тых заклятых кніжках,— пра тое ня можа ведаць нікому на сьвеці».

А вось пад Магільнай, каля Пясочнае, жыве на адзіноці старэнькі, сівы, як голуб, дзядуля. Дык ён бачыў смерць — Чырвоныя боты, ды нават вальчыў з ёю. Як раз на Усіх Сьвятых, пад поўнач, нешта ня спалася дзеду. Зажыўшы табакі, сядзеў ён на печы ды пералічваў грошы, дастаўшы іх с кадаўбцом с падпечы. Аж раптам чуе — захісталася хата і ціха ўздымаецца у верх. Глянуў — аж гэта сьмерць падняла хату знадворку, трымае аберуч, як скрынку, і чырвоныя боты на прызьбі відаць. Дзед перахрысьціўся, дастаў с покуці грамнічную сьвечку і трымаючы яе, як поп крыжа, каля грудзяў,— трэйчы прамовіў: «Адступіся, шайтану,— бо я табе ў лоб запалю!» Даляй, сплюнуў у бок, праз плячук, і — нічагуткa ня стала.

Гэты ж самы магілянскі дзед расказваў, чаму цяпер колас у збожжы такі тонкі й маленькі. Даўней колас выростаў ад комля да верху. Тагды людзі ня працавалі так цяжка і мала збыткоўна, бо хоць мала пасееш, многа нажнеш. Але грэшныя людзі, праз цяжкі ўчынак нягоднай, скупой на ялмужну кабеціну,— угнявілі бязмежную ласку літасьцівага Бога. Тая кабета цяжка абразіла Бога, завітаўшага да хаты к ёй у постаці жаброўнага дзеда. Толькі вялікая літасьць да катоў і сабак устрымала гнеў Боскі. Бог, вышаўшы с хаты кабеціны ў поле, узышоў на мяжу, узяў каліву жыта і хацеў сашмаргнуць яго колас зверху данізу, але падскочылі каты і сабакі, сталі выць, скавытаць і прасіць, лізалі рукі і ногі Богу і тым упрасілі Яго аставіць хоць шчопцю на іх горкую долю. Шкода стала бязмоўных стварэнняў,— злітаваўся Пан Бог і пакінуў на пражыцьцё ім столькі, сколькі трымаў коласу ў жмені...

У Ярэмічах жыве ярэміцкі Пабіян. Чалавек гэты, казаў Геронім, слынны тым, што вялізны, як слуп і, ні пры вас кажучы, злодзей. Але крадзе ён толькі муку ў суседзяў і то зьмерна,— гарчык, ні боляй. А як паладзецца на кражы, калі зловяць яго у засяку ці ў жорнах, дык ён ня ўцякае, ня зарэкаецца і ня клянецца, як іншы, што красьці ня будзе, а на прамілы Бог просіць, каб пасадзілі ў вастрог. «Бо ўсё ж роўна, ягомасьці, заўтра зноў пайду красьці», адказвае ён ды спакойна ідзе на суд, гдзе трымае сябе, як варьят. Нікога ня слухае, а толькі круціць галавою і мармыча: «А ці я гэта ня казаў?»

А вот за Бакштамі жывуць літвіны. Іх мова інакшая і па-нашаму ніводзін гаварыць ня ўмея. Бывала плывеш с плытам, дык яны пазьбіраюцца на бераг і давай дражніцца: «Паўлюк!» А мы ім: «Клэўсь, а ці цэлы яйца ў сучкі?!» Часам як раз'юшымся, дык пачынаем крычаць на іх усе разам, як за гусьмі на каршуна: «Клаўсе,— твае дзеці ня ўсе, палавіну ва ўсе,— а ты — га!»

Шмат чаго ведае Геронім,— усяго ня перакажаш. Бывала, зьбяруцца людзі пад сьвята якое ці ў нядзельку ў вечар да Бірулі «на сэсію»,— агню ня запальваюць, сядзяць попацёмку, кураць, жартуюць і вядуць гаворку аж да трэйціх пеўняў. Чаго толькі тут ня пачуеш? І пра даўнейшых каралёў, і пра забраны наш край, і пад'зямельныя лёхі, пра сьмерць, пра страхі і пра жыдоўскага гамана. Бывала, наслухаешся, набярэш сабе ў галаў, дык потым да дому ісьці боязна. Ідзеш, а сам дрыжыш, як асіна. Так і здаецца табе, што выскачыць страх с цёмных с судачкаў, альба сьмяртвец цябе стрэне. І перахрысьціцца ня трапіш. Заракаешся нават, што боляй ня пойдзеш і слухаць ня будзеш,— ніхай ім пусты сьвет з гэстымі страхамі,— але марне. Надыйдзе вечар сьвяточны — і цябе зноў, як магнусам, цягне. І страх ні страшны, і сьмяртвяцоў ня баішся. Такая цікавасьць возьме, што на мейсцы ня ўседзіш.

Ня падабаў толькі Геронім аднаго. Ня любіў ён, калі хто пачынаў шкіліць і дзеля кпінаў пытаўся пра адно здарэнне, што трапілася з ім аднакраць у Вільні. Глянуўшы зьверам на запытаўцу, ён варушыўся, соп носам, мацней смактаў люльку і трымаў сябе так, як-бы ні да яго была мова, альбо ня дачуваў крошку на вуха. Ліха тое надарылася з ім яшчэ змоладу, с першых лет яго плытніцтва.

Хто з нас ня чуў пра Вострую Браму? Або хто ня слухаў у дзяцінстві, пабожна сьцішыўшыся і пільна гледзючы ў рот апавядаўцу, цудоўных здарэньняў пра Вострабрамскую Божую Матку? Шмат чаго чуў і Геронім, наслухаўся ён ад вясковых

кабет і падарожных. Трапіўшы, варочаючыся с плытоў, першы раз у сваём жыцьці да Вільні, ён так утарапіўся на ўсё чыста ў месьці, што забыўся і шапкі скінуць, падышоўшы да Вострае Брамы. Сьвет ні бяз добрых людзей,— знайшлася і ў Вільні добрая душа, што ні палянавалася напамятаць Гароніму, агрэўшы яго кулаком па патыліцы. Шапка звалілася, а кругом зарагаталі. Гаронім зморшчыўся ад болю,— стаяў, моргаў вачыма і ня ведаў, што яму рабіць — ці плакаць ці сьмеяцца. А даляй, зірнуў на абразьніка ды, ніўспадзеўкі нікому, боўтнуў праз сьлёзы:

— Дзянькоеваспану, што напамяталі!..

Як плытнік дасьціпны, старанны і працавіты,— Гаронім ні раз хадзіў на віціны, а з віцінамі — у Прусы. Вось недзя ў Прусах і трапіў ён купіць сваю люльку. С чаго яна зробляна — чорт яе ведае. Кульгавы Баўтрук — на што ўжо знаўца і майстар вялікі,— а і той ні пазнаў. Пакруціў яе ў пальцах, памацаў, паскроб на неўашта каля вечка кіпцям ды нават нюхнуў разоў колькі, а нарэсьці палажыў асьцярожна на стол, зірнуў на яе скрыва, як певянь у люстру, разьвёў рукі ды сказаў:

— Чартэ ж яе, братке мае, ведае, з якое яна трасцы зробляна!..

На звычайнае вока — гэта люлька, як люлька. Хто нічога ня чуў і ня ведае, дык нават і ўвагі ня зьверне, ні то што каб скеміў, што ў гэтай звычайнай на простае вока, крывульцэ, якісь там сакрэт захован. Цікавая толькі ў ёй бародка з двух пыпцікаў знізу, штукарскі вырабляных на кшталт барады ў казла, бо, калі трымаць люльку ў жмені цыбуком уніз, дык яна выглядае так, як смоўж с тулаба, каторы сопалаху хаваецца ў тулаб, а калі пахукаеш ды шчыра папросіш, дык ён заварушыцца і рожкі пакажа. Ну, а больш — нічагутка. Ласьня цыбук? Цыбук яна мае даўжэрны, сплецяны з рэмяню, на кшталт бізуна, с касьцяным белым пупішкам на канцы. Дык, мабыць, не,— ні ў цыбуку тут справа. У мяне ў самога гэтакі самы цыбук, а ня даў-жа ён мне ні шчасьця, ні долі, ні Латаковай Антолі...

## IV.

Гады ў рады робяць у нас паляваньне. Тагды прыежджае князь, а тропам за князям — цэлая хэўра паноў і падпанкаў. Іншы патрэбян тут, як сабаку пятая нага, але прэцца блізкі сьвет бяз жаднай, здаецца, рахубы, як нашы жанке на вясельля. І маладога яны пэўна ведаюць, як аблупляната, з маладою добра знаёмы, бо ні раз сварыліся ля студні; і ніхто іх ні кліча і ні дае абяцанак,— а тым часам ідуць, цісну цца, лезуць. Музыкаў паслухаць, а, тым часам, чым чорт ні жартуе — пастаіш, пацікуеш,— дык і чарку гарэлкі выпьеш і пірага пакаштуеш, калі пашанцуе. А хіба ні цікава потым забегчы к суседу ды ўсім расказаць, што малады ні туды сеў і ні гэтак трымаўся; што сват няўдала прымаўляў і нізграбна караваям абсылаў; што хараства ў маладой ані на шчопцю,— як за тры грошы люлька, а прыданкі жлухчуць гарэлку, як ваду. Цікава. Вот і засьценкавая шляхта, бывала, прычвалае за дзён колькі наўперад. Князь бадай што з замку ні варушыўся, а яны даўно ўжо спацыруюць па вуліцах, як кажаны ў ціхі вечар. Нешта гавораць, вярадуюць, спрэчаюцца і заганяюць перапуджаных сабак ў падваротні...

На параду князь супыняўся на грудку каля крыжа, альбо каля карчмы на дзядзінцы. Народу зьбярэцца, як на кірмаш ці на пажэжу. Выходзяць старыя і малыя,— хлопцы і дзяўчата, дзяды і кабеты. Усім цікава, кожнаму хочацца паглядзець. Гэта рэдкае, нізвычайнае зьяўленьне ў жыцьці вёскі і трэба акамянець на той мамэнт, каб ні выйсьці глянуць як на князя, так і на яго коні.

Павалены агульным натхненьнем цікавасьці, выйшоў і Гаронім, зафайкаваўшы сваю прускую люльку. Набраўшыся хванабэрыі, ён прапхнуўся з натоўпу на перад ды стаў на самым зэсі, на ваччу ў князя. Князь яго ні надта зацікавіў. Вандруючы па плытох, ён бачыў сьвет і наглядзеўся на ўсялякіх людзей па вялікіх гарадох, а затым, зірнуўшы на князя, ён хутка забыўся аб ём. Усю ўвагу зьвярнуў ён на князявых коняў. Вот дзе коні, дык коні! Белыя, тлустыя, а зграбныя, як лялькі. Запрэжаны цугам, адна за аднэй, як жаўнеры. Пры кожным — канюх, кожны даладне і пекна прыбраны. Убраньне абчэпляна срэбнымі звонікамі, па канцох — кутасы, усе раменьня аздобляны блісчастымі залатымі і срэбранымі

брыжамі. Зварухнуцца — дык усё зьвініць, зіхаціць і міхціцца! Гаронім аж цмокнуў ад хараства і пацехі. На хартоў ён і глядзець ні хацеў. Хартэ што — псіна і боляй нічога. А вот коні — га! Гэтакіх коняў на сьвеці ні знойдзеш. Бадай кожны рублёў дваста, а то й трыста каштуе...

Хоць Гаронім уласнай гаспадаркі ніколі ні меў і зроду каня ні трымаў, але-ж яго вельмі цікавіла думка — здольны гэтыя коні да працы ці ня здольны? Памяркаваўшы крыху, разважыў, што не, ні здольны. «Дзе ў чорта!» думаў Гаронім, скрывіўшыся ад зьнявагі, як кіслага яблыка зьеўшы, і падняўшы губы к носу: «дарма, што гладкія, а на моц — як націна. Дрыгунцы, як і самі паны: як што трошкі — спацея, самлея і язык з рота высуне... Стаяць толькі пры жалобі ды хрумстаюць авёс с канюшынай...»

Гаронім выняў люльку з губы, плюнуў, потым выбіў попял аб кіпяць ды стаў набіваць свежага тутуну. Ён, мусі, крыху патрывожыўся, бо, закурыўшы зноў люльку, зачадзіў, як с каміны.

— Нябось,— разважаў ён даляй: — зьлезла-б з вас сала, каб запрог у саху, або зьезьдзіць у лес па калодкі. О-го-го, яшчэ-б як! А то — бач, бач... воўчая рэзь, ня ўстоіць! Так і рымсьціць, так і рымсьціць, падла, мэрам хто яго жыгалам пад хвост тыча...

Німа ведама, чым-бы скончыў Гаронім свае думкі, каб яго ня перабілі. Ён так разышоўся, што гатоў быў крыкнуць на сярэдняга каня, каторы абпеніў келзы, дрыгаў нагамі, матаў галавою і захадзіўся ўвесь, як на спружынах. Але мусіў стрымацца, бо народ нешта замятусіўся і сьціхнуў... Падлоўчы хацеў штось сказаць. Стаўшы на дыбачкі, ён распасьцёр рукі, як крыльля, выпяўся, бытцым мяркуючы падняцца ў паветра, задраў бораду ды завалаў:

— Не гаманецяя-я! Супакойся, грамада!

Глянуў Гаронім і — ці цябе чэрці! — сядзіць князь у брычцы, перагнуўся, аж пяро зьвісла ў шапцы, утарапіўся на яго і да сябе пальцам валае. «Ці ня здань гэта? падумаў Гаронім і замаргаў вачыма. «Дык не, бок,— вось і людзі пад бокі штурхаюць»... Выняў ён люльку з зубоў, плюнуў пад ногі і, толькі стаў класьці люльку ў кішэню, як князь голасна кажа:

— Падыдзі сюды, чалавеча!.. Пакажы мне, што за рэч ты хаваеш у кішэню?

— Люльку, пане ксенжа! — сіпата, с пераляку адказаў князю Гаронім.

— Бачу, што люльку. Вот-жа ты пакажы мне яе... Гаронім адкашляўся, затуліўшы рот жменяю, паўкнуў сьліну ды падаў князю люльку. Князь разглядае ды даляй пытае:

— Дзе-ж ты яе дастаў?

— У Прусах купіў, пане ксенжа.

— У Прусах? Чаго-ж ты там быў, у Прусах?

— На віціны хадзіў, яснавяльможны пане ксенжа, крыху пасьмялеўшы, адказаў Гаронім.

— На віціны хадзіў? А-га, сядай тут! сказаў князь, ды палопаў каля сябе рукою па сядзэньню.

Перш, чым зварухнуцца з мейсца, Гаронім азірнуўся — ці ня выскаляюцца людзі, хай ты згары саўсім разам! Але ніхто ня сьмяяўся,— усе с цікам глядзелі, што яно даляй будзе. Кульгавы Баўтрук штурхнуў Сьцёпку Рагозу і шэпярнуў: «Камэдыя, брат!» Як ні сваімі нагамі, падышоў Гаронім да брычкі і сам ні памятае, як узьлез на воз ды сеў поплеч с князям.

Звыклі казаць, што ад страху ў ваччу туманея, а вось Гаронім, дык праз сьвет сьвету ні бачыў. Кружыўся ў ваччу яго нейкі жоўты, іскрысты туман, і ня чуў ён нічога і ні бачыў нікога. Толькі калі-ні-калі, як праз сіта, бачнелася пёрка ў князявай шапцы, ды як с пад зямлі, адчувалася ў вусі тое ці іншае слова. Ні памятае Гаронім, пра вошта пытаўся князь у яго, і якія адказы даваў ён князю. Запамятаў ён адно,— што сеў на брычку батраком, а стаў на зямлю лясьніком.

Потым сьмеяліся людзі, што князь — праўда ці не — курыў яго люльку, але сам Гаронім — ня трэ' лгаць — нічога ні бачыў.

У маскалёх Гаронім ня служыў, стрэльбы ніколі ў руках ня трымаў, а затым, як чалавека ні з нашае вёскі, яго прызначылі на пасаду да нас, дзе ляснога абходу німа, а, значыцца, умець страляць ні конча й патрэбна. Двойчы на тыдзень, у вывозныя дні, ён павінен быў сядзець дома на ганку ды пільнаваць, каб дровы вазілі

вэдлуг меркі, па цэтліку; што чацьверга назіраў за рыбацтвам, а рэшту часу — гасаў з наказамі.

С таго часу — што тыдня у чацьвер, шэраю раніцай, ходзіць ён к нам да татулькі.

Накурыўшыся, ён асьцярожна выцярушвае попял з люлькі ды, матнуўшы на вакно галавою, звяртаецца да татулькі:

— Сьвітае. Ці ні пара нам, пан Юрка, зьбірацца?

— Дык німа чаго длякацца,— адказвае татулька: — раней — заўсюды ляпей...

Тым часам, на двор надыходзіць народ. Заходзяць ў хату, але рэдка,— хіба зімою ў мароз, або за справункам. С хаты чуваць, як на дварэ гамоняць, грукаюць, стукаюць, запрагаюць каня, шарахцяць прысамі, валтузяцца з невадам...

— Ня тузай, каб ты спрогся! Ня тузай, кажу — парвеш,— крычыць якісь дзядзька.

— Па-апраў казе хвост,— адказвае другі.— Вот ты вымі лепш люльку з губы ды патрымай каня... Ні стаіць, ваўкачэчына... тпрр...

— Ачэрпай вады,— напаіць трэба,— нехта раіць збоку.

— Тпрр!.. І бяз попа ведаю, што ў нядзелю сьвята. Тпрр,— каб на цябе Пранцэля ня глядзела! Тпрр,— калёсы пераверняш!..

А малы Хвэлькаў Плён, што тайком ад бацькоў уцякае на рыбу, скача на мейсцы, узбударажэны суматохай, ды сьпевае:

Шабаш рыду паганяе,
Рыда задам падкідае.
Стой, стой, мая міла,
Каб калёсаў ні пабіла!

— Ёсьць! — канстатуе нехта, што воз такі перавярнуўся.

Выходзіць татулька з Гаронімам,— нешта гавораць, штось папраўляюць ды паганяюць каня. Суматоха зьнікае, на дварэ заціхае.

Паўстае ціша ў хаці, мэрам дзе ў склепі ці ў ночы ў лесі,— аж у вушшу звініць. Робіцца сумна, нядобра, маркотна. Здаецца, застаўся ты адзін адзінюткі на сьвеці і ня пачуеш боляй ніколі ні сьмеху, ні жартаў, нічога. Гэтак бывае ў гасподзі, як параз'езджаюцца госьці. Вясёлыя жарты і сьмех разлятаюцца і нікнуць; зыкі музыкаў мяшаюцца с песьнямі і гоманам,— падымаюцца ўверх і там заціхаюць і моўкнуць, як згукі вячорнага звону ў паветры. Застаюцца ў хаці ціша і смутак,— кружацца, уюцца, вагаюцца, бьюцца, як тая вада ў вазерыні ад павеву сціхнуўшай буры... А на душы — сумна, маркотна, нядобра...

## V.

З рыбы прыходзіць татулька позна,— увесь мокры, галодны, але пры добрым гумары, заўсюды ласкавы і вясёлы. Матка,— дык тая тлумачыць гэта тым, што «рыбаке маюць брыдкі звычай хадзіць на досьвіткі к Хайцы». Балазей, моў, карчма блізка,— як наўмысьля на беразі, пры самай дарозі. А карчма ў такім мейсцы, як гарох пры дарозі ці тая павабна дзяўчына: хто ні йдзе, той і ўшчыкне. Дапраўды-ж карчма тут ня вінна. Трэба сказаць, што ня кожны рыбак трымаўся гэтакай звычкі, як пасьведчае матка. Тут быў варунак іншага гатунку, ад рыбакоў цалкам нізалежны. Рэч у тым, што за рыбацтва, апарт цэтліка на воз тонкага, у цаль, сухастою, увечар «дарэмна даваўся кілішак гарэлкі». Дык і ні дзіва, што галодны і мокры, як квач, рыбак першым дзелам вандруе да карчмы...

Бачу, як ты пасьміхнуўся, ласкавы чытачу, бо цешышся іншым, шляхетняйшым паглядам на жыцьця. Але-ж я — спрэчацца ня буду. «Моўчанне — гэта золата!» сказаў калісь адзін дэпутат, трапіўшы з Думы дамоў, а ні заграты. Любіў і я, у шчасьлівую пору дзяцінства, папростарэкаваць і паспрэчацца,— любіў, ды зарокся. Ніхай ім пусты сьвет, з гэстымі споркамі!..

Вось як цяпер памятаю... Лагодзіцца матка кудысь на радзіны. Пячэ налісьнікі. Чапяла — аж міхціцца ў руках то ўсоваючы, то вымаючы скавароды на прыпяк. Згарнуўшы налісьнік учатыры столкі, яна спрытна мачала яго ў масла, пасыпала цукрам на ўсе бокі ды клала кастром на талерку. Сквірчыць каўбаса ў печы, пякуцца скваркі, смажыцца верашчака. Пах — поп бы сказаў: благорастворение

воздухов! А я, тым часам, сяджу каля печы на кукішках ды сьліну глытаю. Матцы і ні ў галаве. Яна ўвіхаецца і глядзіць на мяне, як на кусок кругляка, або на палена якое. «Хоць-бы у нас хто барджэй абрадзініўся!» думаю сабе, паўкаючы сьліну, бо цякла яна, як с крыніцы, аж сківіцы нылі. Я варушыўся, кашляў, нават засьвістаў-бы, каб можна было сьвістаць у хаці, але нічога ня памагала,— завінаючыся каля печы, матка ня зьвяртала ўвагі. Сядзеў я, сядзеў, а даляй уздыхнуў на ўсе грудзі ды, ня спускаючы вока з жоўтых, пахучых налісьнікаў, чуць ня плачучы, кажу:

— Я натта пшоннае люблю!

— А мой каток, пасьміхнулася матка: а мне й ні ўпамкі! Ды дала мне маленькі, згорнуты, як сурвэтка, налісьнік. Я ня зьеў, а праглынуў яго цалкам. Смак — аж язык у сярэдзіну цягне! А матка й кажа:

— Падзякуй-жа, сынку, Богу!

— Як-то? агрызнуўся я.— За гэтакі малюсінькі блінчык, ды дзякаваць Богу?!

— А ты думаў як? утарапілася матка.— Трэба, каток,— а то Бог руку скарае.

— Ніхай сабе карае, калі Яму хочацца, а я назадор, усё ж роўна дзякаваць ня буду...

І пачаў, і пачаў,— матка аж рот разьзявіла.

— Божухна мілы! усьпляснула яна рукамі.— Што ты кажаш, што ты дзіцятка, кажаш!..

А далей, распіразала паскі і — пачала даводзіць, што і за маленькі блінчык трэ' дзякаваць Богу... Стоючы потым на каленях прад абразамі, глянуў я зненацку ўгору, ды аж затросся ўвесь сопалаху: абразэ нахмурылі вочы і так узіраліся на мяне, такіх першы раз бачылі. Злажыўшы рукі, я ўжо пакарліва і з жахам пераказваў за маткаю:

— Ацю Богу міламу!..

С таго часу прыкусіў я свой язык і закаяўся людзям напоперак ставіць. І цяпер ніколі ня спрэчаюся, а толькі слухаю, маўчу ды думаю:

— Каб ня той налісьнік,— ня сядзеў-бы я моўчкі...

А наша матка гэтак-жа сама ня любіць карчом і кажа, што карчма — гэта палац шайтана. «Бо як радзілася»,— сьведчыць яна: «дык ніколі ня бачыла ў карчмі крыжа». Ужо на моцы аднае свае кабечае натуры, яна цярпець ня можа гарэлкі, і падвечар, як заходзяць дзядэ па кутках, стрымацца ня можа, каб ня выскачыць глянуць на вуліцу, ці ня пакажацца бацька с-пад карчмы. На яе думку — у карчмі, як у каханкі,— смолныя лаўкі. Ні Хаім дык Хайка,— хто небудзь, напэўна, запросіць да столу. І міхціцца ёй Хаім с цікавай размовай і стаіць у ваччу ўдыглівая Хайка з лісьлівай усьмешкай. Патрывожаныя думкі яскрава рысуюць малюнак, як абступаюць яны татульку і, пабраўшыся абое за рукі, кружацца, скачуць і ўпрашаюць прысесьці за стол хоць на хвілінку. На добры лад, дык яна й сама ведае, што дарэмна турбуецца,— татулька і сам там ня бавіўся, але сэрца... с сэрцам нічога ня ўдзеяш. Заўсюду яно ніпакоіцца, мэрам штось прачувае. Досьць раз хоць зьняверыцца ў чалавеку, каб потым трудна было і на пэўны выпадак даць яму веры... А гэта было,— даўно, с першых лет іх малжонства, але было. Бяднота ў пачатку даводзіла татульку і да прыкрых учынкаў...

Цяпер гаспадарка ў нас, як дунай, а даўней, расказваюць людзі,— дык ня было за што рук зацяць. Бывала прыдзе на досьвіткі нябошчык дзед наш па матцы,— гляне навокала, схісяне галавою ды з някім дакорлівым жалем бязнадзейна прамовіць, пазіраючы татульку ў вочы:

— Ягомасьць, ягомасьць!..

А зірнуўшы на нас, сваіх унукаў маленькіх,— абмурзаных, босых, у падраных кашульках, сядзіта пытаўся:

— А гэта што?! Цацкацца з імі? У людзі аддай... Карміць будуць, капейку заробяць...

Абыходзілася сэрца ў татулькі ад цесьцявых слоў. Пачуваючы ў грудзях пякельны агонь і пакуту, аднакраць устаў ён, падышоў да цесьця і, ня можучы глянуць ад жалю ў вочы, ціха сказаў:

— Тата!.. Ня крой сэрца майго... Вось клікну жонку сюды, ляжам абое вось гэтта на хаці, і ніхай яны кроў нашу з голаду ссуць, а служыць ні аддам... ні аддам! І ня стрымаўся, нябога,— сеў каля столу ды горка заплакаў...

Мой тату, мой голубе сівы! Хоць у сьне пакажыся ты мне,— завітай да мяне на

чужыну. Раскажы, як ты маешся там, як на старасьць турбуешся, дбаеш; як кахаеш гасподу сваю, яе з думак і ў ноч ня спускаеш? Раскажы, як матулька жыве, як, старэнькая, жыва-здарова; як свой рэй у гасподзі вядзе, увіхаецца і дбаці якова? І цяпер усё плача па мне, з гора сохне і ные, нябога,— палівае зямельку сьлязьмі, упрашаючы Госпада Бога? І цяпер усё ходзе глядзець, «ці ня гоне ён быдла із лесу?» А моʼ с кніжкай у руццэ, у чорным плацці, адзін, пахаджае па сьцежцы ля лесу,— кветкі-зельля ірве, у паперы кладзе ды, нагнуўшыся, нешта ўсё піша? А моʼ босы, малы, па іржышчы бяжыць у кашульцы бялёвай-кужэльнай,— с хаты весткі нясе, або воду імчыць із крынічкі халоднае жнеям? Ды нідзе ня відно, ня чуваці яго,— у халоднай Сібіры гібея... І за што — ўсё пытае ў сябе і ня можа ўцяміць, нябога, за што сына забралі яе, засудзілі, трымалі ў вастрозі, на засланне ў кайданах вялі па шырокай сібірскай дарозі... Ды стаіць ў чыстым полі адна, нешта ў яснага слонца пытае; рукі ломіць свае, з ветрам мову вядзе,— ўсё сыночка свайго ўспамінае...

Прысьніся, мой тату, зьявіся, радзоны,— паглядзі на жыццё свайго сына!.. Раскажы пра гасподу сваю, пра садок, паплавэ, пра крынічку; раскажы, як там Нёман цячэ, ціха лозы растуць, салавейка сьпевае ў лузі; як шуміць сіні бор, ходзіць яха па ём і зязюлька кукуе у тузі? Як руніць збажына, бела грэчка цьвіце, як там жыта-пшаніца красуе? Раскажы, як там нівы растуць, сумна жнеі пяюць, зелянеюць луге аксамітам; як каліна цьвіце, сумна груша расьце на мяжы, ля раллі, у адзіноці? Раскажы, як народ наш жыве, раскажы мне пра край наш каханы...

Беларусь, Беларусь! Агнём імя тваё мне гарыць, с песьні ласкаю маткі нясецца, ясным слонцам у размові стаіць і грымотай у гнеў раздаецца. Бачу смуклую постаць тваю, як образ уселюдзкай пакуты... Табе песьні складаю, віршую, пяю,— к табе сэрцам навекі прыкуты. Як нявехна ў нiроднай сямьі, ты пасагу сабе ня надбала; залатыя клейноты свае ў пыху сёстрам сваім даравала. Ссохлі вусны ад смагі твае, пахілілася голаў на грудзі... Сьлязьмі выяло вочы табе... Абабралі красу тваю людзі. І стаіш у мяне ты ў ваччу, цябе з думак і ўночы ня зводжу. Як жаніх на нявехну гляджу, адарваці вачэй я не можу!..

Беларусь, Беларусь! Ты ядына маё залецанне, ты і вера мая, і надзея мая, і любоў ты мая і каханне. Ужо яснае сонца над намі ўзышло, асьвяціла праменням свабоды; рашчыніліся дзьверы у нова жыцьцё, ў гмах братэрства і шчасьця, і згоды. Закрасуй, запышэй, Беларусь, як цьвет маку і красак у маю. Няхай славіцца імя тваё па бел-сьвету ад краю да краю!

## НАША ГАСПОДА

Ды ні спалохала цяжкая праца татульку. Адтрымаўшы ў спадшчыну — як ён сам выслаўляўся — два бёрды, навой і кажух без каўнеру, ён ні меў сапачынку і ў ночы: рупіўся, дбаў, прыспараў і ні даў сабе тхнуць, покі ні ўзьбіўся на вольную сьцежку. І гаспадарка с часам зацьвіла й загула, як дунай. Цяпер, куды ні зірнеш, на што вокам ні кінеш — ўсё голасна сьведчыць, што гэта заможна гаспода, што жыве тут старанны, працавіты гаспадар, і прыдбана ўсё гэта ні ў год і ні ў два, а доўгім жыццем, ахвотнаю працай да сэнсу.

Двор наш зрабіўся, як вуліца ў вёсцы. Шары будынак яго шчыльна стуліўся абапал і робіць ўражэнне доўгае ліні ў лесі.

На першым мейсцы тоўпіцца хата, яшчэ старасьвецкай, дзядоўскай будоўлі. Стрэха на ёй зьвісла на сьцены, як аблавухая шапка на вочы. У летку зарастае яна травою, рамонам, некімі доўгімі жоўтымі кветкамі і смугла-зялёнай лебядою,— тэй самай лебядою, каторую у свой час дзядэ нашы прымешвалі ў хлеб дзеля «спорнасьці і прыбытку». Цяпер, дзяўбуць яе куры на дождж, а пад навальніцу ліжуць сабакі,— больш нікому яна ні патрэбна, бо й жывёла, нюхнуўшы, трасе галавою ды шукае іншае стравы... Сама хата сагнулася, як баба ад старасьці, нахінулася неяк назад ды ўелася ў зямлю, але падсьлепаватыя, чорныя здалёк, вокны вызіраюць с-пад стрэх прыветна й ласкава, як родная маці. Побач, каля брамы с парканам, што адгароджвае двор наш ад вуліцы, прытулілася студня з высокаю тоўстаю «бабаю». «Баба» з нізу крыху падгніла і нахілілася ўперад, дык, дзеля падтрымання, яе абнесьлі навокала зрубам і ўтрамбавалі каменням з зямлёю. З гэтаго

зруба выглядае яна, моў тая чапля с купіны, калі стаіць нірухома, падкурчыўшы ногу, ды сочыць пажыву. «Журавель» з вядром, так ік дзюб бусла з купінай у році, вісіць над вялізным карытам, дапасованым с таўшчэрнага даўнейшага чоўна.

З гэткага чоўна зроблен у нас жолаб у стайні. Нябошчык наш дзядзька Матэва праз дзён колькі «хаваўся у ём ад праваслаўья» і казаў, што пачуваўся там добра й прасторна, як лепей ні трэба. А чалавек ён быў ні маленькі! Бывала па хаці ні пройдзе, каб ні сагнуцца, бо замінала яму і столь, і бэлька, і ўсё чыста ў хаці. І вось, у той час, як добрыя людзі шукалі сабе паратунку па ямах, пагрэбох, лёхах, як уцекалі яны ў лес ды гібелі там з голаду і холаду, як Хвэлька Каваль мусіў апыніцца ад жаху ў Коўні,— тым часам дзядзька спакойна палежваў пад сенам у жолабі і вухам ні вёў. Конь хрумстаў сено, а ён пасьміхаўся ў вусы...

Ні расьце цяпер лес, як даўней! Вось глянеш на кавалак даўнейшага чоўна, дык дзіво бярэ, дзе магло вырасьці гэтакае дрэво, які грунт узгадаваў гэтакую веліч? Паглядзіш, зьмяркуеш і — такім пышным і мілым малюецца ў думках абраз старавіны, што Божа мой мілы! Робіцца сумна, нідобра... Як яснае слонцо чорнаю хмараю, засьцілаецца сэрцо смуткам і жальбаю. Стаіш, як прыкуты, глядзіш, як ніпрытомны ды — марыш і марыш без конца. І здаецца, што ні было даўней ліха на сьвеці, што ні ведалі людзі сучаснай галоты, бяды і уціску, а ўсім было добра, спакойна і вольна. І слонцо, здаецца, сьвяціло яскравей, грунт быў чарней, ураджайней, і скрозь панавалі прастор і краса. Ды зьнікло ўсё гэта, растало, як мара, і ні вернецца болей ніколі, як моладасьць наша, як першае наша каханне...

Проці хаты, крокаў колькі ад студні, стаіць варывенька з маленькімі, у дзьве шыбы, вакенцамі. Шалевання ў вокнах німа, шыбы пасінелі й пажоўклі ад слонца і пазіраюць на хату, як сьляпы ў паветро. За варыўнёю, пад аднэю страхою, пасталі ў радок — сьвіран с прыгрэбнікам, павець, хлявэ і дрывотня. Разам с хатаю, у адным зрубе з ёю,— камора, за комораю — сьметнік, разсаднік, абгароджаны тынам, а далей — зноў хлявэ. На канцы двара, мэрам на горцэ, красуе садок, або пчольнік, адгароджаны ад двара парканам с пералазам і весьніцамі з боку, а за садком, на задох,— гумно і адрынка. Паўздоўж садка, каля гумна і адрынкі,— зелянее пругмень, і здаецца здалёк, што і садок, і гумно, і адрынка стаяць на зялёным ядвабным каберцы. Садок нівялічкі, але густы і прыгожы. Вось як разрасьцецца вясною, як зацьвіце, закрасуе, як запахне цьветам і кветкамі ды разальецца ў паветры салодкі пах мёду, дык і стаяў-бы й глядзеў-бы!..

## КАЛЯ КАРЧМЫ

Пачынае зьмеркацца, а татулькі з рыбы німа і німа. Матка — дык тая разоў колькі, бывало, зьбегае глянуць, ці німа рыбакоў каля карчмы, але надарэмна. Так яно заўсюды бывае, калі чаго пільна чакаеш. А рыбакі ніколі і самі ні бавіліся ў карчмі. Кожны памятаў, што ні час цяпер джынджыкі біць — німа калі длякацца: трэба хутчэй сапачыць, каб заўтра рана ўстаць ды зноў за работу прымацца. Каля карчмы ў гэты час адбываліся толькі звычайныя ў нас, будзёныя карчомныя зьявы. Там, на ганку ці на прызьбі, пастаянна сядзелі вядомыя й па-за межамі нашага села — Антось Лузун, Сьцёпка Латак і дзяк Ралькоўскі ды кожны па-своему выяўляў сваю натуру. Трудна выабразіць сабе нашую карчму без гэтых людзей. Яны сядзелі тут з ранку да вечара. Карчма была для іх прытулкам і уцехай, асабліва посьля таго, як яны, «спраўляючы ката», нарабілі пажару ды спалілі дзякову кватэру. Ледзьвя выскачылі яны с палаючай хаты, а дзяк астаўся і босы і голы. С таго часу ў летку хадзіў ён, накінуўшы на плечы вялікую жаночую хустку, Бог яго ведае адкуль узятую, а ў зімку — насіў «раманаўскі кажух», каторы купілі яму селяне ў складчыну. На лето кажух адбіралі, каб ні прапіў, ды хавалі ў старасты.

Антось Лузун, Сьцёпка Латак і дзяк Ралькоўскі разам жылі, разам пілі, разам пачавалі, але ніколі ні сварыліся, бо, выпіўшы, мала размаўлялі, а больш сьпевалі і то кожны па-асобку, ні замінаючы і ні перашкаджаючы адзін аднаму. Дзяк лю-

біў перасыпаць свае кароткія сьпевы «пякельнымі», як людзі казалі, словамі. Прась-певаўшы, напрыклад, слоў колькі, ён раптам скрыгітаў зубамі ды крычаў:

— Ссаддоммія!

А далей, дробна, як разсыпаючы гарох, зноў пачынаў выводзіць пачатак аднае і тае песьні:

Скучна мне, скучна мне
На чужой старане!
Чужа-дальня старана...

— Ггамморрыя! — канчаў ён ды зноў пачынаў скрыгітаць зубамі заядла і ўпарта, мэрам жадаючы паламаць сабе зубы. Сьпеваў ён каля карчмы і духоўныя канты, але на матыў звычайных селянскіх песьняў. У цэркаў хадзіў рэдка і ніспадзевана, як для сябе, так і для людзей. Там замяняў яго староста Крэўчык, каторы с пачат-ку сьмяшыў людзей сваімі асабістымі сьпевамі, а далей, нічога,— прывыклі. Сьпеваючы, Крэўчык так моцна выцягваў у верх сваю шыю і так тонінька і піскуча выводзіў, што сьвежаму чалавеку здавалося, што яго нехта рэжа. У дадатак да гэта-го, ён так праймаўся кліраcным сьпевам, што часта блытаў ц.-славянскія сьпевы с польскімі і заміж «аллілуіа» сьпеваў «аллялюя». Але яшчэ горш было, як трапляў на клірас сам пан Ралькоўскі. Ушчыналася калатня. Дзяк намагаўся вярнуць страча-нае права на гаспадарство на клірасі, а Крэўчык ні здаваўся.

— Ідзі прасьпіся! — шыпеў Крэўчык на дзяка.

— Лезь на званіцу! Чаго ўзьбіўся на клірас? — рыпеў траскучым шопатам Ралькоў-скі ды, зьняважліва павярнуўшыся у другі бок, задаваў сабе тон: «соль-сі-ре-сі-соль». Узьярытованыя, яны часта штурхалі адзін аднаго пад-бокі і забываліся ад-казваць на возгласы сьвяшчэнніка. Тагды стары, сівы наш попік, моцна кашлянуў-шы, пачынаў сам сабе адказваць, цярпліва выжыдаючы, покі яны ўлагодзяцца. Дзяк быў далёка спрытнейшы ў сьпевах і часта наўмысьля зьбіваў Крэўчыка с тону. А зьбіўшы таго с панталыку, зларадна пасьміхаўся ды шыпеў на ўсю цэркву:

— Куды-ж ты завёў, каб цібе сьляпога вадзілі! Ці-ж ты ні чуеш, што трэба браць у актаву?!

— Адчапіся ты с сваёю актаваю! — бараніўся Крэўчык.— Сам цягне, як воўк у Піліпаўку, а шчэ другіх папраўляе. Згіненне, даруй, Божа, цяжкі грэх!

Людзі с пачатку абураліся, а далей прывыклі ды спакойна чыталі кантычкі, ні зьвяртаючы ўвагі на тое, што вычваралося на клірасе.

У той час, як Ралькоўскі выгуківаў каля карчмы свае пякельныя словы, скрыгі-чучы зубамі, Сьцёпка Латак, абхваціўшы голаў рукамі і хістаючыся з боку на бок, як жыд на багамоллі, нудна, як плач у чыстым полі, сьпеваў свае нізлічоныя песь-ні. Пачынаў ён іх ціха, а канчаў яшчэ цішэй ды доўга сядзеў моўчкі, зьвесіўшы паміж кален ніколі нічэсаную голаў, мэрам углядаючыся ў тыя малюнкі, што выклі-каліся песьнямі. А памаўчаўшы, трос галавою ды зноў пачынаў:

А хто дачок мае,
Ніхай навучае:
Позна да карчомкі
Гуляць ні пускае.

Яшчэ нідаўна Сьцёпка Латак быў сталым, паважным дзяцюком і павабным жаніхом. Дзеўкі лезьлі к яму, як машкара на агонь, але ён адносіўся да іх, як певянь да курэй.

— А кыш, каб на вас арлэ! Чаго лезяце, як слата?! — часам крычаў ён на іх з нейкай патураючай зьняважлівасьцю. А дзяўчаты ні адставалі. Тым часам, толькі адна займала яго сэрцо. Трапілося так, што пайшла яна ў горад у наймічкі ды недзя зацярушылася ў горадзі. Казалі, што ўпала ў распусту. Сьцёпка пешкі хадзіў даведац-ца ў горад, а вярнуўшыся дамоў, стаў піць, гуляць і ні вылазіць с карчмы. Бабы курылі яго рознымі зёлкамі, паілі настойкамі, пасылалі да знахароў і знахарак, нават раілі тайком паспаведацца ў ксяндза,— ці ні адверне, але нічога ні памагало. Хлопец хадзіў, як ніпрытомны. Ратунку ні знайшлі ды адышліся. Так і застаўся ён сам с сабою, бо бацьке паўміралі яшчэ да гэтаго выпадку. Любіць ён пагаварыць з Ралькоўскім аб сваей згіблай палюбоўніцы, але той мала здавальняе яго запытан-ні.

— Кінь, Сьцёпка, назаляць! — адказваў яму Ралькоўскі: — нічога я ні ведаю. Пі, калі пьецца, і нічога ні думай. Вось я нарабіў сабе сваімі думкамі. У сэмінарыі вучыўся, да акадэміі хацелі паслаць, а потым выгналі мяне, як сабаку, за думкі мае

і апынуўся я ў карчмі. Кінь, брат, свае думкі аб ёй. Будзем піць, а далей — памром і нічагутка гэтаго ні будзе...

— Мне толькі жадаецца ведаць,— казаў Сьцёпка: — хто яе падбіў на гэта і на што яна гэта зрабіла?!

— Гэ! Лягчэй табе будзе, ці што?! — адказваў дзяк: — бо сьцерва была, ты думаеш што лепшае?

Дзяк пачынаў сярдаваць, а Сьцёпка адварочваўся, цяжка ўздыхаў ды зноў верадаваў свае раны песьнямі:

А Божа, мой Божа,
Што ціпер за сьвет!
Каго верне любіш,
Таму праўды нет.

Антось Лузун ні паходзіў ні на дзяка, ні на Сьцёпку Латака. Гэта быў чалавек іншаго кшталту. Досыць сказаць, што рудыя вусы яго мелі такі задорлівы выгляд, мэрам хацелі сказаць усім добрым людзям:

— Крані толькі майго гаспадара, дык пазнаеш ты, па чом хунт ліха!

І людзі сьцерагліся Лузуна і паважалі яго, як той бруд на трэсцы. Але натура Лузуна ні мірылася з безчыннасьцю і вымагала актыўнага руху. Ні гледзючы на асьцярожнасьць людзей, ён такі трапляў недзя на свайго, бо шкурка на яго носі ніколі ні зажывала і часта яго сіня-барвовы нос аздабляўся папіроснай папераю, асабліва ў гарачы, сьпякотны час, як назалялі мухі. Сам ён тлумачыў нізажыванне свайго носу тым, што ў яго пастаянна лужыцца шкурка, а людзі прадражнілі яго за гэтую брахню Лузуном. І цікава, нізважаючы на сваю ваяўнічую натуру, Лузун ніколі ні біўся с таварышамі па пляшцы, хоць яму подчас і маркотна, мабыць, было з імі, бо да сьпеваў ён здольнасьці ні меў. У вольны ад гарэлкі час ён ціха сядзеў і нешта думаў, а прахапіўшыся ад думак, трос у паветры кулаком ды пагражаў некаму ворагу:

— А ну, маршч у катух! Ні маеш полнаго права!..

Што ён думаў? Бог яго ведае. Мабыць распаляўся сьмяртэльнай помстай да тых, хто быў вінавайцам яго ніколі нізажываючаго носа. Усю паўнату свае натуры Лузун выяўляў дома, ваюючы з жонкаю і дзяцьмі. Звычайна рабілося гэта пад поўнач, у той час, як траплялося яму вярнуцца да хаты. Гаспадарку ён кінуў даўно, разважыўшы, што ўжо сваё адрабіў, а цяпер павінны працаваць на яго дзеці. Дзеці былі яшчэ малыя, а таму ўсю гаспадарку вяла яго працавітая, паважаная ўсімі жонка, Марьяна. А ён піў і гуляў,— піў і ніколі ні каяўся і ні зарэкаўся, як гэта робяць іншыя на пахмеллі. Ён пьянстваваў без жадных хітрыкаў і цягнуў у карчму ўсё, за што можна было выпіць: жыто, хлеб, хамут, дугу, хусткі, жончыны убранні, курэй і яйца. А вярнуўшыся часам пад поўнач да дому, біў гаршкі, ламаў качэргі і катаваў жонку, калі тая ні ўсьпевала схавацца да суседзяў. Апошнімі часамі Марьяна з большым сынам ухітрыліся зьвязваць яго вяроўкамі ды класьці пад пол. Ён роў там, як вепрук, ды аж плакаў ад злосьці. Дзеці, пахаваўшыся на печы, трымацелі ад страхоцця і ні спалі да сьвету, покі ні засыпаў бацька, змогшыся пад палом.

Меў яшчэ Лузун маленькую сучку, Шульку. Бывала, угледзіць Антося без Шулькі, альбо Шульку без Антося было-б надзвычайным зьяўленнем. Яны былі злучаны ніпарушным замілаваннем.

Цяпер Шулькі німа. Яе задушыў пан Ралькоўскі дзьвярамі, як казалі, наўмысьля, бо нінавідзеў яе за памаўзьлівасьць і назалянне. Тым часам, Антось Лузун еў з ёю з аднае міскі, слаў ей пасьцель, няньчыўся з ёю, як маці з дзіцям, і ні раставаўся з ёю ані на момант. Дзе быў Антось — там была і яго Шулька. І хто яго ведае, чым больш праслаўляўся Антось: сваёю натураю, ці гэтаю Шулькаю. Лузун тры дні плакаў па Шульцы, як задушыў яе пан Ралькоўскі, а потым зрабіў труну і пахаваў на ўздарожжы. Ён маніўся паставіць крыж, і толькі пагроза селян, што паскардзяцца станавому, усьцерагла Лузуна ад гэтаго кроку.

**Язэп ЛЁСІК**

19/ІІ—25/VI
1914 г. Сібір

# СТАЛА ІМ РОДНАЙ ЗЯМЛЯ БЕЛАРУСКАЯ...

У францысканскім штогодніку за 1324 год паведамлялася, што «браты», якія выправіліся ў краіну літоўскую з мэтай аглашэння навукі Хрыстуса, нечакана сустрэлі там людзей, што прыбылі з краю нейкага хана і адпраўлялі малітвы свае мовай азіяцкай. Пасол англійскага караля Джыльберт дэ Ланоў у лютым 1414 года, які ехаў з Вільні ў Прусію праз Трокі, у дзённіку адзначыў, што ў многіх вёсках вялікая колькасць татараў, якія маюць мову асаблівую, званую татарскай, у Троках шмат немцаў, ліцвінаў, русінаў і вялікая колькасць яўрэяў. Да апошніх пасол залічыў караімаў, нашчадкаў хазар іўдзейскага веравызнання...

Пра татарскія набегі на землі Беларусі захавалі памяць песні:

Гарыць агонь ясненькі,
Стаіць шацёр навенькі,
А ў тым шатры татары,
Ды з маёй жаною...

Гедымін, Кейстут, Альгерд запрашалі татар і поўлаўцаў-кіпчакоў на ваенную службу. Былі і ваенныя сутыкненні. Альгерд неаднойчы ваяваў з ханам Джанібекам (памёр у 1356 годзе). У той жа час конніца Джанібека брала ўдзел у паходах Альгерда ў 1350 і 1352 гадах. Палітыкі прымірэння з татарамі трымаўся і Ягайла. На чале татарска-кіпчакскага воінства ён накіраваўся ў 1380 годзе на Дон, дзе ў войску маскоўскага князя Дзмітрыя Іванавіча на полі Куліковым удзельнічаў у бітве з Мамаем.

Часткай стратэгічнай задумы Вітаўта было пашырэнне татарскіх пасадаў як у цэнтры дзяржавы, так і на парубежжы,— частыя войны вымагалі стварэння шырокай ваенізаванай праслойкі.

На парозе XIV—XV стагоддзяў Залатую Арду падрывалі шматлікія дынастычныя і родаплемянныя сваркі. Гэта садзейнічала павелічэнню колькасці перасяленцаў. Пасля смерці ў 1380 годзе Мамаяваладар татарскіх ордаў Цімур-Ленк аддаў трон хану Белай Арды Тахтамышу. Той у 1387 годзе выступіў супраць свайго патрона, за што і паплаціўся. Цімур-Ленк разбіў яго і скінуў з прастола. Воіны Тахтамыша ўцяклі ў памежжа Масковіі, Малдовы і Літвы. У тым жа 1387 годзе Тахтамыш са сваёй сям'ёй, бліжэйшым акружэннем і купкай вояў прыбыў да Вітаўта.

Прыняўшы Тахтамыша, сабраўшы ўласныя войскі, запрасіўшы рускія палкі, Вітаўт у 1387 годзе накіроўваецца ў Кіпчакскія стэпы, прайшоў за Дон да Волгі, уварваўся ў галоўнае ардынскае качэўе, узяў

у палон тысячы татараў з сем'ямі і статкамі і накіраваў іх у Літву.

Летам наступнага 1389 года з тым жа войскам, да якога далучыўся і невялікі атрад крыжакаў, Вітаўт выпраўляецца ў Крым і ва ўлусе Сірынаў садзіць на трон Тахтамыша. Уздоўж паўднёвага ўзбярэжжа Крыма жылі нашчадкі хазараў, якія прынялі іўдзейскае веравызнанне — караімы. Вітаўт на зваротным шляху захапіў з сабой некалькі іх сем'яў і рассяліў пасля ў сваёй Трокскай рэзідэнцыі.

У 1410 годзе да Вітаўта прыбывае з сям'ёй сын Тахтамыша, а з ім састарэлы султан Джэлад-эд-Дзін. У час Грунвальдскай бітвы татары пад кіраўніцтвам Джэлад-эд-Дзіна добра-такі пашкуматалі палкі крыжакаў, за што Вітаўт дапамог старому султану ў барацьбе з яго ворагамі ў Ардзе. З 1412 года ханскую чалму прымае сын Тахтамыша.

Пасля аб'яднання Вялікага княства з Польшчай рассяленню крымскіх татар і кіпчакаў на землях Беларусі і Літвы садзейнічаюць Казімір Ягелончык, Аляксандр, Жыгімонт І.

Службовая татарская знаць пачынае набываць дваранскія правы, што знайшло пацвярджэнне ў двух «прывілеях» Жыгімонта Аўгуста 1561 і 1568 гадоў, а пазней у «прывілеях» Стэфана Баторыя (1576 года), Жігмонта III (1608 года), Уладыслава IV (1634 года) і іншых.

Гербы, геральдычныя знакі XVI—XIX стагоддзяў сведчаць пра тое, што на Беларусі было больш за пяцьдзесят вядомых татарскіх прозвішчаў. Аселая татарская арыстакратыя ператварылася ў феадалаў (татар-зямян), уладальнікаў маёнткаў, фальваркаў і вёсак. Рэшта ж перасяленцаў стала звычайнымі хлебаробамі, асела ў гарадах і мястэчках, займалася вырабам скур, меднага посуду, рамізніцтвам і г. д. У гарадах і мястэчках татары звычайна засялялі ўскраіны і прадмесці. У Мінску Татарская слабада ўзнікла ў XVI стагоддзі. Насельніцтва яе складалі палонныя крымскія татары, разбітыя пад Клецкам. У 1599 годзе тут, у Татарскай слабадзе, была ўзведзена драўляная мячэць, якая ў 1900 годзе была заменена мураванай.

У XVI стагоддзі на землях Беларусі, Літвы і Польшчы жыло каля сарака тысяч татараў, а ўжо праз стагоддзе — звыш ста тысяч. У пачатку нашага стагоддзя іх засталося каля дваццаці тысяч. Найбольшая колькасць татараў жыла ў наваколлях такіх гарадоў, як Маладзечна і Ашмяны, Мір і Нясвіж, Клецк і Сіняўка, Узда і Капыль, Слуцк, Смілавічы, Ляхавічы і інш. Памяць пра татарскія асады захавалася ў назвах паселішчаў: Койданава, Татарка, Татаршчына, Сорак Татараў, Арда, Агдамер, Мамаі і інш. Сёння ў Беларусі жыве звыш дзесяці тысяч асобаў татарскай нацыянальнасці.

Татары, якія перасяліліся ў беларускія і літоўскія землі, былі выхадцамі са шматлікіх плямёнаў і родаў. Шматлікімі былі нашчадкі кіргізскіх плямёнаў Садзір і Найма, Кара-керыс і Багамалаў, Серкеч, Балталу, Кірэз, Джалаір, Кірэй, крымскіх кланаў Даўлет Бярдзэя і Даўлет Гірэя, Сірынаў і Аргунаў, Ячлай, Нагайцаў з Дольнай арды. Тамгі хана Залатой Арды Менгу-Цімура (1266—1280), былых у Залатой Ардзе родаў уйшунаў і Конград, бралі пачатак у эпоху Чынгіз-хана.

Татары Беларусі і Літвы веравызнавалі іслам суніцкага толку («суна» па-арабску «звычай», сінонім тэрміну «хадзіс», паданне пра Мухамеда). Суніты лічылі законнымі спадчыннікамі Мухамеда трох легендарных халіфаў — Абу-Бекера, Амара і Асмана — і таму прызнавалі толькі тыя паданні пра Мухамеда (суны), якія ўзніклі пры іх. Праціўнікі сунітаў — шыіты (мусульмане Ірана, некаторых раёнаў Блізкага Усходу і Індыі) супрацьпастаўляюць ім паданні, асновай якіх служаць выслоўі самога прарока,

халіфа Алія і яго нашчадкаў-імамаў. Вучэнне сунітаў мела чатыры накірункі. Беларускія і літоўскія татары вызнавалі суніцкае вучэнне Абу Ханіфа (памёр у 767 годзе). Да сунітаў адносіцца большая частка мусульман СССР, Турцыі, Індыі і Кітая.

Запаведзі Карана патрабавалі веры ў Алаха і яго прарока Мухамеда, малення пяць разоў на дзень, захавання посту, міласэрнасці да жабракоў і сіротаў, паломніцтва да Каабы ў Меку. Павагай і пашанай карыстаўся звычай міласэрнсці — садога. Садога суправаджалася раздачай ялмузны: гародніны, прысмакаў, печыва, блаславёных малітвай. Маральнай нормай лічылася падтрымка бедных, апекаванне старых і сірот.

Паломніцтва ў Меку маглі дазволіць сабе толькі заможныя татары. Польскі гісторык С. Крычынскі ўспамінае пра паломніцтва трох татараў з Беларусі і Літвы, здзейсненае ў 1557—1558 гадах. Праз Чорнае мора, Румею (Візантыю) паломнікі трапілі ў Стамбул. Тут іх з увагай сустрэлі туркі, запрасілі ў свае дамы, у мячэці, прадставілі султану, які шчодра іх адарыў і прапанаваў працягваць шлях у яго караване. Здзейсніўшыя паломніцтва атрымлівалі тытул хаджы. Тыя ж, хто не меў магчымасці выправіцца ў Меку, пілігрымствавалі ў Лоўчыцы (непадалёк ад Наваградка), да магілы святога падпаска Кунтуса, і ў Сіняўку — да цудадзейнай магілы немаўляці.

С. Крычынскі паведамляе, што нейкі Ян Мурзевіч, які жыў у Харовічах пад Наваградкам, узяў у свой двор пасля руска-турэцкай вайны 1877—1878 гадоў некалькі туркаў-юнакоў, якія рабілі для яго пераклады рэлігійных кніг. Гэта пацвярджае той факт, што беларускія татары ў XIX — пачатку XX стагоддзя арабскай мовы не разумелі. Пры чытанні карана карысталіся каментарыямі і перакладамі на рускую, беларускую і польскую мовы. На малітву прыходзілі ў галаўным уборы, перад уваходам у мячэць здымалі абутак. Жанчыны апраналіся чыста і сціпла, валасы пакрывалі шалем. Старым і нямоглым месца ў мячэці адводзілася каля сцен, на лавах і табурэтках.

Вылучаліся буйныя багаслужэнгі — гужэль, і невялікія — абдэст. Днём малебнаў была пятніца. Пачынаўся ён з чытання карана, затым спяваліся малітвы, якія ўсхвалялі продкаў і прарокаў, у тым ліку Ісуса і Мухамеда. Нярэдка ў малітвах гучалі матывы старажытных продкаў — качэўнікаў. На дні пятніц прыпадалі і святы. Галоўнае, Рамадан-байрам, пачыналася адразу пасля заканчэння посту — рамадана (разгавенне) і доўжылася тры дні. У першы дзень ішлі ў мячэць, пасля намазу падносілі імамам і мулам падарункі — фітрэ. Пасля вяртання абедалі, ішлі на могілкі (мізар) прачытаць малітву за «душы кроўныя». На другі і трэці дзень наведваліся адзін да аднаго ў госці, ладзілі танцы і гульні.

Курбан-байрам святкаваўся чатыры дні. У першы, у памяць продкаў, рабілася ахвярапрынашэнне (курбан — ахвяра), забівалі вала (быка, карову) ці барана. Згодна з традыцыяй Абрахам (ці біблейскі Аўрам) прынёс богу ў ахвяру сына Ізмаіла (біблейскі Ісак), бог тую ахвяру замяніў на авечку. Жывёліну забівалі ў мячэці ў прысутнасці імама, пад яго малітву. Мяса дзялілася між прыхажанамі, імамам і жабракамі. Карэнні звычая бяруць пачатак у традыцыях родавага ладу, дзяльбы мяса між членамі роду. У 1989 годзе ў дзень курбан-байрама ў г. п. Іўе Гродзенскай вобласці ў ахвяру было прынесена восем бычкоў. Раней тут ахвяравалі авечак і да паўсотні пеўнікаў.

Ажурэйны байрам прыпадаў на 9—10 дні месяца Мухарама. У гэты дзень жонка Мухамеда Фаціма

чакала вяртання з вайны сыноў Хусейна і Хасана. Былі прыгатаваны разнастайныя прысмакі. Але прыйшла трагічная вестка: сыны загінулі. У адчаі перамяшала маці стравы, і з тых часін павёўся ў татараў звычай у дзень Ажура гатаваць страву з дзевяці гатункаў садавіны, зваранай у рысе.

Свята Міўлюд было прысвечана дню нараджэння Мухамеда і святкавалася як Новы год. Месяц Рамадан быў месяцам посту. У другой палове Рамадана імам збіраў фітрэ.

Беларускія татары ведалі месяцы месячнага календара. Муэдзін мячэці ў Іўі Шабановіч Ісмаіл Аліевіч пералічыў іх у мясцовым вымаўленні: Мухарам, Сафар, Рэбі-уль-аўвель, Рэбі-уль-ахыр, Джэмазіл-аўвель, Джэмазіл-ахыр, Раджаб, Шайбан, Рамадан, Шаўваль, Зіль-каад, Зіль-хадж. Месяцы перамяшчаліся з цягам часу, бо месячны год адстае ад сонечнага на 11 дзён. Летазлічэнне вялося ад 622 г., дня ўцёкаў Мухамеда з Мекі ў Медзіну. Нярэдка на надмагільных камянях ставіліся дзве даты: «паводле летазлічэння прарока Мухамеда» і «паводле летазлічэння прарока Ісуса».

Першыя мячэці ў Беларусі ўзніклі ў часы Вітаўта. Прывілеі на будаўніцтва давалі вялікія князі, пазней патрабавалася і віза караля. На тэрыторыі віленскай дэцыі патрабаваўся яшчэ і дазвол біскупа. Дазвалялася ўводзіць пярці толькі драўляныя, сціплыя па архітэктуры. С. Крычынскі пісаў, што турэцкі султан Мурад III, у звароце да польскага караля Жыгімонта III у 1591 годзе прасіў апошняга «садзейнічаць у справе вольнага будаўніцтва мячэцей у калоніях татарскіх на Літве». Рэлігійныя баталіі, якія скаланалі Польшчу ў XVI—XVII стагоддзях, закранулі і татараў. Біскуп Віленскі Бенедыкт Война (1600—1616 гг.) не дазволіў татарам ні будаваць, ні аднаўляць мячэць. Сеймік Галіцыі ў сваіх пастановах 1666 і 1667 гадоў патрабаваў пад пагрозай канфіскацыі маёмасці, каб у «ваяводстве рускім» татары ў маёнтках сваіх



Мячэць у Іўі. Здымак 1990 г.

мячэцей не будавалі. У праекце пагаднення з гетманам Сабескім у 1673 годзе пад час бунту татарскіх ротмістраў апошнія патрабавалі дазволіць вольна будаваць мячэць. Толькі ў 1766 годзе польская канстытуцыя дазволіла татарам рамантаваць старыя, а канстытуцыя 1775 года — будаваць новыя мячэці.

На момант падзелу Польшчы (1795 г.) на тэрыторыі Беларусі і Літвы знаходзілася 23 мячэці і 65 малітоўных дамоў. Да найбольш старажытных адносіліся прыходы ў Некрашунцах пад Лідай (1415 г.), у Лоўчыцах пад Навағрадкам (1420 г.). У пачатку цяперашняга стагоддзя на тэрыторыі Беларусі працавала больш за 20 мячэцей. Акрамя вышэйзгаданых — у Крыш'янах пад Гродна (прыход з 1679 г.), у Наваградку (1792 г., нанова адбудавана ў 1855 г.), у Слоніме (1804 г., адбудавана пасля пажару ў 1882 г.), у Ляхавічах (1815 г., адбудавана ў 1924—1925 гг. на ахвяраванні беларускіх татараў, што эмігравалі ў Амерыку), у Міры (збудавана да 1795 г., адбудавана ў 1840 г.), у Відзах (1860—1865 гг.), у Мядзелі (1840 г., адбудавана нанова ў 1930 г.), у Асмолаве пад Наваградкам (з 1834 г., перабудавана ў 1924—1925 гг.). На прыканцы мінулага стагоддзя мячэці былі пабудаваны ў Ляхавічах, Капылі, Уздзе, Смілавічах. Малітоўныя дамы ў пачатку XX стагоддзя былі ў Глыбокім і Докшыцах.

Зараз на Беларусі маецца чатыры мячэці: у г. п. Іўе (1884 г.), у вёсцы Доўбучы Смаргонскага раёна (прыход з 1588 г., мячэць пачатку XVIII ст., перавезена з вёскі Сялец Маладзечанскага раёна), у Наваградку (1775 г., нанова адбудавана у 1855 г.), у вёсцы Лоўчыцы Наваградскага раёна (прыблізна 1688 г.).

Відавочца XVI стагоддзя пісаў, што мячэці літоўскія ўбогія і нізкія, з дрэва, без мінарэтаў, «для жанчын у некаторых мясцовых мячэцях ёсць асобнае месца ўнутры хаты, аддзеленае ад мужчынскага...» Невядомы аўтар паведамляў нямецкаму гуманісту Давіду Гутрэўсу ў 1584 годзе, малюючы мячэць у Лукішках пад Вільняй: «...голыя тут сцены, падлога толькі тканымі ходнікамі засцелена...» Пэўна, мячэці Беларусі ў XV—XVI стагоддзях сапраўды не мелі мінарэтаў, і муэдзіны склікалі прыхаджан на азан (малітву) з ганка мячэці, або абыходзячы сяло. Са з'яўленнем мінарэтаў білі і ў званы. Той жа Гутрэўс у паведамленні аб Лукішскай мячэці адзначаў: «біццё ў звон ні з чым не параўнаць». Архітэктура мячэцей Беларусі развівалася ў рэчышчы планіровачных і канструктыўных рашэнняў народнага жылля: квадратны зруб са слупам пасярод, які накрываўся стромкім шатровым дахам са сціплым мінарэтам.

Выдатным помнікам драўлянай архітэктуры з'яўляецца мячэць у Даўбучках. Тут знаходзіўся адзін са старадаўніх прыходаў на Беларусі (з 1588 года). Паводле старажытных актаў пра літоўскіх татараў (запіс у кнізе гарадскога суда ў Вільні ад 2 сакавіка 1594 г., рэестр на маёнтак Даўбуцішскі князёў Алекічаў Бякгімавічаў Уланавых ад 30 верасня 1592 г.), заснавальнікам прыходу і мулой мячэці быў нейкі дэрвіш, шэлябі, хаджы, кадзі ўсіх татараў літоўскіх Мурзіевіч. «Дэрвіш» з пярсідскай — той, хто просіць, г. зн. жабрак, ці мусульманскі манах. Шэлябі (ад арабскага «шэляб» — бог) — тытул, вядомы ў туркаў-асманаў з XIV—XV стагоддзяў, надаваўся людзям вялікай вучонасці: пісьменнікам, паэтам, публіцыстам, урачам, гісторыкам і г. д. У XVII—XVIII стагоддзях ён змяняецца запазычаным з грэцкай «эфендзі». Тытул «шэлябі» надаваўся і настаяцелям мусумльманскіх манастыроў у Малой Азіі. Кадзі (даслоўна «суддзя») у XIV—XVII стагоддзях быў кіраўніком прыходу. Мурзіевіч здзейсніў

паломніцтва ў Меку, доўгі час правёў на Усходзе. С. Крычынскі лічыць, што Мурзіевіч — адзін з трох беларускіх татараў-пілігрымаў, стваральнік трактата пра татараў Беларусі 1588 года. У 1584 годзе яму было 66 гадоў, значыць, у 1558 годзе ён быў дастаткова маладым чалавекам, здольным выправіцца ў далёкае падарожжа. У Стамбуле Мурзіевіч пазнаёміўся з вучонымі, скончыў мэдрэсе, стаў дэрвішам манастыра ў Анатоліі і, магчыма, пазней узначальваў яго. Там ён мог напісаць вышэйназваны трактат.

У XVII—XVIII стагоддзях у справах літоўскіх татараў фігуруюць турэцкія ўлемы і муфціі. С. Крычынскі дае паведамленне турэцкага гісторыка Ібрагіма Пячэві: у 1630 г. у Акерман (Белгарад) прыбыў пасол татараў польскіх з прапановай да тутэйшага муфціі аб заключэнні рэлігійнага пагаднення. Паводле Бухарскага трактату 1670 года вышэйшыя турэцкія духоўнікі накіроўвалі татарам Літвы фетвы — адміністрацыйна-рэлігійныя цыркуляры. Аднак апошнія ў мемарандуме 1677 года, завізіраваным каралём Янам III, адмовіліся ад рэлігійна-іерархічнага рэгламенту і патрабавалі права выбіраць сваіх муфціяў, улемаў і кадзі.

Пасля далучэння земляў Беларусі і Літвы да Расіі царскі ўрад аддаў татараў пад кіраўніцтва муфціяў з Крыма — так званаму таўрычаскаму духоўнаму кіраванню. Але па прычыне аддаленасці гэтае падпарадкаванне было фармальным. Татары Беларусі, Літвы, Польшчы стварылі аўтакефальнае рэлігійнае аб'яднанне і абіралі свайго муфція. У рамках буржуазнай Польшчы муфцій нёс адказнасць перад усяпольскім мусульманскім кангрэсам, які збіраўся раз за пяць гадоў. Кангрэс складаўся з прадстаўнікоў прыходаў і выбіраў калегіум, у які ўваходзілі муфцій і падначаленыя яму члены, двое духоўных і двое свецкіх. Муфцій і калегіум знаходзіліся ў Вільні, тут адбываліся і кангрэсы. Зараз татары Беларусі падпарадкоўваюцца мусульманскаму кіраванню еўрапейскай часткі СССР і Сібіры на



Мячэць XVIII ст. у в. Даўбучкі Смаргонскага раёна. Здымак пачатку XX ст.

чале з муфціем Талгад Тудж-Эдзінам, якое знаходзіцца ва Уфе.

Прыхаджане Даўбучак называлі сваю мячэць «джама, джэмія». Так зваліся буйныя мячэці, у якіх штодзённа адбывалася служба за халіфа — хутбэ. Такога ж тытулу былі ўдастоены мячэці ў Лоўчыцах і Мураўшчыне (Іўе). Адсюль і назва сходу прыхаджан — джэміят (па арабску — сход). Джэміяту належала прэрагатыва выбару кіраўніцтва прыходу, мулы, выдання разнастайных атэстацый і пасведчанняў, пацвярджэння шляхецкай радавітасці і г. д. Царскае самаўладдзе абмежавала правы мусульманскай абшчыны і заснавала інстытут патраната над мячэцямі. Патронамі прызначаліся заможныя татары, якія лічыліся на казённай службе. Адміністрацыя буржуазнай Польшчы спрабавала ажывіць традыцыі джэміята. Указ ад 21 мая 1936 года аб статусе мусульманскіх рэлігійных аб'яднанняў абвяшчаў, што «..на чале мусульманскай гміны (прыходу) стаіць імам, абаронцам і памочнікам якога з'яўляецца муэдзін. Імам і муэдзін выбіраюцца на агульным сходзе членаў гміны».

Вось як апісваў Даўбучкі і навакольную мясцовасць краязнаўца Чэслаў Янкоўскі (1886 г.): «Між Мысай і Беніцай, сярод ваколіц і крутых пагоркаў, сярод мора маленькіх фальваркаў, ваколіц, сядзіб і засценкаў, у катлавіне, замкнёнай з усіх бакоў маляўнічымі схіламі высокіх пагоркаў, ляжаць між зяляніны дрэў дамы і хаткі аднаго з найстарэйшых асадаў татарскіх. Гэта Даўбуцішкі... Ля дарогі, што ідзе ўздоўж па даліне, ля цэлага агламерату курганоў, падобных на шведскія, пасярод старых, замшэлымі камяніцамі могілак, пад шатамі бяроз — стаіць мячэць з чырвоным купалам, аздобленая крытай галерэяй, якая абапіраецца на белыя слупкі, зробленыя ў візантыйскім стылі... дзівосна вылучаючыся ў тым вясковым атачэнні». Побач з мячэццю быў і двор мулы, у доме якога зберагаўся архіў мячэці, які згарэў пад час пажару дванаццаць гадоў таму (г. зн., у 1884 г.).



Мячэць у в. Даўбучкі Смаргонскага раёна. Здымак 1989 г.

Фундацыя мячэці здзяйснялася як за кошт збораў з прыхаджан, асобных ахвяраванняў, так і сродкаў, што вылучаліся спецыяльнымі маёнткамі (вакуфамі), а таксама ўладальнікамі двароў і фальваркаў — калятарамі. Татары маёнткаў Даўбуцкага прыходу абавязаны былі, як калятары, выплочваць для мячэці пасошныя — па 2 злотыя з сахі. Гэты падатак увёў мула Якуб Лебедзеў у 1802 годзе. Даўбуцкай мячэці выплочвалі пасошныя за 176 татарскіх сох. У 1805 годзе нейкі Ян Крычынскі даў муэдзіну даўбуцкай мячэці Якубу Радкевічу завяшчанне (тэстамэнт) на пабудовы, палі і агароды. У 1919 годзе Эліяз Юшынскі завяшчаў даўбуцкай мячэці паўдзесяціны зямлі. Мулы буйных прыходскіх мячэцей зваліся хатыпамі (з арабскага — скарбнік).

Тытул «імам» (правадыр, кіраўнік мячэці) у татараў Беларусі і Літвы існаваў як афіцыйны. У народзе ўжываўся тэрмін мула (пан, абаронца). У дакументах XVI—XVII стагоддзяў шырока сустракаецца выраз: «мула — поп татарскі». Мула занатоўваў факты нараджэння, вяселляў і разводаў, вёў кнігі метрык, быў прадстаўніком татарскай абшчыны ў адміністрацыйных і судовых органах, фіксаваў прысягі, што прыносіліся на каране. Так, у 1792 годзе татары-жаўнеры прысягалі на каране на ганку Даўбуцкай мячэці на вернсць каралю, айчыне, канстытуцыі. Мула вёў спіс рамеснікаў, абавязаных выплочваць падаткі, выступаў ў ролі арбітра ў свецкіх справах. Яму на зберагание даваліся каштоўнасці, важныя паперы; як скарбнік, ён мог друкаваць аблігацыі. У пашане была і жонка мулы, пад час намаза яна займала месца ў сярэдзіне першага рада жанчын. Апратка мулы складалася з доўгай чорнай або зялёнай сукні з шырокімі рукавамі (джубэ, джуба) і цюрбана — чорнага ці цёмна-зялёнага каўпака, абгорнутага белым палатном (чалма). У дваццатыя гады віленскі муфцій увёў для імамаў чырвоны фес з белым завоем. Памочнік мулы, муэдзін, пад час багаслужэнняў знаходзіўся на хорах. У яго абавязкі ўваходзіла таксама навучанне дзяцей чытанню карана.

У залежнасці ад архітэктурнага рашэння мячэці Беларусі можна класіфікаваць на шэраг тыпаў. Да першага трэба аднесці тыя, аснову якіх складаў блізкі да квадрата зруб, шатровы дах, увенчаны мінарэтам (Сорак Татараў). Іншы раз з боку ўваходу мелася галерэя слупоў (Лукішкі, Іўе). Другі тып складалі мячэці з выцягнутым, прамавугольным зрубам, чатырохсхільным дахам, пасярэдзіне якога ўзвышаўся мінарэт (Асмолава). Да трэцяга тыпу адносяцца мячэці, архітэктура якіх складалася пад уплывам адна- і двухзрубных драўляных цэркваў са званіцай на лініі ўваходу і двухвежавых касцёлаў (Мір, Лоўчыцы). Чацвёрты тып уяўляюць купаловыя мячэці (Даўбучкі, Слонім).

У мячэцях Беларусі выявіліся ўсе галоўныя архітэктурныя асаблівасці, што гістарычна сфарміраваліся ў мусульманскім дойлідстве: галерэі, мінарэты, купалы. Крыніцай знаёмства з архітэктурай былі як кантакты з краінамі Усходу (паломніцтва, гандаль, міграцыя), так і вывы вядомых мячэцяў на мухірах і дыванах (Сулеймана ў Стамбуле, Амру і Каіт-бея ў Каіры і іншых). Даўбуцкая мячэць перавезена з вёскі Сялец, дзе была ўзведзена прыблізна ў 1735 годзе. З апісання Ч. Янкоўскага вынікае, што драначнае пакрыццё дванаццаціграннага купала было пафарбавана чырвонай фарбай, калоны галерэі — белай. Шалёўка сцен магла мець афарбоўку вохравую або зялёную. Расфарбоўка ў драўляным культавым дойлідстве пачала пашырацца са з'яўленнем шалёўкі (XVI ст.). Але і раней падфарбоўваліся белай або блакітнай крэйдавай фарбай ліштва вокнаў і дзвярэй, карнізы,

накшталт таго, як у курнай хаце выбельваўся падцёс вакол валаковага вакна (закрывалася дошкай). У чырвоны колер быў пафарбаваны ў XVII стагоддзі дах драўлянай царквы ў Вялікім Свораце пад Баранавічамі. Афарбоўка дахаў драўляных цэркваў шырока адлюстравана ў акварэлях сярэдзіны XIX ст. І. Трутнева і Д. Струкава. На малюнку, змешчаным у Ч. Янкоўскага, мячэць паказана без галерэі, з ганкам на вытачаных слупках. Калі гэта не памылка пры выкананні малюнка (напрыклад, па памяці), то ў такім выпадку галерэя з'явілася не раней 90-ых гадоў мінулага стагоддзя.

Купал, галерэя, вуглавы мінарэт выяўляюць у архітэктуры мячэці візантыйскія рысы. Запазычаныя з Візантыі купалы мусульмане шырока распаўсюдзілі па краінах Усходу, дадаўшы да іх стромкія мінарэты. Купаловыя мячэці з'явіліся ў Сафіі і Дамаску, Іерусаліме і Багдадзе, Кабуле і Бухары. Многія беларускія татары былі выхадцамі з крымскіх ордаў, татары Даўбучак і навакольнай мясцовасці паходзілі з арды Менгу-Гірэй-хана. Унутраная аздоба даўбуцкай мячэці падзялялася на дзве часткі: для мужчын і для жанчын, кожная са сваім уваходам. Гэтая асаблівасць сваімі карэннямі ідзе да традыцый жылля кіпчакаў, якое мела мужчынскую і жаночую палавіны. Мужчынская і жаночая часткі падзелены сцяной, якая мае прарэз з балясінамі. Прарэз занавешваўся белай тонкай вуаллю — муслінавай. Багаслужэнне вялося ў мужчынскай частцы. Тут у сцяне была зрубная ніша — міхраб. Яна арыентавалася ў накірунку на Меку. Тварам да міхраба сядзеў мула.

Справа ад міхраба размяшчаўся накшталт амбона мумібір. Ён меў дзевяць прыступак з поручнямі і навес — балдахін. З мумібіра мула чытаў малітвы — хутбэ, звяртаўся з прамовамі ў асабліва важных выпадках. Пад час паўстання 1831 года мула даўбуцкай мячэці Давід Александровіч зачытваў з мумібіра пракламацыі графа Карла Пршэдэцкага. Мумібір з дзевяцю прыступкамі гаворыць аб значнасці мячэці, бо нават у краінах Усходу ў невялічкіх мячэцях ён меў тры, у буйных 7 або 9 прыступак. Мумібір у Лоўчыцах меў 3, у Немцы (пад Вільняй) 4 прыступкі. На мумібіры занатоўваліся ўрыўкі з вершаў карана і малітваў, імёны будаўнікоў мячэці, даты будаўніцтва.

У верхняй частцы сцяны, якая падзяляла мужчынскую і жаночую палавіны, знаходзілася галерэя з балюстрадай і паўкруглым балконам для муэдзіна. Падлога мужчынскай і жаночай палавін была засланая палатнянымі ходнікамі зялёнага колеру — кілімамі. Побач ляжалі чалуны — круглыя дыванкі, ахвяраваныя сваякамі памёршых, з вышытымі імёнамі і датай смерці. На сценах мухіры, карціны, лісты пергаменту ў рамах з каліграфічна напісанымі вершамі карана і малітваў, аздобленыя роспісамі, палотны ў рамах з краявідамі Мекі і Медзіны, друкаваныя «абразы» з выявамі святых месцаў, купленыя ў перакупшчыкаў — татараў з Волгі. У мячэці ў Даўбучках меліся такія «абразы казанскія», датаваныя 1889, 1908, 1912 гадамі. Убранства сцен дапаўнялі таксама лісты завяшчанняў на карысць мячэці (тэстамэнты), у некаторых мячэцях — пахавальныя вянкі.

У мячэці меліся два драўляныя ліхтары, своеасаблівыя точаныя драўляныя падсвечнікі, якія выкарыстоўваліся пры начных намазах у месяц посту — Рамадан.

Як помнік гісторыі і культуры мячэць у Даўбучках у 1928 годзе была ўзятая на ўлік для далейшай кансервацыі. Перыпетыі гісторыі і няўмольны час абышліся з ёю жорстка. Абваліўся купал, амаль нічога не засталося ад галерэі, пахіліўся мінарэт. Ды і Даўбучкі сёння — некалькі раскіданых сярод пагоркаў двароў. І ўсё ж мячэць будзе захавана там, дзе набываюць другое жыццё

помнікі, існаванне якіх ужо немагчыма ў родным асяроддзі,— у Беларускім нацыянальным музеі пад адкрытым небам.

Дзеючая мячэць у г. п. Іўе з'яўляецца прыкладам тыповай архітэктуры мячэцяў Беларусі і Літвы. У актавых матэрыялах і публікацыях XIX — пачатку XX стагоддзяў яна прыгадваецца як мячэць у Мураўшчыне (урочышча, якое потым злілося з мястэчкам). Мула іўеўскае мячэці Шабановіч Мустафа Аляксандравіч і муэдзін паведамляюць, што татары тут рассяліліся з часоў «высакароднага Вітальда», які выдзяліў ім зямлю ва ўрочышчы Мураўшчына, за паўтара кіламетры ад іўеўскага замка. Ён абяцаў ім свабоду і прывілеі і стрымаў слова. Тутэйшыя татары не ведалі прыгоннага права, іх справы разглядаў не лідскі павятовы суд, а віленскі трыбунал. Іўеўскія татары развілі наследаваную ад сваіх прыазоўскіх продкаў культуру агародніцтва, якое тут і сёння шырока квітнее, займаліся вырабам скур, былі добрымі грабарамі (будавалі дарогі). На сённяшні дзень тут жыве каля 800 татараў. 11 жніўня 1989 года ў Вільні адбыўся кангрэс татараў Беларусі і Літвы. З 600 яго дэлегатаў 70 былі з Іўя.

Іўе належала ў канцы XIX ст. Замойскім. Да пабудовы мячэці тутэйшыя татары маліліся ў стадолах (гумнах) ці ездзілі ў Даўбучкі. У 1881 годзе прадстаўнікі мураўшчынскага агола пішуць у Віленскую губеранскую ўправу пісьмо з просьбай дазволіць адчыніць мячэць. Да ліста прыкладаўся праект мячэці. (У XIX стагоддзі дзейнічаў Указ, паводле якога мячэць дазвалялася ўзводзіць у населеных месцах, якія маюць не менш чым 200 мусульманаў-мужчын, ля плошчаў, па ўзорных праектах — паводле прадпісання дэпартамента дзяржаўнай гаспадаркі і грамадскіх будынкаў Міністэрства ўнутраных спраў ад 31 мая 1829 года. Пацвярджаліся рашэнні больш ранніх указаў, 1756 і 1770 гадоў, якія забаранялі будаўніцтва мячэцяў без падліку душ насельніцтва і г. д.) Праект быў зацверджаны, дало згоду і таўрычаскае магаметанскае духоўнае кіраванне. Замойская за старанне мураўшчынскіх татараў-грабароў выдзеліла першагатунковы лес.

Збярогся праект мячэці. На ім намаляваны блізкі да квадрата план, падзелены на дзве часткі (мужчынскую і жаночую), фасад з галерэяй слупоў, шатровым дахам і мінарэтам з балкончыкам. Мячэць узвялі ў 1884 годзе. З графічных выяў канца XIX стагоддзя відаць, што галерэя з раскосамі на палову вышыні забудавана прырубам, па лініі ўваходу збудаваны прытвор, шалёўка адсутнічае. У 20-я гады былі праведзены аднаўленчыя работы на ахвяраванні эміграваўшых у Амерыку татараў (500 долараў): адрамантаваны мінарэт. Сённяшні воблік мячэці значна сапсаваны: гадоў дзесяць назад забілі дошкамі галерэю, абшалявалі сцены, пакрыццё з дранкі замянілі бляхай. Над дзвярыма, на сценах, на дыванах, якім накрыты лавы іўеўскай мячэці, выведзены па-арабску радкі карана: «Няма бога акрамя Алаха, прарок божы — Мухамед», «Алах — бог усемагутны, літасцівы, міласэрны». На сценах і падлозе — дыванкі з вершамі і малітвамі, выявамі мячэцяў, атрыманыя ў падарунак з Марока і Лівіі. Напісаныя акварэллю выявы мячэцяў Стамбула, мусульманскія сцягі належаць кісці мясцовага ўмельца Сулеймана Рафаловіча. Як паведаміў муэдзін І. Шабановіч, пад час начных намазаў дзве свечкі ставіліся па баках міхрабы і па адной ля кожнага, хто маліўся з каранам, усяго каля паўсотні падсвечнікаў-ліхтароў, самыя высокія — 70—80 см.

Культурная спадчына народаў, якія падзялілі з беларусамі гістарычны лёс, служыць прыкладам таго, як узнікалі і развіваліся брацкія адносіны людзей розных нацыянальнасцяў, што жывуць на адной зямлі.

**Аляксандр ЛАКОТКА**

# БЕЛАРУСКІЯ ТАТАРЫ: МІНУЎШЧЫНА І СУЧАСНАСЦЬ

З'яўленне татар на тэрыторыі сучаснай Беларусі вучоныя тлумачаць па-рознаму. Але, на нашу думку, найбольш пераканаўчым з'яўляецца меркаванне прафесара Пецярбургскага універсітэта, нашага земляка з Навагрудчыны Алі (Антона) Мухлінскага. У кнізе «Исследование о происхождении и состоянии литовских татар» ён піша: «Татарскае насельніцтва ўзнікла... з трох элементаў: 1) з аселых наёмных і саюзных воінаў татарскіх орд; 2) з улусаў, што былі прыгнаны Вітаўтам і трапілі ў палон разам з татарамі і, нарэшце, 3) з выхадцаў, што, стаміўшыся ад нязгоды ў сваёй Айчыне, самі добраахвотна перасяляліся ў Літву. Што ж датычыць часу перасялення татар на Беларусь, дык амаль усе вучоныя лічаць, што татары з'явіліся тут на пачатку XIV стагоддзя. Так, акадэмік Я. Ф. Карскі ў працы «Культурныя заваёвы рускай мовы ў даўнія часы на заходняй ускраіне яе вобласці» і ў «Працах на беларускай і іншых славянскіх мовах» пісаў, што «татары-магаметане жывуць цяпер асобнымі астраўкамі ў розных месцах Беларусі, напрыклад, у Вільні, Мінску і іншых гарадах і мястэчках. З'явіліся яны тут ужо з пачатку XIV стагоддзя, некаторыя добраахвотна для барацьбы з крыжаносцамі; часткова яны склаліся з розных палонных крымскіх і іншых татар».

Спрэчным дагэтуль застаецца пытанне пра колькасць татар, што насялялі край у XIV—XVI стст. Адны вучоныя (В. Д. Смірноў, В. С. Цітоў і інш.) лічаць, што татар было каля 100—200 тысяч чалавек; іншыя даследчыкі мяркуюць, што іх было не болей за 40 тысяч



Мячэць XVII ст. у в. Лоўчыцы Навагрудскага раёна. Здымак 1990 г.

чалавек. У 1897 годзе беларускіх татар, што жылі ў так званым Паўночна-Заходнім краі, было не болей за 14 тысяч чалавек. Паводле дадзеных перапісу 1989 года, на тэрыторыі Беларусі жыло 12436 татар. Частка татар жыве ў Літве і Польшчы. У залежнасці ад таго, дзе яны жывуць, гэтых татар называюць беларускімі, польскімі і літоўскімі, хоць усе яны гавораць па-беларуску і значная частка іх лічыць гэту мову роднай. Таму нам здаецца больш правільным карыстацца тэрмінам «беларускія татары». Менш устойлівай аказалася назва «літоўскія татары», якая цяпер амаль не сустракаецца.

Узаемаадносіны паміж беларускімі татарамі і беларусамі амаль заўсёды былі мірныя. Гісторыкі адзначаюць, што беларускія татары настолькі зжыліся з мясцовым насельніцтвам, што часта выступалі супраць сваіх адзінаверцаў. Так, прафесар А. Мухлінскі пісаў: «У актах Літоўскай метрыкі захаваўся ў перакладзе цікавы адказ літоўскіх татар таго часу, які яны далі сваім адзінаверцам, што займаліся рабункам на літоўскіх межах: «Ні бог, ні прарок,— казалі яны,— не дазваляюць вам рабаваць, а нам быць няўдзячнымі. Мы лічым вас за драпежнікаў і шаблямі нашымі забіваем рабаўнікоў, а не братоў нашых. Аставайцеся за Волгаю, пакуль іншыя вас не выжывуць, бо мы ля Вакі (непадалёк ад Вільні) будзем кроў праліваць за літоўцаў, якія лічаць нас братамі сваімі».

Сяброўства і ўзаемадапамога беларусаў і бларускіх татар мацнелі і ў супольнай барацьбе супроць знешніх ворагаў. Так, напрыклад, беларускія татары актыўна ўдзельнічалі ў барацьбе супроць Тэўтонскага ордэна. Пасля падпісання ваеннага дагавора ў Брэсце (1409 г.) паміж Вітаўтам і сынам Тахтамыша ханам Джэлал эль-Дзінам, якому падпарадкоўвалася размешчанае ў Вялікім княстве Літоўскім татарскае войска, татары прымалі актыўны ўдзел у вайне з Ордэнам у 1409—1411 гг. і ў Грунвальдскай бітве. На ўзгорках Грунвальда разам з беларусамі, палякамі і літоўцамі біліся з крыжакамі каля 40 тысяч татар. У ордэнскіх хроніках запісана, што вялікі магістр Ульрых фон Юнгінген загінуў у бітве ад рукі татарскага хана Багардзіна.

Татарскія пасяленцы на Беларусі доўгі час захоўвалі сваю сацыяльна-племянную арганізацыю, традыцыйныя звычаі, абрады, вераванні і адрозніваліся ад мясцовага насельніцтва асаблівасцямі культуры. Па сацыяльна-прававым становішчы большую частку беларускіх татар складалі ваеннаслужылыя, якія юрыдычна былі прыроўненыя да шляхты. Яны атрымлівалі за службу зямлю, якая аставалася ў спадчынным карыстанні. Перад першай сусветнай вайной на рускай службе знаходзілася 18 генералаў-татар: Халіль Базарэўскі, Канстанцін Біцютка, Тамерлан Беляк, Юзэф Якубоўскі, Гіпаліт Янушэўскі, Якуб Юзэфовіч, Канстанцін Крычынскі, Леон Крычынскі, Аляксандр Мількоўскі, Абу Талеб Мухля, Юзэф Палтаржыцкі, Аляксандр Рамановіч, Стэфан Сабалеўскі, Мацей Сулькевіч, Аляксандр Талькоўскі, Аляксандр Туган-Бараноўскі, Ян Туган-Бараноўскі, Стэфан Вільчынскі. Палкоўнікаў, маёраў і ніжэйшых афіцэраў былі сотні.

У выніку 1-й сусветнай вайны адзіны народ — беларускія татары — быў разарваны. Частка (каля 6 тысяч) аказалася ў межах Польшчы, каля 1 тысячы — у Літве, каля 7 тысяч — у БССР. У Польшчы каля 18 % татар займаліся разумовай працай. У сейме і сенаце былі замацаваны за татарамі 3 пасады, і самі татары выбіралі сваіх дэпутатаў. Дзейнічала 14 мячэцей, быў створаны культурна-асветніцкі саюз татараў Польшчы. Ён выдаваў «Татарскі штогоднік»,

«Татарскае жыццё» і «Ісламскі агляд», меў свой архіў і музей у Вільні. Было надрукавана амаль 500 артыкулаў пра татар. І цяпер, калі ў Польшчы жыве толькі 1,6 тысячы татар, дзейнічаюць 3 мячэці (плануецца будаўніцтва яшчэ трох), выдаецца татарскі квартальнік.

Змрочныя, цяжкія гады сталінскіх рэпрэсій не абыйшлі і наш народ. Многія татары Заходняй Беларусі, баючыся, што іх можа напаткаць лёс крымскіх татар, з'ехалі адсюль у Польшчу, некаторыя пасля эмігрыравалі ў Амерыку, Аўстралію, краіны Заходняй Еўропы. Сярод іх было шмат інтэлігенцыі, духоўных асоб. Нацыянальная культура беларускіх татар, якая захоўвалася на працягу многіх стагоддзяў, прыйшла ў заняпад. Закрываліся, руйнаваліся або бяздзейнічалі мячэці, забываліся традыцыі. Усё гэта яшчэ больш узмацніла заняпад нацыянальнай культуры, садзейнічала раз'яднанню народа.

Сёння мы не можам больш мірыцца са знішчэннем культуры нашага народа. У Мінску і Гродна на сходах прадстаўнікоў беларускіх татар, якія праходзілі ў 1989 годзе пад эгідай Беларускага аддзялення Савецкага фонду культуры, створана Мінскае і Гродзенскае абласныя татарскія грамадска-культурныя аб'яднанні, якія атрымалі назву «Аль-Кітаб» (свяшчэнная кніга). У аб'яднаннях створаны камісіі па гісторыі, культуры, па рабоце сярод моладзі, па пытаннях рэлігіі, міласэрнасці, умацавання сувязей з татарамі, якія жывуць у іншых месцах, у тым ліку і за мяжой. Нам важна ведаць, чым жыве наш народ, якія пытанні яго хвалююць, у якім стане знаходзяцца нашы мячэці, помнікі культуры і г. д. Вырашана ўстанавіць цеснае супрацоўніцтва з грамадскімі татарскімі арганізацыямі з іншых гарадоў Савецкага Саюза і за мяжой, пачаць падрыхтоўку да юбілею — 600-годдзю пасялення татар на Беларусі, у Літве і Польшчы.



Мячэць XIX ст. у Навагрудку. Здымак пачатку XX ст.

Таварыства «Аль-Кітаб» звярнулася з просьбай да Міністэрства культуры БССР, таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры, Беларускага рэспубліканскага аддзялення Савецкага фонду культуры забяспечыць ахову помнікаў матэрыяльнай і духоўнай культуры беларускіх татар, надаць статус помнікаў драўляным мячэцям, што захаваліся ў Даўбучках, Лоўчыцах і Навагрудку, забяспечыць іх аднаўленне і рэстаўрацыю. Абшчына татар-мусульман, створаная ў Мінску, паставіла перад гарадскімі ўладамі пытанне аб будаўніцтве ў горадзе новай мячэці замест разбуранай у канцы 50-х гадоў.

Зона асаблівай увагі аб'яднання — татарскія мізары (могілкі), дзе пахаваны нашы продкі. З дапамогай моладзі толькі ў мінулым годзе было праведзена два суботнікі па добраўпарадкаванню мізараў. Удзельнікі Дня памяці продкаў, прысвечанага пачатку мусульманскага посту (ураза) і свяшчэннага месяца Рамазана, сабраўшыся ў сакавіку мінулага года на мінскім мізары на мітынг, асудзілі гвалтоўнае знішчэнне помнікаў гісторыі і культуры беларускіх татар — мізару і мячэці.

Для правядзення ўсіх гэтых мерапрыемстваў, уключаючы адукацыю моладзі, будаўніцтва і рамонт мячэцяў, музеяў, спатрэбяцца немалыя матэрыяльныя сродкі, якія мы плануем сабраць у нашых суайчыннікаў, прыватных асоб, прадпрыемстваў і ўстаноў. Таму звяртаемся да ўсіх тых, каго цікавяць нашы сённяшнія справы і будучыя планы: калі ласка, па магчымасці дапамажыце нам. Просім грашовыя ахвяраванні перасылаць на рахунак № 702204 Белжылсацбанка г. Мінска з прыпіскай «Фонд Мінскага татарскага аб'яднання «Аль-Кітаб».

**Ібрагім КАНАПАЦКІ,**
**намеснік старшыні Мінскага абласнога татарскага грамадска-культурнага аб'яднання «Аль-Кітаб»**



Месца хаджу ўсіх татар Беларусі — магіла пастушка Костуса на татарскіх могілках у Лоўчыцах Навагрудскага раёна. Здымак 1990 г.

# «ЛЕТАПІС ВЯЛІКІХ КНЯЗЁЎ ЛІТОЎСКІХ»

Калі князь вялікі Альгерд быў гаспадаром у Літоўскай зямлі, пайшоў ён у Поле з літоўскім войскам і пабіў татараў на Сіняй Вадзе, трох братоў, ханаў Хачыбея, Кутлубугу і Дзімітрыя. Гэтыя тры браты, татарскія ханы, былі отчычамі і дзедзічамі Падольскай зямлі. Ад іх імя кіравалі атаманы, і баскакі, прыязджаючы ад гэтых атаманаў, збіралі з Падольскай зямлі даніну. Брат жа вялікага князя Альгерда князь Карыят трымаў [тады] Ноўгарадак Літоўскі. І былі ў яго чатыры сыны: князь Юрый, князь Аляксандр, князь Канстанцін і князь Фёдар. І тыя князі Карыятавічы, тры браты, князь Юрый, князь Аляксандар і князь Канстанцін з Альгердавага дазволу ды з дапамогаю Літоўскай зямлі пайшлі ў Падольскую зямлю. У той час у Падольскай зямлі не было ніводнага горада, ні з дрэва будаванага, ні з каменю мураванага. І тады тыя князі Карыятавічы, прыйшоўшы ў Падольскую зямлю, увайшлі ў прыязнь з атаманамі і пачалі бараніць Падольскую зямлю ад та-



Наваградак у канцы XVIII ст. Акварэль І. Пешкі



Крыжацкі наезд пад сценамі Навагрудка. Акварэль В. Сташчанюка

тараў і баскакам перасталі даваць даніну. Спачатку [Карыятавічы] знайшлі сабе высокае ўмацаванае месца на рацэ Смотрыч і пабудавалі [там] горад Смотрыч. У іншым жа месцы, у гары жылі манахі, і яны ў тым месцы пабудавалі горад Бакоту. Аднойчы ім давялося загнаць шмат аленяў на той востраў, дзе зараз знаходзіцца места Камянецкае, і павысекшы лес [яны там] горад Камянец пабудавалі. І з таго часу [Карыятавічы] усе падольскія гарады заснавалі і ўсёй Падольскаю зямлёю завалодалі.

Потым польскі кароль Казімер Латкавіч даведаўся, што тры браты Карыятавічы [аселі] на Падольскай зямлі і людзі яны моцныя, і прыслаў ён князю Канстанціну граматы пад пячаткамі, дзе настойліва прасіў яго, каб да яго (Казімера) прыехаў. Задумаў [Казімер], параіўшыся са сваімі панамі, вось што: у яго не было сына, толькі адна дачка, і вырашыў ён за яго (Канстанціна) дачку аддаць, а пасля сваёй смерці каралём пакінуць. І князь Канстанцін з гэтымі ахоўнымі граматамі да польскага караля ездзіў, і там, паглядзеўшы і падумаўшы, не захацеў тую веру прыняць, і зноў

па тых жа граматах вярнуўся ў Падольскую зямлю ў свае ўладанні і там на Падоллі памёр.

Князя ж Юрыя валахі ўзялі да сябе ваяводам і там яго атруцілі, а князя Аляксандра забілі татары, а тут [у Літве] брат чацвёрты, князь Фёдар Карыятавіч валодаў Наваградкам. І калі пачуў князь Фёдар Карыятавіч, што братоў яго ў Падольскай зямлі няма ўжо ў жывых, пайшоў ён на Падолле і там асеў.

У той час князь вялікі Вітаўт стаў гаспадаром у Літоўскай зямлі. Падольская ж зямля не хацела быць пад уладаю вялікага князя Вітаўта і Літвы, як гэта раней было. І князь вялікі [Вітаўт] пайшоў з усімі літоўскімі сіламі на Падолле. Пачуўшы тое, князь Фёдар Карыятавіч уцёк з Падольскай зямлі да венграў, а ў гарадах пасадзіў валахаў. Венгерскі кароль [князю) Фёдару даў прытулак. Князь жа вялікі Вітаўт спачатку пайшоў да Брацлава, заняўшы Брацлаў, пайшоў да Сакольца і яго заняў, ноччу прыйшоў да Камянца і здабыў яго, а затым заняў і Смотрыч, і Скалу, і Чырвоны гарадок — і ўсе гарады ўзяў. Ваяводу ж князя Фёдара Нестака, што ў тых гарадах быў, захапіў, а па ўсіх гарадах князь вялікі Вітаўт сваіх старастаў пасадзіў. А здабыў [ён усё гэта] літоўскімі сіламі, і ніхто ніадкуль яму не дапамагаў.

Тады [польскі] кароль [Ягайла] пачаў прасіць князя вялікага Вітаўта: «Мілы браце, даў табе бог — здабыў ты Падольскую зямлю, дык зрабі мне ласку — дай мне [палову] Падолля». Князь вялікі Вітаўт даў каралю палову Падольскай зямлі за дваццаць тысяч пенязяў, даў Камянец, Смотрыч, Скалу, Чырвоны гарадок і Бакоту, а ва ўсіх іншых падольскіх землях і гарадах князь вялікі Вітаўт пасадзіў сваіх старастаў: у Брацлаве, у Сакольцы і ў Беніцы (Вінніцы — В. Ч.). Кароль жа тыя гарады за дваццаць тысяч пану Спытку аддаў.

Калі князь вялікі [Вітаўт] біўся з татарамі [на Ворскле], пан Спытка прыходзіў на дапамогу вялікаму князю Вітаўту, і тады пана Спытку забілі татары. Пані ж Спыткавая аўдавела і засталася з малымі дзецьмі. І пачаў кароль слаць [лісты] вялікаму князю Вітаўту, так гаворачы: «Тую палову Падольскай зямлі, што ты даў нам за дваццаць тысяч пенязяў, мы аддалі былі за дваццаць тысяч пану Спытку. [Цяпер жа], калі пані Спыткавая аўдавела з малымі дзецьмі, а землі тыя няма каму бараніць ад татараў, вярні дваццаць тысяч пенязяў, а гарады зноў вазьмі сабе». І князь вялікі [Вітаўт] паслаў каралю сорак тысяч [пенязяў] з панам Нямірам і Дзімітрыем Васільевічам, баярынам луцкім, а гарады свае зноў узяў сабе, і старасту свайго пасадзіў, двараніна Граноўскага. Пасля Граноўскага [вялікі князь Вітаўт] даў [Падолле] пану Пятру Мантыгірдавічу, а пасля яго — пану Дзідзіголду. Потым, калі [вялікі князь Вітаўт] пану Дзідзіголду даў Смаленск, Падолле [ён] даў пану Доўгірду. Пан жа Доўгірд быў старастам ва ўсіх тых гарадах на Падоллі аж да смерці вялікага князя Вітаўта. А як толькі князя вялікага Вітаўта не стала ў жывых, прыехалі ляхі і пана Доўгірда з горада Камянца паклікалі да сябе на раду і, да рады не дапусціўшы, схапілі і абрабавалі. Потым яны захапілі Камянец [і іншыя гарады] і ўсім тым завалодалі, што [цяпер] у Падольскай зямлі трымаюць.

**Працяг будзе**

## КАМЕНТАРЫІ

Гісторыя княжання Вітаўта абрываецца ў «Летапісу вялікіх князёў літоўскіх» на падзеях сярэдзіны 90-х гадоў XIV ст. Далей змешчана кароткая, таксама недатаваная хроніка, прысвечаная гісторыі Падольскай зямлі. Яна ахоплівае падзеі ад бітвы вялікага князя Альгерда з татарамі ў 1363 г. на р. Сінія Воды (цяпер

р. Сінюха, прыток Паўднёвага Буга) да смерці вялікага князя Вітаўта ў 1430 г. Падолле — гістарычная вобласць Заходняй Украіны, якая ляжыць па сярэднім цячэнні Днястра. Яго сталіца — Камянец-Падольскі.

«Аповесць пра Падолле» мае выразна публіцыстычную накіраванасць. Яна напісана з мэтаю гістарычна абгрунтаваць правы Літоўска-Беларускай дзяржавы на Падольскую зямлю, якую пасля смерці Вітаўта гвалтоўна захапілі польскія феадалы, ідэалагічна абараніць дзяржаўныя інтарэсы княства. Гэты твор, хутчэй за ўсё, узнік у асяроддзі патрыятычна настроенай літоўска-беларускай шляхты ў перыяд найбольш напружаных адносін з Польшчаю з-за Падолля прыкладна ў першай палове 30-х гадоў XV ст. Месца яго складання дакладна не вядомае, магчыма, Вільня. Як зазначаюць даследчыкі, змест «Аповесці пра Падолле», падзеі і факты, выкладзеныя ў ёй, увогуле адпавядаюць гістарычнай сапраўднасці. Таму гэты літаратурны помнік — не толькі каштоўны палітычны, але і гістарыяграфічны дакумент свайго часу.

Перадапошні сын вялікага князя Гедыміна Карыят, у хрышчэнні Міхаіл, князь навагradскі, нарадзіўся ў пачатку XIV ст., памёр каля 1366 г. Як мяркуюць некаторыя вучоныя, ён меў не чатырох, а значна больш сыноў. У прыватнасці, Карыятавічам быў і Дзмітрый Баброк Валынскі, які выступаў на баку маскоўскага князя у славутай Кулікоўскай бітве.

Літоўска-беларускія князі Карыятавічы з'явіліся на Падоллі ў сярэдзіне XIV ст. Большасць з іх, напэўна, родам з Навагрудка.

Яны былі хрышчаны паводле праваслаўнага абраду, аднак пазней перайшлі ў каталіцтва і трымаліся польскай арыентацыі. Князь падольскі Аляксандр Карыятавіч залежаў ад польскага караля Казімера, бо атрымаў ад апошняга Уладзімерскую зямлю на Валыні. Ён загінуў каля 1380 г. у бітве з татарамі. Яго брат Юрый называў сябе «ваяводам і гаспадаром зямлі Малдаўскай».

Даследчыкі лічаць вельмі праўдападобным паведамленне ў «Аповесці пра Падолле» аб неажыццёўленым намеры караля Казімера аддаць за Канстанціна сваю дачку.

З усіх Карыятавічаў адзін Фёдар, які стаў падольскім князем пасля смерці свайго брата Канстанціна ў 1389 г., трымаўся не польскай, а венгерскай арыентацыі. Яго за непадначаленне ў 1393 г. выгнаў з Падолля вялікі князь Вітаўт. Гэтага Карыятавіча прытуліў венгерскі кароль і даў яму замак Мункач. У 1402 г. князь Фёдар паспрабаваў вярнуць сабе Падолле, але быў разбіты і зняволены, адкуль яго вызвалілі праз год пасля прымірэння з каралём Ягайлам. Памёр ён у Венгрыі прыкладна ў 1416 г.

Спытка з Мельштына валодаў з 1396 г. да 1399 г. заходняй часткаю Падольскай зямлі, у 80-я гады XIVст. займаў пасаду ваяводы, а з 1390 г. старасты кракаўскага. Ён адзін з арганізатараў шлюбу польскай каралеўны Ядзвігі з Ягайлам, прыхільнік дзяржаўнага суверэнітэту Вялікага княства Літоўска-Беларускага.

Вялікі князь Вітаўт прадаў Ягайлу заходняе Падолле ў 1396 г., а ў пачатку XV ст. вярнуў яго сабе. Граматамі ад 1432 г. і 1434 г. князь Жыгімонт Кейстутавіч аддаў яго Польшчы, а ў 1435 г. юрыдычна замацаваў за ёю ўсю Падольскую зямлю, што выклікала незадаволенасць патрыётаў Вялікага княства.

Як сведчыць гісторыя, літоўска-беларускія князі вызвалілі Падолле ад татарскага палону, шмат сіл аддалі асваенню і ўмацаванню гэтай украінскай зямлі і таму мелі законныя правы ёю валодаць. Барацьба Літоўска-Беларускай дзяржавы з Польшчаю з-за Падолля практычна вялася да самай Люблінскай уніі.

**Пераклад са старабеларускай і каментарыі Вячаслава ЧАМЯРЫЦКАГА.**

# НОВЫ ЗАПАВЕТ ГОСПАДА НАШАГА ІСУСА ХРЫСТА ПАВОДЛЕ ЛУКІ СВЯТОЕ ДАБРАВЕСЦЕ

Раздзел 7

## ІСУС ВЫЛЕЧВАЕ СОТНІКАВАГА РАБА

**1 Калі Ён скончыў усе Свае словы
да народа, што слухаў Яго, увай-
шоў у Капернаум.**

Мацв. 8, 5.

**2 У аднаго сотніка быў хворы, пры
смерці, раб, якім ён даражыў.
3 Пачуўшы ж пра Ісуса, ён паслаў
да Яго іудзейскіх старэйшын, про-
сячы Яго, каб прыйшоў і выратаваў
яго раба.
4 І яны, прыйшоўшы да Ісуса, го-
рача прасілі, кажучы: «Ён годны, каб
Ты яму зрабіў гэта;
5 Бо ён любіць наш народ, і сам
зрабіў нам сінагогу».
6 І Ісус пайшоў з імі. І калі Ён быў
ужо недалёка ад дома, сотнік па-
слаў сяброў, каб сказаць Яму: «Гос-
падзе, не турбуйся, бо я не годны,
каб Ты увайшоў пад мой дах;
7 Таму я сябе самога не палічыў
годным прыйсці да Цябе; але скажы
слова і выздаравее мой слуга.
8 Бо і я — хоць чалавек залежны
ад улады, але маю пад сабою воінаў
і кажу аднаму: «пайдзі» і ідзе; а дру-
гому: «прыйдзі» і прыходзіць, а май-
му рабу: «зрабі гэта», і ён робіць».
9 Пачуўшы ж гэта, Ісус здзівіўся
яму і сказаў, павярнуўшыся да на-
тоўпу, што ішоў за Ім: «Кажу вам,
што ў Ізраіле не знайшоў Я такой
вялікай веры».
10 І, вярнуўшыся дадому, пасла-
ныя знайшлі раба здаровым.**

## ІСУС УВАСКРАШАЕ СЫНА НАІНСКАЙ УДАВЫ

**11 І было: неўзабаве выправіў-
ся Ён у горад, называны Наін, і іш-
лі з Ім Яго вучні і вялікі натоўп.
12 Калі ж Ён наблізіўся да гарад-
ской брамы, дык вось, выносілі
памерлага, адзінага сына ў маці
яго, а была яна ўдава, і ладны на-
тоўп з горада быў з ёю.
13 І, убачыўшы яе, Госпад зліта-
ваўся над ёю і сказаў ёй: «Не плач».
14 І, падышоўшы, дакрануўся
да мараў, насільшчыкі ж спыніліся,
і сказаў Ён: «Хлопча, табе кажу:
устань!»
15 І сеў мёртвы і пачаў гаварыць,
і Ён аддаў яго маці яго.
16 І ўсіх ахапіў страх, і яны славі-
лі Бога, кажучы: «Вялікі прарок паў-
стаў сярод нас, і наведаў Бог Свой
народ».**

Лук. 1, 68. Іаан. 6, 14.

**17 І гэтае слова пра Яго разыш-
лося па ўсёй Іудзеі і па ўсім нава-
коллі.**

---

Працяг. Пачатак гл.: «Спадчына» 1989, № 2; 1990, №№ 1, 2, 3, 4; 1991, №№ 1, 2.

## ІСУСАЎ АДКАЗ ІААНУ ХРЫСЦІЦЕЛЮ

**18 І абвясцілі Іаану яго вучні пра**
**ўсё гэта. І, паклікаўшы двух са сва-**
**іх вучняў, Іаан**

Мацв. 11, 2.

**19 паслаў іх да Госпада сказаць:**
**«Ці Ты Той, што мае прыйсці, ці**
**чакаць нам іншага?»**

Быц. 49, 10. Іс. 35, 4. Дан. 9, 24. Іаан. 6, 14.

**20 І, прыйшоўшы да Яго, мужчы-**
**ны сказалі: «Іаан Хрысціцель паслаў нас да Цябе сказаць: «Ці Ты Той, што мае прыйсці, ці чакаць нам іншага?»**
**21 У той час Ён вылечыў многіх**
**ад хвароб і немачаў і ліхіх духаў і многіх сляпых абдараваў зрокам.**
**22 І ў адказ Ён сказаў ім: «Пай-**
**дзіце, абвясціце Іаану тое, што бачылі і чулі: сляпыя бачаць, кульгавыя ходзяць, пракажоныя ачышчаюцца, глухія чуюць, мёртвыя ўваскрасаюць, убогім абвяшчаецца Дабравесце,**

Пс. 145, 8. Іс. 29, 18; 35, 5; 42, 7; 61, 1. Мацв. 11, 5. Лук. 4, 18.

**23 І шчаслівы той, хто не ўсум-**
**ніцца ува Мне.**

Іс. 8, 14. Мацв. 11, 6. 1 Пятр. 2, 8.

## ІСУСАВА СВЕДЧАННЕ ПРА ІААНА ХРЫСЦІЦЕЛЯ

**24 А калі адышлі Іаанавы паслан-**
**цы, Ён пачаў гаварыць натоўпу пра Іаана: «Што выйшлі вы глядзець у пустэльню? Ці трыснёг, што гайдаецца ад ветру?**
**25 Але што ж выйшлі вы гля-**
**дзець? Чалавека, увабранага ў мяккія шаты? Дык жа тыя, што ў паглядных ўборах і ў раскошы жывуць,— у царскіх палацах.**
**26 Дык што выйшлі вы глядзець?**
**Прарока? Так, кажу вам, і больш, чым прарока.**
**27 Гэта той, пра каго напісана:**
**«Вось Я пасылаю перад Тваё аблічча Свайго пасланца, які падрыхтуе Тваю дарогу перад Табою».**

Мал. 3, 1. Мацв. 11, 10. Мар. 1, 2.

**28 Кажу вам: «Між народжанымі**
**жонкамі няма ніводнага большага, чым Іаан; але найменшы ў Божым Царстве большы за яго».**

Мацв. 11, 11.

**29 І ўвесь народ, што слухаў,**
**і мытнікі прызналі слушнасць Бога, ахрысціўшыся Іаанавым хрышчэннем.**

Мацв. 21, 31.

**30 Фарысеі ж і законнікі адкінулі**
**Божую волю аб сабе, не хрысціўшыся ад яго.**

Дзеян. 20, 27.

**31 «Дык з кім параўнаю людзей**
**гэтага роду і да каго яны падобныя?**

Мацв. 11, 16.

**32 Яны падобныя да дзяцей, што**
**сядзяць на рынку і звяртаюцца адно да аднаго, кажучы: «Мы ігралі вам, а вы не танцавалі, мы спявалі вам жаласна, а вы не плакалі».**
**33 Бо прыйшоў Іаан Хрысціцель,**
**што хлеба не есць і віна не п'е, а вы кажаце: «У ім дэман».**
**34 Прыйшоў Чалавечы Сын, што**
**есць і п'е, а вы кажаце: «Вось чалавек ласун і віналюб, сябар мытнікаў і грэшнікаў».**
**35 Ды апраўдалася мудрасць праз**
**усе плады свае».**

## ЖАНЧЫНА ЎЗЛІВАЕ МІРА НА ІСУСАВЫ НОГІ

**36 А адзін з фарысеяў прасіў Яго,**
**каб падсілкаваўся з ім, і, ўвайшоўшы ў фарысееў дом, Ён узлёг.**
**37 І вось жанчына, якая была вя-**
**домая ў горадзе як грэшніца, дaveдаўшыся, што Ён узлягае ў фарысеевым доме, прынесла алебастравую пляшачку міра.**

Мацв. 26, 7; Мар. 14, 3. Іаан. 11,2; 12, 3.

**38 і, стаўшы ззаду каля Яго ног,**
**пачала, плачучы, абліваць слязьмі Яму ногі і валасамі галавы свае выцірала і цалавала Яму ногі і мазала мірам.**
**39 А ўбачыўшы гэта, фарысей,**
**што запрасіў Яго, разважаў сам сабе, кажучы: «Калі б Гэты быў прарок, Ён ведаў бы, хто і якая жанчына**

**дакранаецца да Яго, што яна грэшніца».**

Лук. 15, 2.

**40 І ў адказ Ісус сказаў яму: «Сімане, Я маю нешта сказаць табе». А ён: «Настаўніку,— кажа,— гавары».**

**41 «У аднаго ліхвяра было два даўжнікі: адзін быў вінаваты пяцьсот дынарыяў, а другі — пяцьдзесят.**

**42 Яны не мелі чым заплаціць, і ён дараваў абодвум. Хто з іх больш палюбіць яго!»**

**43 У адказ Сіман сказаў: «Думаю, той, каму больш дараваў». І Ён сказаў яму: «Ты правільна разважыў».**

**44 І, абярнуўшыся да жанчыны, сказаў Сіману: «Ці бачыш гэтую жанчыну! Я ўвайшоў да цябе ў дом: ты вады Мне на ногі не даў; яна ж слязамі абліла Мне ногі і сваімі валасамі выцерла.**

**45 Пацалунку ты Мне не даў; яна ж з таго часу, як Я ўвайшоў, не пераставала цалаваць Мне ногі.**

**46 Алеем ты Маёй галавы не памазаў; яна ж мірам памазала Мне ногі.**

**47 А таму кажу табе: «Дараваны ёй шматлікія грахі, бо шмат яна палюбіла. А каму мала даруецца, той мала любіць».**

**48 А ёй сказаў: «Дараваны табе грахі».**

**49 І пачалі тыя, што ўзлягалі з Ім, казаць самім сабе: «Хто гэта, што і грахі даруе!»**

**50 Ён жа сказаў жанчыне: «Вера твая ўратавала цябе; ідзі ў спакоі».**

## Раздзел 8

### ІСУС ДАБРАВЕСЦІЦЬ ПА ГАРАДАХ І СЁЛАХ

**1 І было: хадзіў Ён пасля па гарадах і сёлах, навучаючы і дабравесцячы Божае Царства, і Дванаццаць з Ім**

**2 і некаторыя з жанчын, што былі вылечаны ад ліхіх духаў і немачаў: Марыя, званая Магдаленаю, з якой выйшла сем дэманаў,**

Мар. 15, 40; 16, 9.

**3 і Іаанна, жонка Худзы, Ірадавага аканома, і Сусана, і многія іншыя, што служылі Ім сваёю маёмасцю.**

### «ВЫЙШАЎ СЕЙБІТ СЕЯЦЬ...»

**4 Калі ж сабраўся вялікі натоўп і папрыходзілі да Яго з горада, Ён сказаў праз упадабненне:**

Мацв. 13, 2—3. Мар. 4, 1—2.

**«Выйшаў сейбіт сеяць сваё насенне. І калі сеяў, адно ўпала край дарогі і было вытаптана, і нябесныя птушкі падзяўблі яго.**

**6 А другое ўпала на скалу і, узышоўшы, засохла, бо не мела вільгаці.**

**7 А іншае ўпала між церняў, ды, узышоўшы з ім, церні заглушылі яго.**

**8 А іншае ўпала ў добрую зямлю і ўзышло, і дало стакротны плён». Кажучы гэта, заклікаў: «Хто мае вушы слухаць, няхай слухае!»**

**9 І пыталіся ў Яго вучні Яго: «Што магло б значыць гэтае ўпадабненне!»**

**10 Ён жа сказаў: «Вам дадзена пазнаць таямніцы Божага Царства, а рэшце ва ўпадабненнях, каб яны бачачы не бачылі і слухаючы не разумелі».**

Іс. 6, 9—10; Мацв. 13, 14. Мар. 4, 12. Іаан. 12, 40.

**11 Вось што азначае гэтае ўпадабненне: насенне — ёсць Божае слова.**

**12 І край дарогі,— гэта тыя, што слухаюць, ды пасля прыходзіць д'ябал і забірае слова з іх сэрца, каб не ўверавалі яны і не былі збавёныя.**

Мацв. 13, 19. Мар. 4, 15.

**13 А на скале,— гэта тыя, што пачуўшы, з радасцю прымаюць слова, ды не маюць кораня, яны вераць да часу і ў часе выпрабавання адпадаюць.**

Іез. 33, 31.

**14 А ўпалае між церняў — гэта тыя, што слухаюць, але ходзячы душацца турботамі і багаццем, і**

жыццёвымі раскошамі і плоду не даюць.
Мацв. 13, 22; Мар. 4, 18; 10, 23. Лук. 18, 23. І Цім. 6, 9.
15 А на добрай зямлі, гэта тыя, што, пачуўшы слова, берагуць у добрым і шчырым сэрцы і даюць плод праз цярплівасць.
16 Ніхто, запаліўшы каганец, не пакрывае яго пасудзінаю і не ставіць пад ложак, а ставіць яго на падстаўку, каб бачылі святло тыя, што ўваходзяць.
Мацв. 5, 15; Мар. 4, 21. Лук. 11, 33.
17 Бо няма закрытага, што не адкрылася б, ні таемнага, што не стала б вядомым і не выйшла наверх.
Іоў. 12, 22; Мацв. 10, 26. Лук. 12,2.
18. Дык глядзіце, як вы слухаеце. Бо хто мае, таму дасца; а хто не мае, у таго забярэцца і тое, што яму здаецца, нібы мае».
Мацв. 13, 12; 25, 29; Мар. 4, 25.
19 І прыйшлі да Яго Маці і браты Яго і не маглі падступіцца да Яго з-за натоўпу.
Мацв. 12, 46; Мар. 3, 31.
20 І паведамілі Яму: «Твая Маці і браты Твае стаяць знадворку і хочуць убачыць Цябе».
21 Ён жа ў адказ сказаў ім: «Мая Маці і Мае браты — гэта тыя, што слухаюць Божае слова і выконваюць яго».

## ІСУС СУЦІШАЕ БУРУ

22 І было: у адзін з тых дзён ступіў Ён у човен і Яго вучні, і Ён сказаў ім: «Пераплывем на другі бок возера». І яны ад'ехалі.
Мацв. 8, 23; Мар. 4, 35.
23 А калі плылі, Ён заснуў. І налящела бура на возера, і іх пачало залiваць, і яны былі ў небяспецы.
24 Падышоўшы ж, яны разбудзілі Яго кажучы: «Майстру, майстру, гінем!» Ён жа, прачнуўшыся, загадаў ветру і ўзбуранай вадзе; і яны супакоіліся і настала ціша.
25 А да іх Ён сказаў: «Дзе ваша вера?» Яны ж, перапалоханыя, дзівіліся, кажучы адзін аднаму: «Хто ж Гэты, што і вятрам загадвае і вадзе, і яны слухаюцца Яго?»
Іоў. 26, 12; Пс. 88, 10.

## ІСУС ВЫЛЕЧВАЕ АПАНТАНАГА

26 І прыплылі яны ў краіну герасінян, што насупроць Галілеі.
Мацв. 8, 28. Мар. 5, 1.
27 Калі ж Ён выйшаў на зямлю, перастрэў Яго адзін чалавек з горада, апантаны дэманамі; і даволі даўно ён не насіў вопраткі і не жыў дома, а ў магільных пячорах.
28 Убачыўшы ж Ісуса, ён закрычаў, упаў перад Ім і моцным голасам сказаў: «Што Табе да мяне, Ісусе, Сыне Бога Найвышэйшага? Малю Цябе, не муч мяне».
29 Бо загадваў Ён нячыстаму духу выйсці з чалавека. Бо доўгі час ён хапаў яго і звязвалі таго ланцугамі і кайданамі і сцераглі, ды ён разрываў ланцугі, і дэман гнаў яго ў пустэльні.
30 Спытаўся ж у яго Ісус: «Як табе імя?» Ён жа сказаў: «Легіён», таму што шмат дэманаў увайшло ў яго.
31 І яны прасілі Яго, каб не загадаў ім ісці ў бяздонне.
32 Пасвіўся ж там немалы гурт свіней на гары. І папрасілі Яго, каб дазволіў ім увайсці ў тых. І дазволіў Ён ім.
33 І дэманы, выйшаўшы з чалавека, увайшлі ў свіней, і рынуўся гурт са стромы ў возера і ўтапіўся.
34 Пастухі ж, убачыўшы, што зрабілася, паўцякалі і расказалі ў горадзе і ў вёсках.
35 І тыя выйшлі паглядзець, што здарылася, і прыйшлі да Ісуса і знайшлі, што чалавек, з якога выйшлі дэманы, сядзіць у нагах Ісуса апрануты і ў здаровым розуме, і спалохаліся.
36 Відавочцы ж расказалі ім, як быў ураваны апантаны дэманамі.
37 І папрасіў Яго ўвесь народ Герасінянскай краіны адысці ад іх, бо вялікі страх ахапіў іх. Ён жа, ступіўшы ў човен, вярнуўся.

38 А чалавек, з якога выйшлі дэманы, прасіў Яго, каб быць Ім; Ён жа адпусціў яго, кажучы:
39 «Вяртайся дадому і кажы, як шмат зрабіў табе Бог». І той адышоў, абвяшчаючы ўсяму гораду, як шмат зрабіў яму Ісус.

## ХРЫСТОС ВЫЛЕЧВАЕ КРЫВАЦЁЧНУЮ ЖАНЧЫНУ І ЎВАСКРАШАЕ ІАІРАВУ ДАЧКУ

40 Калі Ісус вярнуўся, натоўп прымаў Яго; бо ўсе чакалі Яго.
41 І вось прыйшоў чалавек на імя Іаір і быў ён старшыня сінагогі. І, упаўшы да ног Ісуса, прасіў Яго увайсці ў яго дом,

Мацв. 9, 18. Мар. 5, 22.

42 таму што была ў яго адзіная дачка гадоў з дванаццаць, і яна ўміpала. І калі Ён ішоў, натоўпы напіралі на Яго.
43 І жанчына, што цярпела на крывацёк дванаццаць гадоў і выдала на дактароў усю маёмасць, і ніхто нмог яе вылечыць,—
44 падышоўшы ззаду, дакранулася да краю Яго вопраткі, і зараз жа спыніўся ў яе крывацёк.
45 І сказаў Ісус: «Хто дакрануўся да Мяне?» Калі ж усе адмаўляліся, сказаў Пятро: «Майстру, натоўпы абступілі Цябе і сціскаюць».

Мар. 5, 30.

46 Ісус жа сказаў: «Дакрануўся да Мяне хтосьці, бо Я адчуў сілу, што выйшла з Мяне».
47 Жанчына ж, убачыўшы, што не ўтаілася, падышла дрыжучы і, ўпаўшы перад Ім, прызналася перад усім народам, з якое прычыны дакранулася да Яго, і як зараз жа была вылечана.
48 Ён жа сказаў ёй: «Дачка, вера твая ўратавала цябе; ідзі ў спакоі».
49 Калі яшчэ Ён гаварыў, прыходзіць адзін ад старшыні сінагогі, кажучы: «Памерла твая дачка; не турбуй больш Настаўніка».

Мар. 5, 35.

50 Ісус жа, пачуўшы, адказаў яму: «Не бойся, толькі веруй, і яна будзе ўратавана».
51 І, прыйшоўшы ў дом, не дазволіў увайсці з Ім нікому, толькі Пятру, і Іаану, і Якаву, і бацьку дзяўчаці, і маці.
52 А ўсе плакалі і галасілі па ёй. Ён жа сказаў: «Не плачце, бо яна не памерла, але спіць».
53 І насміхаліся з Яго, ведаючы, што яна памерла.
54 Ён жа, узяўшы яе за руку, усклікнуў, кажучы: «Дзіця, устань!»
55 І вярнуўся дух яе, і яна зараз жа паднялася, і Ён загадаў даць ёй есці.
56 І ўразіліся яе бацькі. Ён жа наказаў ім нікому не расказваць пра тое, што адбылося.

## Раздзел 9

## ІСУС ПАСЫЛАЕ СВАІХ АПОСТАЛАЎ НА КАЗАНЬ

1 Склікаўшы ж Дванаццаць, Ён даў ім сілу і ўладу над усімі дэманамі і лячыць хваробы

Мацв. 10, 1. Мар. 3, 13; 6, 7.

2 і паслаў іх абвяшчаць Божае Царства і вылечваць [нямоглых],
3 і сказаў ім: «Нічога не бярыце ў дарогу: ні кія, ні торбы, ні хлеба, ні срэбра і не майце па два ўбранні.
4 І ў які б вы дом не ўвайшлі, там аставайцеся і адтуль выходзьце далей.
5 А калі хто не прыйме вас,— выходзячы з таго горада, абтрасіце пыл з вашых ног у сведчанне на іх».

Мацв. 10, 14. Мар. 6, 11. Дзеян. 13, 51.

6 І, выйшаўшы, яны хадзілі па сёлах, абвяшчаючы Дабравесце і вылечваючы ўсюды.

## ІРАДАВА ЗАНЕПАКОЕННЕ ІСУСАМ

7 Пачуў жа пра ўсе выдарэнні Ірад чацвёртаўладнік і занепакоіўся, бо некаторыя казалі, што Іаан устаў з мёртвых,

Мацв. 14, 1; Мар. 6, 14.

8 А некаторыя, што Ілля з'явіўся, а іншыя, што ажыў адзін са старажытных прарокаў.
9 І сказаў Ірад: «Іаана я абез-

галовіў. Хто ж Гэты, пра Каго я чую такое?» І дамагаўся ўбачыць Яго.
Лук. 23, 8.

## ПЕРШАЕ ПАМНАЖЭННЕ ХЛЕБА

10 І апосталы, вярнуўшыся, расказалі Яму, што зрабілі. І, узяўшы іх з Сабою, Ён падаўся асобна ў горад, званы Віфсаіда.
Мацв. 14, 13. Мар. 6, 32.
11 Але натоўпы, даведаўшыся, пайшлі ўслед за Ім; Ён, прыняўшы іх, казаў ім пра Божае Царства і тых, што мелі патрэбу ў лячэнні, вылечваў.
12 Дзень жа пачаў нікнуць; падышоўшы ж, Дванаццаць сказалі Яму: «Адпусці натоўп, каб, пайшоўшы ў навакольныя сёлы і вёскі, знайшлі прыстанішча і яду, бо мы тут у пустэчы».
13 А Ён сказаў ім: «Вы дайце ім есці». Яны ж сказалі: «Няма ў нас больш як пяць хлябоў ды дзве рыбы, хіба пайсці нам купіць яды для ўсяго гэтага народу».
Мацв. 14, 17; Мар. 6, 38; Іаан. 6, 9.
14 Бо было тысяч з пяць мужчын. Але Ён сказаў Сваім вучням: «Скажыце ўзлегчы ім групамі па пяцьдзесят».
15 І зрабілі так і казалі ўсім узлегчы.
16 Ён жа, узяўшы пяць хлябоў і дзве рыбы, глянуўшы на неба, блаславіў іх і паламаў і даваў вучням, каб разносілі натоўпу.
17 І елі і наеліся ўсе, і назбіралі пазасталых кавалкаў дванаццаць кошыкаў.

## ІСУС ГАВОРЫЦЬ ПРА СВАЮ СМЕРЦЬ

18 І сталася: калі Ён маліўся на адзіноце, з Ім былі вучні, і Ён спытаўся ў іх, кажучы: «За каго мяне ўважаюць натоўпы?»
Мацв. 16, 13; Мар. 8, 27.
19 Яны ж у адказ сказалі: «За Іаана Хрысціцеля, іншыя ж за Іллю, яшчэ іншыя, што ўваскрос адзін са старажытных прарокаў».
20 І сказаў ім: «А вы за каго мяне ўважаеце?» Пятро ж у адказ сказаў: «За Месію Божага».
Іаан. 6, 69.
21 Ён жа, забараніўшы ім, загадаў нікому не казаць пра гэта,
22 сказаўшы, што трэба Чалавечаму Сыну шмат выцерпець, і Яго адкінуць старэйшыны, і першасвятары, і кніжнікі, і будзе Ён забіты, а ў трэці дзень паўстане.
Мацв. 17, 22.

## ЯК УРАТАВАЦЬ СВАЮ ДУШУ

23 А да ўсіх казаў: «Калі хто хоча ісці за Мною, хай адрачэцца ад самога сябе і бярэ свой крыж штодня і ідзе ўслед за Мною.
Мацв. 10, 38; 16, 24; Мар. 8, 34; Лук. 14, 27.
24 Бо хто хоча сваё жыццё ўратаваць, той загубіць яго; а хто загубіць сваё жыццё дзеля Мяне, той уратуе яго.
25 Бо што выгадае чалавек, здабыўшы ўвесь свет, а сябе самога загубіўшы ці пашкодзіўшы сабе!
Мацв. 16, 26; ар. 8, 36.
26 Бо хто пасаромеецца Мяне і Маіх слоў, таго Чалавечы Сын пасаромеецца, калі прыйдзе ў славе Сваёй і Бацькавай святых анёлаў.
Мацв. 10, 32; Мар. 8, 38. Лук. 12, 9. 2 Цім. 2, 12.

## ІСУСАВА ПЕРАЎТВАРЭННЕ

27 Кажу ж вам праўдзіва: «Некаторыя з тых, што стаяць тут, не зазнаюць смерці, аж пакуль не ўбачаць Божага Царства».
28 І было пасля гэтых слоў дзён праз восем: Ён, узяўшы Пятра, і Іаана, і Якава, узышоў на гору памаліцца.
Мацв. 17, 1. Мар. 9, 2.
29 І калі Ён маліўся, зрабіўся выгляд Яго твару іншым, Яго ўбранне белым, бліскучым.
30 І вось два мужы размаўлялі з Ім, гэта былі Майсей і Ілля,
31 што паказаўшыся ў славе, казалі пра Яго адыход, які трэба Яму

было здзейсніць у Ерусаліме.
Лук. 22, 37.
32 Пятра ж і тых, хто быў з ім,
змарыў сон; але, прабудзіўшыся,
убачылі Яго славу і двух мужоў,
што стаялі з Ім.
2 Пят. 1, 16.

33 І было: калі тыя адыходзілі
ад Яго, сказаў Пятро Ісусу: «Май-
стру, добра нам тут быць, і зробім
тры буданы, адзін табе, і адзін Май-
сею, а адзін Іллі»,— не ведаючы,
што кажа.
34 І калі ён казаў гэта, паўстала
воблака і ахінула іх; яны ж спало-
халіся, калі тыя ўвайшлі ў воблака.
35 І голас пачуўся з воблака, ка-
жучы: «Гэта Мой Сын, Абраны;
Яго слухайце!»
Друг. 18, 15. Мацв. 3, 17; 17, 5.

36 І калі голас прагучаў, апынуўся
Ісус адзін. І яны прамаўчалі і ніко-
му нічога ў тыя дні не расказвалі,
што бачылі.
37 І было: на другі дзень, калі
яны спусціліся з гары, сустрэў Яго
вялікі натоўп.
38 І вось, чалавек з натоўпу за-
крычаў, кажучы: «Настаўніку, пра-
шу Цябе, паглядзі на майго сына,
бо ён адзіны ў мяне,
Мацв. 17, 14; Мар. 9, 17.

39 ды вось, дух хапае яго і ён
раптам крычыць, і курчыць яго, аж
той пену пускае, і ледзь адступае
ад яго, змучыўшы яго.
40 І прасіў я Тваіх вучняў, каб
выгналі яго, ды яны не змаглі».
41 У адказ жа Ісус сказаў: «О пле-
мя бязвернае і разбэшчанае, дакуль
буду з вамі і буду цярпець вас? Пры-
вядзі сюды свайго сына!»
42 І калі яшчэ той падыходзіў,
дэман кінуў яго вобземлю і скурчыў;
але Ісус забараніў нячыстаму духу
і вылечыў хлопца і аддаў яго баць-
ку.
43 І ўсе ўразіліся Божай веліччы.
Калі ж усе дзівіліся ўсяму таму,
што рабіў Ісус, Ён сказаў Сваім вуч-
ням:
44 «Укладзіце сабе ў вушы гэтыя
словы: «Чалавечы Сын будзе выданы
ў людскія рукі».
Мацв. 17, 22; Мар. 9, 31.
45 Яны ж не разумелі гэтага сло-
ва. Было яно закрыта ад іх, каб яны
не спазналі яго, а яны баяліся спы-
тацца ў Яго аб гэтым слове.
Лук. 2, 50.

## ХТО НАЙБОЛЬШЫ Ў НЯБЕСНЫМ ЦАРСТВЕ

46 І прыйшло ім на думку, хто
з іх большы.
Мацв. 18, 1. Мар. 9, 33.
47 Ісус жа, ведаючы думку іх
сэрца, узяў дзіцятка і паставіў яго
каля Сябе
48 і сказаў ім: «Хто прыйме гэтае
дзіцятка ў Маё імя, Мяне прыймае;
і хто Мяне прыйме, прыймае Таго, Хто
паслаў Мяне. Бо хто меншы між усіх
вас, той вялікі».
Мацв. 10, 40; 18, 5. Мар. 9, 37; І Фес.
4, 8.
49 У адказ жа Іаан сказаў: «Май-
стру, мы бачылі аднаго, што Тваім
імем выганяў дэманаў, і мы забара-
нялі яму, бо не ідзе ўслед з намі».
Мар. 9, 38.
50 Яму ж сказаў Ісус: «Не забара-
няйце; бо хто не супроць вас, той
за вас».
Філ. 1, 18.
51 І было: калі набліжаліся дні
Яго ўзнясення, Ён вырашыў ісці ў
Ерусалім.
Мар. 16, 19; Дзеян. 1, 2.
52 І выслаў перад Сабою паслан-
цоў. І, выправіўшыся, тыя ўвайшлі
ў самаранскае сяло, каб падрыхта-
ваць для Яго.
53 Ды не прынялі Яго, бо меў вы-
гляд паломніка ў Ерусалім.
Іаан. 4, 9.
54 Убачыўшы ж гэта, вучні Якаў
і Іаан сказалі: «Госпадзе, хочаш, мы
скажам, каб агонь спаў з неба і зніш-
чыў іх, [як і Ілля зрабіў!»].
4 Цар. 1, 10, 12.
55 Але павярнуўшыся, Ён забара-
ніў ім, [кажучы: «Не ведаеце якога
вы Духа.
56 Бо Чалавечы Сын не прый-

**шоў губіць людское жыццё, але ратаваць».] І яны падаліся ў другое сяло.**

## ЯКІХ ВУЧНЯЎ ХОЧА МЕЦЬ ХРЫСТОС

**57 І, калі яны ішлі, хтосьці ў дарозе сказаў Яму: «Я пайду ўслед за Табою, куды б Ты ні ішоў».**
Мацв. 8, 19.
**58 І сказаў яму Ісус: «Лісіцы маюць норы, а нябесныя птушкі — гнёзды, а Чалавечаму Сыну няма дзе галаву прыхіліць».**
**59 І сказаў другому: «Ідзі ўслед за Мною». Ён жа сказаў: «Госпадзе, дазволь мне пайсці спярша пахаваць майго бацьку».**
**60 Але Ён сказаў яму: «Пакінь мёртвым хаваць сваіх мёртвых. Ты ж ідзі абвяшчаць Божае Царства».**
Мацв. 8, 22.
**61 Сказаў жа і другі: «Я пайду ўслед за Табою, Госпадзе: спярша ж дазволь мне развітацца з маімі дамашнімі».**
**62 Сказаў жа [яму] Ісус: «Хто кладзе сваю руку на плуг і азіраецца назад, не надаецца да Божага Царства».**

## Раздзел 10

## ІСУС ПАСЫЛАЕ ПЕРАД САБОЮ СЕМДЗЕСЯТ ВУЧНЯЎ

**1 Пасля ж таго прызначыў Госпад і іншых семдзесят [двух] і паслаў іх па двух перад Сабою ў кожны горад і месца, куды Сам намерваўся прыйсці.**
**2 Сказаў жа ім: «Жніво вялікае, а работнікаў мала; дык прасіце Гаспадара жніва, каб выслаў работнікаў на Сваё жніво.**
Мацв. 9, 37. Іаан. 4, 35.
**3 Ідзіце! Вось пасылаю вас як ягнят паміж ваўкоў.**
Мацв. 10, 16.
**4 Не насіце з сабою ні каліты, ні торбы, ні сандаляў, і нікога ў дарозе не вітайце!**
4 Цар. 4, 29. Мацв. 10, 9.
**5 І ў які б вы дом ні ўвайшлі, найперш кажыце: «Спакой гэтаму дому!»**
Мацв. 10, 12. Мар. 6, 10.
**6 І калі будзе там сын спакою, то спачыне на ім ваш спакой, калі ж не, то да вас вернецца.**
**7 І ў гэтым самым доме заставайцеся, ядучы і п'ючы, што яны маюць; бо варты работнік сваёй платы. Не пераходзьце з дому ў дом!**
Друг. 24, 14; Мацв. 10, 10. 1 Цім. 5, 18.
**8 І ў які б вы горад ні ўваходзілі,— калі прымаюць вас, ешце, што вам пададуць.**
**9 і вылечвайце ў ім хворых і кажыце ім: «Наблізілася да вас Божае Царства».**
**10 І ў які б вы горад ні ўвайшлі,— калі не прымаюць вас, то, выйшаўшы на яго вуліцы, скажыце:**
**11 «Нават пыл, што прыліп да нашых ног з вашага горада, мы страсаем вам. Ды гэта ведайце, што блізка Божае Царства».**
Мацв. 10, 14. Дзеян. 13, 51.
**12 Кажу вам, што Садому ў той дзень будзе лягчэй, чым таму гораду.**
Мацв. 11, 24.
**13 Бяда табе, Харадзіне! Бяда табе, Віфсаіда! Бо калі б у Тыры і Сідоне адбыліся цуды, што адбыліся ў вас, яны б даўно, седзячы ў валасяніцы і попеле, пакаяліся.**
Іс 23, 1; Іез. 3, 6; 26, 2; Мацв. 11, 21.
**14 Але Тыру і Сідону будзе лягчэй на судзе, чым вам.**
**15 І ты, Капернауме, ці аж да неба ўзнясешся? Ажно ў пекла сыдзеш.**
**16 Хто слухае вас, Мяне слухае, а хто вас адкідае, Мяне адкідае, хто ж Мяне адкідае, адкідае Таго, Хто паслаў Мяне.**
Ліч. 16, 11; Мацв. 10, 40; Лук. 9, 48; Іаан. 13, 20.
**17 Вярнуліся ж семдзесят [два] з радасцю, кажучы: «Госпадзе, і дэманы паддаюцца нам у Тваё імя».**
**18 Ён жа сказаў ім: «Я бачыў сатану, што як маланка спадаў з неба.**

**19 Вось, Я даў вам уладу наступаць на змеяў і скарпіёнаў і на ўсю варожую сілу, і нішто не зашкодзіць вам.**

Пс. 90, 13; 1 Іаан. 2, 13.

**20 Але не цешцеся з таго, што духі вам паддаюцца, а цешцеся, што вашы імёны запісаны ў нябёсах».**

Іс. 4, 3. Дан. 12, 1. Філ. 4, 3.

## ІСУС СЛАВІЦЬ СВАЙГО БАЦЬКУ

**21 У гэты самы час узрадаваўся Ён Святым Духам і сказаў: «Слаўлю Цябе, Бацька, Госпадзе неба і зямлі, што Ты закрыў гэта ад мудрых і разумных і адкрыў гэта малым; так, Бацька, бо гэтак было Табе даспадобы.**

Іс. 32, 4. Мацв. 11, 25. 1 Кар. 1, 21. 2 Кар. 4, 3.

**22 Усё перададзена Мне Маім Бацькам; і ніхто не ведае, хто ёсць Сын, толькі Бацька, і хто ёсць Бацька — толькі Сын і каму Сын хоча адкрыць».**

**23 І, звярнуўшыся да вучняў, на адзіноце сказаў: «Шчаслівыя вочы, якія бачаць тое, што вы бачыце.**

Мацв. 13, 16.

**24 Бо кажу вам: «Шмат прарокаў і цароў хацелі ўбачыць тое, што бачыце вы, а не ўбачылі, і пачуць, што чуеце вы, а не пачулі.**

1 Пят. 1, 10.

## МІЛАСЭРНЫ САМАРАНІН

**25 І вось устаў адзін законнік і, выпрабоўваючы Яго, сказаў: «Настаўніку, што я павінен зрабіць, каб атрымаць у спадчыну вечнае жыццё?»**

Мацв. 22, 35. Мар. 12, 28.

**26 Ён жа сказаў яму: «У Законе што напісана? Як чытаеш?»**

**27 Той жа ў адказ сказаў: «Любі Госпада Бога свайго, усім сэрцам сваім, і ўсёю душою сваёю, і ўсёю моцай сваёю, і ўсім розумам сваім», і: «свайго бліжняга, як самога сябе».**

Ляв. 19, 18. Друг. 6, 5. Мацв. 22, 37. Мар. 12, 29.

**28 Ён жа сказаў яму: «Ты правільна адказаў: рабі гэта і будзеш жыць».**

Ляв. 18, 5.

**29 Той жа, хочучы апраўдаць сябе, сказаў Ісусу: «А хто мой бліжні?»**

**30 У адказ Ісус сказаў: «Адзін чалавек спускаўся з Ерусаліма ў Ерыхон і трапіў разбойнікам, якія і раздзелі яго, і паранілі, і пайшлі, пакінуўшы ледзь жывога.**

**31 Выпадкам спускаўся тою дарогаю адзін святар і, убачыўшы яго, перайшоў на другі бок.**

Дзеян. 10, 28.

**32 Гэтак жа і левіт, прыйшоўшы на тое месца і ўбачыўшы, перайшоў на другі бок.**

**33 А адзін самаранін, быўшы ў дарозе, натрапіў на яго і, убачыўшы, зліταваўся**

**34 і падышоўшы, перавязаў яму раны, узліваючы алеем і віном; і, пасадзіўшы яго на сваю жывёліну, прывёз яго ў гасцініцу і паклапаціўся пра яго.**

**35 І на другі дзень, выняўшы два дынарыі, даў гаспадару гасцініцы і сказаў: «Заапекуйся ім, а што больш патраціш, я, вяртаючыся, аддам табе».**

**36 Хто з гэтых трох, думаецца табе, быў бліжні таму, што трапіўся разбойнікам?»**

**37 Ён жа сказаў: «Той, хто ўчыніў міласэрнасць над ім». Сказаў жа яму Ісус: «Ідзі, і ты рабі гэтак».**

## ІСУС У МАРТЫ І МАРЫІ

**38 У часе іх дарогі прыйшоў Ён у адно сяло. І пэўная жанчына, на імя Марта, прыняла Яго.**

Іаан. 11, 1; 12, 2.

**39 Была ж у яе сястра — звалася Марыя, седзячы ў нагах у Ісуса, яна слухала Яго слова.**

**40 Марта ж завіхалася ў розных паслугах. І, падышоўшы, сказала: «Госпадзе, ці ж не абыходзіць Табе, што мая сястра адну мяне пакінула прыслугоўваць? Скажы ёй, каб яна мне дапамагла».**

**41 У адказ жа сказаў ёй Гос-
пад: «Марта, Марта, турбуешся ты
і непакоішся пра многае,
42 а патрэбна адно; Марыя ж
выбрала добрую частку, якая не
адымецца ў яе».**

## Раздзел 11

## ЯК ТРЭБА МАЛІЦЦА

**1 І было: у той час, калі Ён
у нейкім месцы маліўся і перастаў,
хтосьці з Яго вучняў сказаў Яму:
«Госпадзе, навучы нас маліцца, як
і Іаан навучыў сваіх вучняў».
2 Ён жа сказаў ім: «Калі molі-
цеся, кажыце: «Ойча [наш, які ў ня-
бёсах], няхай будзе ў святасці імя
Тваё; няхай прыйдзе Царства Тваё;**
Мацв. 6, 9.
**3 хлеба нашага надзённага давай
нам на кожны дзень;**
Прып. 30, 8.
**4 і даруй нам нашы грахі, бо і
мы даруем кожнаму, хто вінаваты
нам; і не дапусці нас да спакусы»**[1].
І Пят. 5, 8. 2 Пят. 2, 9. І Кар. 10,13.
**5 І сказаў ім: «Хтосьці з вас
будзе мець сябра і прыйдзе да яго
апоўначы і скажа яму: «Сябра,
пазыч мне тры хлябы,
6 таму што мой друг прыйшоў
да мяне з дарогі, а я не маю чаго
падаць яму»;
7 і той у адказ з дому скажа:
«Не рабі мне клопату; ужо зачы-
нены дзверы, і дзеці мае са мною
ў ложку; не магу я ўстаць і даць
табе».
8 Кажу вам: калі ён і не ўстане
і не дасць яму з-за дружбы з ім,
то з-за назойлівасці яго падымец-
ца і дасць яму, колькі трэба.
9 І я вам кажу: прасіце і дадуць
вам, шукайце і знойдзеце, стукай-
це і адчыняць вам;**
Мацв. 7, 7; 21, 22. Мар. 11, 24. Іаан.
14, 13. Іак. 1, 6.
**10 бо кожны, хто просіць, атрым-
лівае, і хто шукае, знаходзіць, і таму,
хто стукае, адчыняюць.
11 І які з вас бацька, калі сын
папросіць рыбу, а замест рыбы
змяю падасць яму?**
Мацв. 7, 9.
**12 Або таксама калі папросіць
яйка, падасць яму скарпіёна?
13 Дык вось калі вы, будучы лі-
хімі, умееце даваць добрыя дары
сваім дзецям, на колькі больш
Нябесны Бацька дасць Святога духа
тым, што просяць у Яго.**
Яўр. 12, 9.

## ЛІХІЯ ЗАКІДЫ ІСУСУ

**14 І выганяў Ён дэмана, які быў
нямы; і было: калі дэман выйшаў,
нямы загаварыў і дзівіліся натоўпы.**
Мацв. 9, 32; 12, 22.
**15 А некаторыя з іх сказалі:
«Вельзевулам, уладаром дэманаў,
выганяе Ён дэманаў».**
Мацв. 9, 34; 12, 24. Мар. 3, 22.
**16 А іншыя, выпрабоўваючы, пат-
рабавалі ад Яго знака з неба.**
І Кар. 1, 22.
**17 Ён жа, ведаючы іх думкі, ска-
заў ім: «Кожнае царства, само суп-
роць сябе падзеленае, пустошыц-
ца, і дом на дом падае.**
Мацв. 12, 25. Мар. 3, 24.
**18 Калі ж і сатана сам супроць
сябе падзяліўся, як устоіць яго цар-
ства? А вы кажаце, што я Вельзе-
вулам выганяю дэманаў.
19 Калі ж Я Вельзевулам выга-
няю дэманаў, то вашы сыны кім
выганяюць? Таму яны будуць вам
суддзямі.
20 Калі ж Божым пальцам [Я]
выганяю дэманаў, то сапраўды прый-
шло да вас Божае Царства.**
Зых. 8, 19. Дан. 2, 44.
**21 Калі дужы са зброяй ахоўвае
свой двор, то яго маёмасць у
бяспецы.
22 Калі ж дужэйшы за яго, на-
паўшы, пераможа яго, то бярэ ўсю
яго зброю, на якую той спадзяваў-
ся, і раздае яго здабычу.
23 Хто не са Мною, той супроць
Мяне, і хто не збірае са Мною,
той раскідае.**

---
[1] Гасподняя малітва перакладзена тут з тэкста найстаражытнейшых рукапісаў, больш кароткага, чым паралельнае месца Мацв. (6, 9—13).

**24 Калі нячысты дух выходзіць з чалавека, то блукае бязводнымі мясцінамі, шукаючы спакою і не знаходзячы; [тады] кажа: «Вярнуся ў свой дом, адкуль выйшаў»;**

Мацв. 12, 43.

**25 І, прыйшоўшы, знаходзіць яго вымеценым і прыбраным.**

**26 Тады ён ідзе і бярэ іншых духаў, люцейшых за сябе, лікам сем і, увайшоўшы, яны пасяляюцца там, і апошняе таму чалавека горшае за першае.**

2 Пят. 2, 20. Яўр. 6, 4; 10, 26.

## ШЧАСЛІВЫЯ, ШТО СЛУХАЮЦЬ БОЖАЕ СЛОВА І ВЫКОНВАЮЦЬ ЯГО

**27 І было : калі Ён гаварыў гэта, адна жанчына, узвысіўшы голас з натоўпу, сказала Яму: «Шчаслівае лона, якое насіла Цябе, і грудзі, якія Ты ссаў».**

Лук. 1, 48.

**28 А Ён сказаў: «Так, сапраўды, шчаслівыя, што слухаюць Божае слова і выконваюць яго».**

**29 А калі збіраліся натоўпы, Ён пачаў казаць: «Род гэты — род ліхі, ён знаку вымагае, ды знаку яму не будзе дадзена, толькі знак Іёны.**

Іён. 2, 1. Мацв. 12, 39.

## ПРАРОК ІЁНА — ПРАДВЕСНІК ХРЫСТА

**30 Бо як Іёна быў знакам для ніневіцян, так будзе і Чалавечы Сын для гэтага роду.**

**31 Царыца Поўдня паўстане на судзе з людзьмі гэтага роду і асудзіць іх, таму што яна прыйшла з канцоў зямлі паслухаць Саламонаву мудрасць, і вось тут больш за Саламона.**

3 Цар. 10, 1, 4. 2 Цар. 9, 1 Мацв. 12, 42.

**32 Людзі ніневійскія ўстануць на судзе з гэтым родам і асудзяць яго; бо яны пакаяліся ад Іёнавай казані, і вось тут больш за Іёну.**

Іёна 3, 5. Мацв. 12, 41.

## СВЯТЛА НЕ СХАВАЕШ

**33 Ніхто, запаліўшы каганец, не ставіць у тайніку, [ні пад пасудзіну], але на падстаўку, каб тыя, што ўваходзяць, бачылі святло.**

Мацв. 5, 15. Мар. 4, 21.

**34 Каганец цела — тваё вока. Калі тваё вока чыстае, то і ўсё тваё цела яснае; калі ж — ліхое, то і цела тваё цёмнае.**

Мацв. 6, 22.

**35 Дык зважай: святло, што ў табе, ці не цемра?**

**36 Калі ж усё тваё цела светлае і не мае ніводнай цёмнай часцінкі, то будзе яно ўсё светлае, нібы каганец сваім бляскам асвятляе цябе».**

## НЕ ЗАНЯДБАЙЦЕ НАЙВАЖНЕЙШАГА Ў ЗАПАВЕЦЕ

**37 І калі Ён гэта сказаў, просіць Яго фарысей, каб папалуднаваў у яго; і Ён, увайшоўшы, узлёг.**

**38 Фарысей жа, убачыўшы, здзівіўся, што Ён найперш не памыўся перад абедам.**

Мар. 7, 3.

**39 Госпад жа сказаў яму: «Цяпер вы, фарысеі, чару і міску ачышчаеце звонку, а ваша нутро поўнае хцівасці і зласлівасці.**

Мацв. 23, 25.

**40 Неразумныя! Хто стварыў вонкавае ці не стварыў і ўнутранае?**

**41 Лепей дайце тое, што ўсярэдзіне, на міласціну і вось, усё ў вас — чыстае.**

Іс. 58, 7. Дан. 4, 24.

**42 Але бяда вам, фарысеям, што даяце дзесяціну з мяты, руты і ўсялякай агародніны, а абмінаеце суд і Божую любоў; і гэта належала рабіць, і таго не апусціць.**

Мацв. 23, 23.

**43 Бяда вам, фарысеям, што любіце першыя месцы у сінагогах і прывітанні на рынках.**

Мацв. 23, 6—7. Мар. 12, 38—39. Лук. 20, 46.

**44 Бяда вам, што вы — як магілы невідочныя, людзі ходзяць зверху, ды не ведаюць».**

**45 І, адазваўшыся, хтосьці з законнікаў казаў Яму: «Настаўніку, кажучы гэта, Ты і нас зневажаеш».**
**46 А Ён сказаў: «І вам, законнікам, бяда, што ўскладаеце на людзей непамерныя цяжары, а самі ні адным сваім пальцам не дакранаецеся да гэтых цяжараў.**

Мацв. 23, 4. Дзеян. 15, 10.

**47 Бяда вам, што ўзводзіце помнікі прарокам,— вашы ж бацькі забілі іх.**
**48 Значыць, вы сведкі і ўхваляеце ўчынкі сваіх бацькоў, бо яны забілі іх, вы ж узводзіце.**
**49 Таму і Божая мудрасць сказала: «Пашлю ім прарокаў і апосталаў, і некаторых з іх заб'юць і будуць гнаць,**

2 Пар. 36, 15. Неям. 9, 26. Мацв. 23, 34.

**50 каб кроў усіх прарокаў, пралітая ад стварэння свету, была спагнана з гэтага роду,**
**51 Ад крыві Авеля да крыві Захарыя, які загінуў між ахвярнікам і святыняю. Так, кажу вам: яна будзе спагнана з гэтага роду.**

Быц. 4, 8. 2 Пар. 24, 21. Мацв. 23, 35.

**52 Бяда вам, законнікам, што вы ўзялі ключ ведаў: самі не ўвайшлі і перашкодзілі тым, што хацелі ўвайсці».**

Мацв. 23, 13.

**53 І калі Ён выйшаў адтуль, пачалі кніжнікі і фарысеі моцна наступаць на Яго і выпытваць у Яго шмат пра што,**
**54 ставячы Яму пасткі, каб прылавіць на чым-небудзь з Яго вуснаў.**

**Працяг будзе**

7.3—7. Англійскі гісторык Гібон пісаў: «Розныя рэлігіі, што існавалі ў Рымскай імперыі, простыя людзі лічылі аднолькава сапраўднымі, філосафы — аднолькава памылковымі, а ўлады — аднолькава карыснымі». Проста дзеля захавання парадку рымскія ўлады падтрымлівалі рэлігіі, зусім не клапоцячыся пра сапраўдную рэлігійнасць насельніцтва. Аднак гэты сотнік якраз быў глыбока рэлігійны і сціплы чалавек. Не сам ён ідзе, а просіць праз сваіх сяброў — іудзеяў Ісуса, а ведаючы, што іудзеям нельга заходзіць у дом язычнікаў, нават напамінае, што ён не годны, каб Ісус прыйшоў пад яго дах.

7.14. Хаваючы нябожчыкаў, яўрэі не клалі іх у труну, а ахутвалі палатном, перавязваючы стужкамі і на марах адносілі за горад да высечаных у скалах магіл.

7.44. Ісус, звяртаючыся да Сімана, які лічыць, што акурат учынкі выяўляюць веру чалавека, і выстаўляе найперш учынкі жанчын. Але адпускаючы жанчыну, падкрэслівае якраз яе веру. Поўная ўпэўненасць у збавенні, лічаць хрысціяне, можа грунтавацца толькі на веры ў Хрыста.

8.2. Марыя Магдалена — імя паказвае на тое, што яна была ўраджэнкаю гарадка Магдала на беразе Геннізарэцкага возера (у Новым Запавеце яно яшчэ называецца Тыверыядскім або Галілейскім морам). Цяпер гэта вёска Медждэль са старажытнымі руінамі.

8, 18. Як вучань, калі ён больш вучыцца, тым больш набывае ведаў, калі ж не, забывае і тое, што ведае. Чалавек або ідзе наперад і яму прыспарае, або ён адстае ад жыцця, страчвае (у яго адымаецца і тое, што ён мае).

8, 21. Самая вялікая блізкасць не проста сваяцкая крэўнасць людзей, а духоўная роднасць, адзінства думак, поглядаў, душ. Хрысціяне ўваходзяць у сваю сям'ю, якая лучыць для іх увесь свет.

8, 37. Гэтыя жыхары цанілі сваіх свіней куды вышэй за жыццё чалавека, таму і папрасілі Хрыста пакінуць іх.

9, 2. Ісус ускладае на вучняў абавязак казані і вылечвання хворых. Не толькі Добрая Навіна, але і змяненне ўмоў зямнога жыцця. Гэтым рознілася Хрыстова вучэнне ад рэлігій «пірага на тым свеце».

9, 3. Хрыстовы вучні не павінны былі мець лішніх рэчаў, каб магчы хутка адольваць немалыя адлегласці, быць у самых аддаленых месцах у часе адсутнасці радыё і тэлебачання вуснамі Хрыста.

9, 20. Пятро, называючы Ісуса Месіяй, тым самым сведчыць, што вучні прызнаюць Ісуса Божым Памазанікам. З гэтага часу Ісус будзе займацца галоўным чынам выхаваннем

апосталаў, рыхтуючы іх для наступнай працы, якую ім належыць рабіць пасля ўзнясення Ісуса.

9, 46. Вучні яшчэ ўяўлялі сабе Божае Царства як зямное, таму ім рупела думка аб лепшых пасадах.

9, 53. Самаране, лічачы, што пакланяцца Усявышняму належыць на гары Гарызім, не любілі паломнікаў, што ішлі ў Ерусалім.

9, 54—55. Зевядзеевы сыны Якаў і Іаан, якіх Госпад назваў сынамі грому (Марк. 3, 17), хацелі спаслаць агонь на самаран, пэўна спадзеючыся на Ісусаву пахвалу. Некалі так зрабіў Ілля, паводле Старога Запавету. Госпад забараняе ім помсту: не такія, як у Старым Запавеце, выхаваўчыя сродкі Хрыста, звестуна Дабравесця.

10, 29. Рабіны часта зводзілі разуменне слова «бліжні» да іудзеяў.

10, 31. Святар, пэўна, спачуваў чалавеку на дарозе. Аднак ведаў, што, паводле закона, калі ён дакранецца да мёртвага, будзе пасля сем дзён нячысты. І не хацеў траціць сваёй чаргі служыць у святыні. Свой абрад ён палічыў вышэйшым за міласэрнасць.

10, 32. Левіт — памочнік святара пры служэнні ў скініі, іудзейскім сваціліішчы,— нешта на ўзор дыякана ў сучаснай царкве.

Ён, відаць, палічыў падарожнага за разбойніка, які прытварыўся раненым. І пабаяўся падысці да яго, каб той не схапіў яго,— такія выпадкі здараліся не раз. І не захацеў рызыкаваць сабою.

10, 33—34. І святар і левіт павінны былі б асабліва пільнавацца закона любові да бліжняга. Аднак іншаверац самаранін пераўзышоў іх. Яго чалавечнасць аказалася мацнейшая за рэлігійныя і племянныя спрэчкі. Ісус праз гэты абразок яшчэ раз падкрэслівае дадзеную Ім новую запаведзь аб любові да ворагаў.

11, 31—32. Царыца Саўская, дачуўшыся пра Саламонаву мудрасць, за тысячы кіламетраў ехала, каб набрацца ад яго мудрасці; людзі Ніневіі, пачуўшы ў Іёне Божы голас, пакаяліся, дык чаму ж тады іудзеі, маючы мажлівасць чуць Ісуса, не паслухаліся? Вось таму ў Судны дзень і будуць яны асуджаны. Гэтыя словы тым самым звернуты і да ўсіх, хто мае цяпер мажлівасць далучыцца да Святога Пісьма, да Біблії, ды не робіць гэтага. Гісторыя памятае, якой падзеяй быў прыход яе на роднай мове пасля вякоў забароны і нават пакарання смерцю. У Англіі, напрыклад, аддавалі воз сена за некалькі раздзелаў са святога Якава або святога Паўла, напісаныя на англійскай мове.

11, 47—48. Законнікі толькі выстаўляюць сябе, узводзячы помнікі пракорам, але гэта не загладжвае іх віны, бо сэрцы іх не змяніліся.

**Пераклад і каментарыі Анатоля КЛЫШКІ.**

# САРБЕЎСКІ — У НАШАЙ СПАДЧЫНЕ

## Ад перакладчыка

Сярод згаданых У. Сыракомляй гарадоў, дзе выпала жыць і працаваць М. К. Сарбеўскаму, не памянёным застаўся беларускі горад Полацк. А менавіта тут Сарбеўскі выкладаў рыторыку ў 1618—1620 гг., тут напісаў ён свой славуты трактат «Пра вытанчанасць і досціп», з публічным чытаннем якога выступаў перад рымскай культурнай элітай. Тут працаваў ён над сваімі буйнымі творамі па тэорыі літаратуры, тут ён быў настаўнікам паэтыкі (1626—1627 гг.). Сюды прывёў яго шлях з Рыма, пра які ён апавядае ў вершы, напісаным «перад ад'ездам на Беларусь». Ён трапіў у Полацк праз Нясвіж, дзе пасля вяртання з Рыма нядоўгі час быў выкладчыкам у мясцовым калегіуме. Прыходзіцца зважаць на геаграфічныя звесткі, калі справа датычыцца такой складанай гісторыі, як наша.

У сваёй прадмове да перакладаў вершаў Сарбеўскага на польскую мову (якую Сыракомля называе роднай) ён адзначыў агульныя рысы жыццёвага шляху «сармацкага Гарацыя». Спынімся больш падрабязна на тым, што засталося незгаданым.

З двух захаваных дагэтуль рукапісаў, на падставе якіх у Польшчы выдадзены не так даўно «Выклады паэтыкі» Сарбеўскага, адзін узнік у Полацку, другі — ў Вільні, у тыя часы, калі Сарбеўскі чытаў там лекцыі па тэорыі літаратуры. Гэтыя рукапісы — не аўтарскія, яны складаюць вучнёўскі запіс надыктаваных Сарбеўскім лекцый. Пра тое, што аўтар рыхтаваў свой тэкст да выдання, сведчыць стылістыка і дастатковая апрацаванасць матэрыялу. Але, як і ўсім навуковым працам Сарбеўскага, гэтай не давялося быць надрукаванай пры ягоным жыцці. У склад «Выкладаў паэтыкі» уваходзяць такія творы, як «Лірычныя характары, альбо Гарацый і Піндар», «Пра трагедыю і камедыю, альбо Сэнэка і Тэрэнцый», «Пра вытанчанасць і досціп, альбо Сэнэка і Марцыял» і інш. Змест гэтых прац — аналіз розных літаратурных жанраў: драмы, камедыі, сатыры, эпіграмы, лірыкі і г. д. Акрамя старажытных аўтараў Сарбеўскі даследуе таксама творы новалацінскія з часоў Рэнесансу і сучаснага яму барока.

Намаганнямі польскіх літаратуразнаўцаў узноўлены да жыцця яшчэ адзін твор Сарбеўскага — «Пра дасканалую паэзію, альбо Вергілій і Гамэр». Тут даследуецца вяршыня літаратуры — эпас.

Пра ўзровень эрудыцыі, мыслення, вобразнай стылістыкі навуковых прац Сарбеўскага наш чытач можа меркаваць па ўрыўках з трэцяга тома выдадзеных прац Сарбеўскага — «Паганскія багі». Як і ўсе астатнія, гэта такса-

ма запіс надыктаваных лекцый. Тут свайго роду энцыклапедыя міфалогіі розных часоў, якая да таго ж змяшчае шырокую інфармацыю па тэалогіі, філасофіі, гісторыі, прыродазнаўству і іншых галінах ведаў. Інтэрпрэтацыя паганскай міфалогіі пачалася ўжо ў часы ранняга хрысціянства, перад якім паўстала задача ўключэння антычнай інтэлектуальнай спадчыны ў хрысціянскую карціну свету. Неабходна была вялізная праца, каб хаця спарадкаваць велізарную інфармацыю, якая дасталася хрысціянству ад папярэдніх культур. Рымляне здавён жартавалі, што ў іх багоў больш, чым людзей. Да элліністычнага пантэону багоў былі далучаныя пад новымі імёнамі і багі егіпецкія, персіцкія, не кажучы ўжо пра грэцкіх.

Хрысціянскія мысліцелі выпрацавалі два метады інтэрпрэтацыі міфалогіі — алегарычны і гістарычны. Сарбеўскі спалучае і той, і другі: тлумачыць і сімвалічны сэнс міфалагічных вобразаў, і гістарычныя абставіны іх узнікнення і існавання. Нават па невялічкіх урыўках бачна, наколькі шырокі матэрыял быў апрацаваны Сарбеўскім. Вядома, у яго было шмат папярэднікаў, і ён карыстаўся іх працамі ў поўнай меры, але яго ўласны твор — не кампіляцыя, не кампендыум. Гэта менавіта праца сістэматызатарскага, энцыклапедычнага характару, праца, на якую, дарэчы, вельмі багаты перыяд барока ўва ўсіх галінах ведаў.

На працягу доўгага часу запісы лекцый Сарбеўскага — і па тэорыі літаратуры, і па тэалогіі, і па міфалогіі — служылі крыніцай інфармацыі ў каталіцкіх навучальных установах Беларусі. Яны перапісваліся ад рукі і гэтак распаўсюджваліся. Знойдзены фрагменты твора «Паганскія багі», якія былі запісаны ў Слуцку ў 1717 г.

Сарбеўскі сам гэтак акрэслівае мэту сваёй працы: «ясна паказаць, што старажытныя займаліся не легкадумным вымысленнем міфаў, і менавіта такіх, якія на першы погляд здаюцца надзвычай непрыстойнымі; але яны выказалі ў іх шмат такога, што датычыцца філасофіі натуральнай і маральнай, а таксама і тэалогіі; і існую праўду як вобраз надзвычайнай вартасці яны прыкрылі міфам, як покрывам, дзеля ўшанавання яе годнасці».

Сарбеўскага натхняла асветніцкая ідэя, агульная, дарэчы, для барока і каталіцкага адраджэння. Ён імкнуўся «паказаць метад, пры дапамозе якога з мізэрнага часам вымыслу можна здабыць дастаткова разумнага ўва ўсіх адносінах і па розных тэмах, практыкуючы розум у асэнсаванні паняццяў як тэалагічных, так і філасофскіх, але найбольш — этычных, якія не толькі садзейнічаюць асветніцтву, але і даюць асалоду».

Яшчэ ў Рыме Сарбеўскі задумаў стварыць працу «Рымскія старажытнасці». Мабыць, натхняў яго на гэта ягоны рымскі сябра Аляксандр Донат, аўтар вядомага ў свой час твора «Рым старажытны і новы». Сарбеўскі шмат часу праводзіў з ім у вандроўках па Рыме і яго наваколлях. Пазней, калі Сарбеўскі ўжо вярнуўся ў Рэч Паспалітую, яны перапісваліся. Неабходнасць часта мяняць навуковыя прадметы, быць настаўнікам то паэтыкі, то філасофіі, то тэалогіі, не спрыяла паглыбленню даследавання менавіта міфалогіі. Задума не збылася ў поўнай меры, але і тое, што паспеў зрабіць Сарбеўскі, сведчыць самое за сябе. Дарэчы, і над гэтым творам Сарбеўскі працаваў у Полацку пасля вяртання з Рыма.

Усе названыя працы выдадзены ў Польшчы на мове арыгіналу з паралельным перакладам на польскую мову і падрабязнымі каментарыямі. Згадваю гэта з надзеяй, што хтосьці з нашых літаратуразнаўцаў альбо гісторыкаў культуры зацікавіцца магутнай постаццю Сарбеўскага і возьмецца за даследаванне ягонай спадчыны. Застаецца яшчэ згадаць тэалагічную працу Сарбеўскага. У бібліятэцы Віленскага ўніверсітэта захоўваецца рукапіс ягонага каментарыя на першую частку «Сумы тэалогіі» Фамы Аквінскага. Доўгі час гэтую працу лічылі згубленай, але адшукаўся студэнцкі за-

піс лекцый Сарбеўскага на кафедры тэалогіі, і ўжо перад другой сусветнай вайной пачалося навуковае даследаванне гэтага твора.

Праз усё кароткае жыццё напружаная праца розуму, пачуццяў, самаахвяравання ў ёй — вось што робіць Сарбеўскага каласальнай фігурай у гісторыі культуры. Па сутнасці, гэта праца будавання культуры, засваення, пераймання і развіцця здабыткаў мінуўшчыны, яе ажыўлення ў сучаснасці і тым самым будавання будучыні. Але складанне даніны навуковай і асветніцкай дзейнасці Сарбеўскага не павінна ад нас засланіць яго галоўнае прызначэнне — паэты. Драматызм ягонага жыцця мы зразумеем, калі ўсвядомім, што да гэткай напружанай працы навукоўцы, настаўніка, прапаведніка быў змушаны менавіта Паэта. Гэта праца знясільвала яго, да таго ж яшчэ хворага на сухоты. Пазбавіць Сарбеўскага занятасці, якой вымагала універсітэцкая дзейнасць, даць паэце вольны час для заняткаў паэзіяй — пра гэта марылі сябры Сарбеўскага. Пра гэта нават прасіў дазволу Рыма адзін з высокапастаўленых іерархаў ордэна іезуітаў. Але кафедру настаўніка Сарбеўскаму прыйшлося памяняць на кафедру каралеўскага прапаведніка. Красамоўства прынесла яму славу, яно яго і згубіла. Пра тое, як жылося паэце пры двары караля Уладыслава IV (які, дарэчы, нават не паклапаціўся выдаць творы свайго любімага прамоўцы), Сарбеўскі згадвае ў лістах да свайго сябра плоцкага біскупа Ст. Любеньскага. «Ускладзены на мяне аднога цяжкі абавязак прамаўлення казанняў цалкам паглынае мой час. Ніводная ўрачыстасць, ніводнае рэлігійнае свята не абыходзіцца без таго, каб альбо ў касцёле, альбо ў палацы, альбо нават на паляванні не быў я вымушаны выступаць з прамовамі». Апошняя з іх была смяротнай, напярэдадні пазбаўлення ад прыдворнага тлуму, які Сарбеўскі не стамляўся выкрываць у сваіх вершах. Памёр ён ад інсульту, кажучы мовай медыцыны, а па-чалавечы кажучы,— ад перанапружання.

Ён марыў пра волю, аб гэтым сведчыць такі настойлівы ў ягоных вершах парафраз гарацыеўскага матыву «Beatus ille qui procul negotia» — «шчаслівы, хто далёка ад турбот». Гэта не паэтычная пераймальнасць, гэта крык душы. Але душы загартаванай у дысцыпліне і да таго ж гатовай да пакутніцтва. «Наследаванне Хрысту» — гэта не толькі назва адной з самых папулярных кніг позняга Сярэднявечча і наступных часоў, гэта — ідэя самаахвяравання, якая будавала духоўнасць хрысціянскай культуры. Ідэя, дарэчы, не чужая Сарбеўскаму. Вось што ён піша ў адным сваім літаратуразнаўчым творы. «Не прystала выводзіць на сцэне людзей высакародных і сумленных, якія з шчаслівых пераўтварыліся ў няшчасных, таму што няма ў гэтым нічога, што страшыла б і абуджала шкадаванне, але з'яўляецца гэта звычайным злачынствам з боку тых, хто, напрыклад, забівае пакутніка. Што ж да самога пакутніка, дык тут не можа быць і гаворкі пра шкадаванне, таму што шмат высакародных людзей зычаць сабе таго ж самага і разумеюць, што пакутнік радуецца сваім пакутам».

Рахманасць і гатоўнасць нават да пакут — гэтыя дзве высокія якасці, калі яны спалучаюцца з мужнасцю духа ў характары аднаго чалавека, даюць свету істоту, блізкую таму ідэалу, да якога клічуць усе высокія вучэнні філасофіі і рэлігіі. Замест наступальнага бунтарства тут надзейнасць і трываласць такой моцы, што аб яе, як аб скалу, разбіваюцца усялякія дэмагогіі, ідэалогіі і паўсюдная хлусня. «Невідавочны лад мацней за відавочны» — як казаў Геракліт. Думаецца, што нават і не прыняўшы касцёльны сан, Сарбеўскі змог бы адхіліць спакусы павярхоўнага жыцця, адолеў бы жыццёвы шлях без хістанняў духа. Але з 1623 г., калі ён у Рыме прыняў касцёльны сан і даў звычайныя для манахаў усіх ордэнаў абеты (цэлібат, беднасць, паслухмянасць), ягоны шлях стаў падуладны загадам ордэнскіх улад. Яны накіравалі яго ў Рым, яны загадалі і вярнуцца. Тут дарэчы будзе згадаць, што далучэн-

не да якогасці з каталіцкіх ордэнаў адкрывала для мноства беларускай, а таксама і польскай і літоўскай моладзі адзіны шлях у шырокі свет, да навукі, да інтэлектуальнай працы. Незаможныя юнакі не мелі магчымасці атрымаць добрую адукацыю, якую мелі сыны магнатаў. Адукацыя каштавала вялізных грошай. Але касцёл у сваіх навучальных установах даваў таленавітым юнакам, якіх спецыяльныя пасланцы шукалі па мястэчках і вёсках, магчымасць бясплатнага навучання. Гэта быў шанц. Гэтым шляхам пайшоў Сарбеўскі, як і сотні, тысячы іншых. Вывучыўшыся, гэтыя юнакі самі рабіліся настаўнікамі, дзяржаўнымі служачымі, грамадскімі дзеячамі, юрыстамі, лекарамі, прапаведнікамі, місіянерамі і г. д. Дарэчы, аднаго з сяброў Сарбеўскага — А. Рудаміну — гэты шлях завёў ажно ў Кітай.

Паслухмянства загадам вымагае дысцыплінаванасці. Цяжка сказаць, ці была ў характары Сарбеўскага «ахвота да перамены месцаў». Мяркуючы па вершах, ён успрымаў перамены з пакорай і мужнасцю. Гэта відавочна ў вершы, напісаным «перад ад'ездам на Беларусь». Элій Цымік, да якога звяртаецца аўтар,— асоба выдуманая. А можа, пад гэтым псеўданімам Сарбеўскі прыхаваў імя якога са сваіх рымскіх сяброў, якім здавалася, што пасля Рыма паэта чакае ссылка ў варварскую далячынь, якой павінна было бачыцца з рымскіх пагоркаў Вялікае Княства Літоўскае. Першы славянін, увенчаны на Капітоліі, дзе з часоў Аўгуста увенчвалі славай лепшых паэтаў, павінен пакінуць Рым, пра які Сарбеўскі, мабыць, мог бы сказаць тымі ж словамі, якімі пазней сказаў Байран — «Рым! Радзіма! Зямля маёй мары!». Пададзены намі верш сведчыць, што самашкадаванне, як пустая сэнтыментальнасць слабадушнасці, не была яму знаёмай. Не дзе жывеш, а як жывеш — вось магчымы адказ на геаграфічныя скаргі.

Што яшчэ апроч заклікаў да вызвалення Грэцыі і славянскіх народаў ад турэцкага ярма роднаснае паміж Сарбеўскім і Байранам, дык гэта адчуванне няўтульнасці, ненадзейнасці чалавечага існавання ў зменлівых абставінах зменлівага часу, гісторыі, прыроды, якія навязваюць чалавеку свой рытм, свой змест. І такое ж мужнае супрацьстаянне духа зменлівасці, жорсткасці, неразумнасці. Гэтыя матывы відавочныя нават у навуковай працы Сарбеўскага — між іншым і ў пададзеных намі ўрыўках з твора «Паганскія багі». Сарбеўскі бачыў, што ёсць у чалавечым жыцці вынік гістарычнай кармы, альбо, інакш кажучы, першароднага граху, але гэта не перашкаджала яму выступаць з выкрыццём заганаў моцных гэтага свету, заганаў жорсткасці да простага люду, бяздзейнасці там, дзе справа тычыцца годнасці і абароны справядлівасці. Можна верыць, што акрамя дасканаласці стылю, ягоныя вершы вабілі сучаснікаў і нашчадкаў і мужнасцю светаўспрымання. Ён не клапаціўся пра славу — ведаў, што гэта рэч таксама нетрывалая, як і самое жыццё.

Пры жыцці Сарбеўскага выйшла пяць выданняў ягоных вершаў. Першае выданне — ў Кёльне ў 1625 г., калі ён яшчэ знаходзіўся ў Рыме. Наўздагон гэтаму выданню прыйшоў загад ад ордэнскіх улад пакінуць Рым, вярнуцца ў Вялікае Княства Літоўскае. Магчыма, дзесьці ў аналах ордэна чакаюць свайго часу звесткі, якія растлумачаць нам раптоўнасць гэтага загаду. Разумеючы хісткасць ўсялякіх меркаванняў, усё ж паспрабуем дапусціць, што ордэнскія ўлады засталіся незадаволены тым, што зборнік вершаў быў надрукаваны без адзнак згоды ордэнскага цэнзара. На другім выданні адзнакі апрабацыі ўжо ёсць, як і на астатніх. На ўсё патрэбная была згода вышэйшых іерархаў.

Адно з прыжыццёвых выданняў з'явілася ў Вільні ў друкарні Віленскай Акадэміі ў 1628 г. Самым славутым лічыцца чацвёртае па ліку, антвэрпэнскае выданне 1632 г., франтыспіс якога быў аздоблены Рубэнсам. Тут, дарэчы, змешчаны і першы пераклад вершаў Сарбеўскага на замежную мову — нямецкую. Усяго зараз налічваецца каля 60 выданняў па ўсіх кутках Еўро-

пы. Доўгі час вершы Сарбеўскага вывучаліся ў еўрапейскіх універсітэтах і гімназіях XVII—XIX ст., як дасканалы ўзор новалацінскай паэзіі. Вывучаюцца яны і зараз. Ёсць мноства перакладаў на іншыя мовы — англійскую, італьянскую, чэшскую, фламандскую, літоўскую. І вядома ж — на польскую. Перакладаць на польскую пачалі яшчэ ў XVII ст. У Варшаве ў 1769 г. Ф. Багамолец выдаў пераклады С. Твардоўскага, П. Пузыны, А. Нарушэвіча і інш. У 1851 г. выдаў свае пераклады вершаў Сарбеўскага на польскую мову Ул. Сыракомля з уласнай прадмовай. Вытрымкі з яе прапануюцца чытачу.

Творчасць Сарбеўскага — вучонага і паэта вывучаецца даўно і актыўна за межамі нашай краіны. Існуюць манаграфіі, больш за сотню артыкулаў даследчыкаў Еўропы і Амерыкі.

У нас палітычныя абставіны доўгі час не спрыялі вывучэнню каталіцкага асветніцтва на Беларусі і за яе межамі. Афіцыйныя гісторыкі дагаворваліся да таго, што каталіцкія школы неслі народу цемру і дурман. Вось перад табой, шаноўны чытач, невялічкія вытрымкі з прац аднаго з каталіцкіх асветнікаў. Мяркуй сам, дзе цемра, а дзе святло.

Колькі прац, напісаных на лаціне, застаецца непрачытанымі і невядомымі не толькі шырокаму колу, але і вучоным! А гэта ж праца нашых землякоў, нашых продкаў. Лацінамоўная традыцыя, на наш погляд, гэта адна з форм далучэння да той самай сусветнай культуры, без якой цяжка «людзьмі звацца». Ува ўсіх еўрапейскіх краінах лацінская адукацыя дапамагала ўтварэнню нацыянальных культур тым, што рыхтавала людзей адукаваных — юрыстаў, лекараў, настаўнікаў, палітыкаў, эканамістаў, дзяржаўных дзеячоў, прапаведнікаў, будаўнікоў, прыродазнаўцаў і г. д. З лона лацінскамоўнай адукацыі выйшлі і першыя нацыянальныя геніі Італіі, Францыі, Германіі, Англіі, Польшчы. Усе канфесіі напачатку карысталіся лацінамоўнай спадчынай. Нават Лютэру нічога не заставалася, як зміры́цца з той лацінамоўнай сістэмай адукацыі, якую яму падрыхтаваў нямецкі асветнік Ф. Меланхтон. Тое ж і ў іншых краінах. На ўсё свой час. Там, дзе адукацыяй была падрыхтаваная глеба, прыходзіў час і нацыянальнай культуры — інтэлектуальнай, палітычнай, грамадскай. Гэта быў не просты шлях, але ён вёў не да абсурду, а да разумнасці, наколькі разумнасць магчымая ў чалавечай гісторыі, дзе насілле перамагае занадта часта.

Беларусь, з яе традыцыямі верацярпімасці, рахманасці і памяркоўнасці нацыянальнага характару, мела свой шанц годна жыць у сям'і еўрапейскіх народаў. Яе сыны ў часы барока даказалі, як хутка яны здольны авалодаць складанымі мовамі, плённа працаваць на ніве духоўнай культуры. Прыклад з Мікалаем Гусоўскім — яскравае таму пацверджанне. Калі нашы здабыткі гэтай спадчыны адкрыюцца поглядам, мы пераканаемся, што на лацінскай мове вучылі не абыякавасці да радзімы, народа, іншых культур, а вучылі розуму, разумнай працы. А гэта — найлепшая падстава для ўсялякай дзейнасці. Яшчэ не позна.

**Ларыса ЧАРНЫШОВА**

Уладыслаў СЫРАКОМЛЯ

# КСЁНДЗ МАЦЕЙ САРБЕЎСКІ

Міласэрны божа не абмінуў зямель славянскіх геніям дзеля Еўропы, але нашы геніі не мелі шчасця шырокага прызнання, прастора іх славы заставалася ў вузкіх межах радзімы. Поўдзень і Захад, карыстаючыся ўніверсальнымі мовамі, так моцна ўдзейнічалі на астатні свет, што зрабілася неяк правілам, што геній і талент, каб не застацца ў невядомасці, павінен быў акрамя іншага быць перакладзеным на лаціну альбо на французскую мову. Поўдзень і Захад былі суддзямі геніям, а славянская мова, як маладаступная іншаземцам, прычынілася да той фатальнасці, якая і дагэтуль пануе над намі.

З гэтага пункту гледжання Польшча была калісь больш шчаслівай. Яе геніяльныя людзі, што пісалі мовай Рыму, а значыцца здольныя стаць у параўнанне з іншаземцамі, атрымалі сваю заслужаную пашану. Наш Капернік змяніў аблічча астранамічнай навукі, а лаўры Ватыканскія, якія вянчалі Петрарку, якія заслужыў Тассо, аздобілі чало нашых Шымановіча, Яніцкага, Сарбеўскага.

Пагаворым тут пра гэтага апошняга. Каласальная слава, якой адарыў яго свет, вартая таго, каб з пачуццём гонару за радзіму азірнуць жыццё і творы вялікага паэты суайчынніка, ушанаваць яго талент і на нашай зямлі адрадзіць заслужаную памяць пра песняра, які быў красой зямлі нашай.

Пачнем з біяграфіі нашага паэта.

Кс. Мацей Казімір Сарбеўскі нарадзіўся ў 1595 г. у адной з шляхетных сямей плоцкага ваяводства. Бацькам яго быў Матэуш Сарбеўскі, маці — Анастазыя з Мілеўскіх. Нарадзіўся ён у фамільным гнязде Сарбеўскіх за мілю ад мястэчка Плоньска. Спачатку вучыўся ў Пултуску, потым у Віленскай Акадэміі. У 1612 г. далучыўся да ордэна іезуітаў, маючы няпоўных 17 год. Тут пасярод тэалагічных заняткаў пачаў ён спрабаваць сябе ў паэзіі, вітаючы Станіслава Кішку ў 1618 г. на новай пасадзе біскупа жмудзкага, а крыху пазней вельмі слаўная ў нашай гісторыі эпоха ўразіла паэту і дала ягонаму пяру шырокае поле дзейнасці. У 1619 г. Асман, турэцкі султан, аб'явіў вайну Польшчы. Краіну апанаваў панічны страх, сабраны сейм аднадушна ўручыў асірацелую пасля Жалкеўскага булаву Яну Каралю Хадкевічу. Будучы хоцімскі герой, пакідаючы айчыну і маладую жонку, аддаючы сябе ў рукі ваеннага лёсу, аддаўся пад апеку Маці Боскай і уфундаваў ёй касцёл пры іезуіцкім калегіі ў Крожах. Пайшоў перамагаць, перамог і не вярнуўся. Найлепшая гэта была тэма для паэты! Постаць героя, поўнага веры і надзеі, вітанне яго, маленні за яго, варажба дзеля яго, урэшце гімн перамозе — былі прадметам пяра Сарбеўскага, прадметам, вартым старажытных песняроў, прадметам, якім ён у шматлікіх одах і эпіграмах па-майстэрству авалодаў.

Гэтыя надта абяцаючыя спробы звярнулі на сябе ўвагу іезуіцкага кіраўніцтва. Яно зразумела, што геніяльны малады чалавек прынясе славу ордэну, і яго паслалі працягваць навучанне на пэўны час да Рыму, сталіцы хрысціянскага свету. Пасля поўнага прыгод падарожжа, у якім спадарожнікамі Сарбеўскаму былі Ян Грушэўскі, Андрэй Рудаміна, Освальд Крыгер і Мікалай Завіша, ён прыбыў да Рыму ў 1622 г. і адразу трапіў на той момант, калі кардынал Мафэус Бэрбэрыні, слаўны калісці нунцый у Францыі, пад імем Урбана VIII заняў прэстол св. Пятра. Тут хутка ацанілі нашага геніяльнага земляка. Вучоны папа рымскі, ягоныя сыны Францыск,







На здымках: кёльнскія выданні вершаў Сарбеўскага.

Аляксандр і Джордан Бэрбэрыні, князі Бракцыані, а таксама ўсе найвядомейшыя і самыя вучоныя людзі ў Рыме шанавалі яго, а дакладней — былі ўшанаваныя яго сяброўствам. На працягу пяцігадовага побыту ў Рыме, вывучаючы філасофію і тэалогію, ён яшчэ меў час з запалам чытаць рымскіх класікаў, складаць столькі паэтычных пашан Урбану VIII і іншым сваім славутым знаёмым, быць даверанай асобай і органам Ватыкану ў справе (тады моцна цікавіўшай дыпламатыю) выгнання турак з Еўропы, дабрасумленна спраўляць працу рэдактара і дапрацоўшчыка касцёльных гімнаў [1], чытаць публічна ў вольную ад навук хвіліну свой трактат «Пра вытанчанасць і досціп»;, урэшце, вокам зацятага антыквара разам з Аляксандрам Донатам вывучаць помнікі вялікіх часоў старажытнага Рыма і з назбіраных тут матэрыялаў пачаць твор «Паганскія багі». Гэтая непамерная праца, а галоўным чынам праўдзівая старарымская паэзія стварылі яму славу і прызнанне такое, што Урбан VIII увянчаў яго лаўрамі паэтыцкімі, а пры ад'ездзе Сарбеўскага адарыў яго медалём са сваёй выявай.

Вярнуўся ў Польшу наш паэта ў 1627 г. разам з Крыспам Левіньскім. Як кожны амаль крок жыцця, так і гэта падарожжа ўвекавечыў сваёй паэзіяй...

Потым стаў Сарбеўскі прафесарам красамоўства ў Віленскай акадэміі, а потым прафесарам філасофіі і тэалогіі... Тут кароль Уладыслаў IV адарыў яго залатым пярсцёнкам, які

---

[1] Сярод гімнаў брэвіарыяў, папраўленых пры Урбане VIII, усюды можна знайсці след рэдактарскай рукі Сарбеўскага. Здавён традыцыя лічыць самога Сарбеўскага аўтарам гімна «ad regias agni dapes».

пасля таго, як Сарбеўскі падараваў яго акадэміі, доўгі час служыў інсігнатам доктарскай ступені. Запрошаны быць прыдворным красамоўцай на месца сканаўшага Сэбасцьяна Лашчэўскага, ён яшчэ раз пабываў за мяжой разам з каралём — на водах Бадэнскіх пад Венай, дзе па просьбе караля склаў оду св. Станіславу Костке. У Вільне і Варшаве ён у поўнай меры развіў свой паэтычны талент, апяваючы амаль усе падзеі дзяржаўнага жыцця, сябраваў амаль з усімі вялікімі людзьмі той эпохі.

Пры двары яго любілі, бо ён не клапаціўся пра ласку да сябе... Але двор яго не вабіў, ён прасіў і атрымаў дазвол аддаліцца ад двара кудысці ў кляштарную цішыню. Але тут адзін з магнатаў, які ніколі не чуў прамоваў Сарбеўскага, упрасіў караля, каб той не раней даў звальненне ад абавязкаў ужо сабранаму да ад'езду Мацею, чым пасля таго, як ён прачытае сваю апошнюю казань. Сарбеўскі выканаў даручэнне як трэба, але сыйшоўшы з кафедры, адчуў зябласць, боль у галаве, адным словам — смяртэльную слабасць. І праз тры дні пасля той казані, 2-га красавіка 1640 г., сканаў — у Варшаве, маючы няпоўных 45 год. Пахаваны ён у іезуіцкім касцёле ў Варшаве без аніякага надмагілля. Ягоная мармуровая статуя аздабляла бібліятэку Залускіх, а медалём з нагруднай выявай Нарушэвіча і Сарбеўскага кароль Станіслаў Аўгуст упрыгожыў грудзі Нарушэвіча...

Паэзія Сарбеўскага мела і мае вялізную, класічную славу. Страсбургскі выдавец налічвае каля 20 частковых і поўных выданняў яго паэзіі, надрукаваных ува ўсіх краях Еўропы. Я сам бачыў пяць выданняў, не залічаных у той спіс, значыцца смела можна налічыць 30 выданняў паэзіі Сарбеўскага. Хто ж са славутых паэтаў Поўдня альбо Захада можа пахваліцца такой колькасцю выданняў?

Прычынай гэткай славы з'яўляецца, па большасці, лаціна, такая майстэрская, што ў часы класіцызму наш зямляк, на думку цэлай Еўропы, стаў побач з векапомнымі песнярамі аўгустоўскае пары.

Лірычнай формай Сарбеўскі набліжаецца да Гарацыя, таму і назвалі яго Польскім Гарацыем. Гэта заслужаны слаўны тытул, калі ўспрымаць яго з пункту гледжання класічных паняццяў. Але наша меркаванне пра Сарбеўскага — іншае. Хаця ён не аднойчы запазычваў выразы, парафразіраваў думкі старажытнага паэты — а ўсё ж Сарбеўскі застаецца самім сабой. Паміж рымскім прыдворным і польскім іезуітам акрамя дыкцыі мы не бачым вялікага падабенства апроч, можа, палення фіміяму моцным гэтага свету, што ў Сарбеўскага было грахом ягонага становішча, а ў рымскага песняра грахом ледзь не ўласным. Урэшце, калі мы прывыклі называць рымскім духам дух мужны, энергічны, цвёрды і безпаваротны там, дзе справа тычыцца цноты, дык хутчэй трэба назваць рымлянінам Сарбеўскага, чым Гарацыя.

Сарбеўскі ў паэзіі — класік, эрудыт, дэкламатар, для яго ўзоры і паэтыка з'яўляюцца боствам. А тым не меней ён такі нечаканы ў сваіх думках і выразах, такі моцны ў пачуццях, такі арыгінальны ў слове. Просім хаця б звярнуць увагу на тыя гарачыя оды, якімі гэты годны папярэднік Байрана заклінаў Еўропу, каб яна пазбавіла кайданоў зямлю элінаў; тыя яго рэлігійныя жалі, альбо звароты да сваіх сяброў і апекуноў — ці ж гэта наследаванне? А можа хутчэй мужнае спаборніцтва з абагоўленымі ім самім класікамі? Ці ж гэта сухая дэкламацыя? А можа, назва паслядоўніка Гарацыя хутчэй прыносіць Сарбеўскаму прыніжэнне, чым ухвалу?

І мы не залічваем яму ў віну захапленне класічнасцю, уключэнне міфалагічных персанажаў і падзей у абставіны, не надта прыстасаваныя да гэтага, і нават рэлігійныя: па-першае, яго натхняў на гэта су-

часны яму прыклад, вабіла веліч і надзвычайная паэтычнасць міфалагічных вобразаў; а па-другое, гэтыя асобы і вобразы так зрасліся з вытанчанай мовай, а галоўнае — з паэзіяй лацінскай, што іх можна лічыць чымсці непадзельным. Не мог Сарбеўскі ў XVII стагоддзі іх не ўжыць.

Папрок, які мы выкажам нашаму паэце, гэта залішняя класычнасць духу, касмапалітызм, абыякавасць да мясцовых справаў. Зрэдку адгукаўся ён пра выпадкі, мясціны і асобы польскія — па-піндараўскі ўсхваляў Зыгмунта III і Уладыслава IV, і альбо перамога пад Хоцімам, альбо палянаўскі мір,— у яго напагатове класычная форма, якая толькі дастасоўваецца да пэўнага выпадку. Няшмат у яго вершаў чыста народных, а і з тых палову пісаў ён як бы неахвотна, як бы толькі пад уплывам Любеньскага...

14 верасня 1848

**Уладыслаў СЫРАКОМЛЯ**

Пераклад з польскай паводле выдання: Władysław Syrokomla. Ksiądz Maciej Kazimierz Sarbiewski.— у кнізе: Poezye księdza Macieja Kazimierza Sarbiewskiego. Wilno. 1851.

## ОДА III, 8

# ДА ЭЛІЯ ЦЫМІКА ПЕРАД АД'ЕЗДАМ НА БЕЛАРУСЬ

Элій, усё ж мы не дрэвы,
Каб там заставацца на месцы навечна,
Свет дзе прыйшлі мы пабачыць.
Не зычыш мясцінаў мне цёмных сармацкіх
І Белай Русі разлогаў
Шырокіх, але ўжо вятры мяне клічуць,
Сонца рыхтуе дарогі.
Прыладзіў вазку не дарма род Япэта
Колы імклівыя здаўна.
Натхніў ён пакінуць зямлю баязліўцаў,
Мора вятругам стракатым
Расквеціць, вяслуючы хутка па хвалях.
Сцелецца ў Альпах высокіх
Сцяжына пад ногі каню не дарэмна.
Варты героя Геракла
Прырода стварыла шлях цяжкі, явіла
Славу на стромкай вяршыні
Герою, упартымі крокамі горы
Што перамог і адолеў.
Вяла Ганібала да славы дарога,
Быццам бы з неба, калі ён
Лівійцаў харугвы абрынуў на долы,
Афрыкай цёмнай накрыўшы
Італіі смутнай палацы, як хмарай.
Мы не адныя вандруем.
Устойлівы нават Пергам с месца зрушыў,
Тэўкры й далопы мяняюць
Жыхарства. І межы дзяржаў не без зменаў,

Рэч аніводная ў месцы
Застацца не можа, дзе ўзнікла. Як толькі
Маці-зямлі пакідаем
Улонне, паветра глынуўшы, адразу
У вечны з зямлёю і небам,
З бацькамі няспыннымі, ў бег мы ўступаем.

ОДА II, 3

## ДА СВАЁЙ ЛІРЫ

Пяснярка ліра, дочка самшытава,
Вісі сабе на дрэве таполевым,
Пакуль у голлі лёгкі ветрык
Ціха шапоча, лістотай грае,
На струнах граюць вольна лагодныя
Уздыхі Эўра. Я ж разняволены,
Ляжу ля рэчкі, сонцу рады,
Яснае неба душу мне гоіць.
Ах, скуль жа хмары раптам тут збегліся?
Дажджом і цемрай неба спалохалі?
Вось так і радасць хутка кінуць
Нас пасляшае заўсёды раптам.

Пераклад з лацінскай паводле выдання: M. K. Sarbevii. Carmina. Parisis, 1759.

## МАЦЕЙ КАЗІМІР САРБЕЎСКІ

### Паганскія багі, альбо тэалогія, філасофія, як натуральная, так і этычная, палітыка, эканоміка, астраномія і іншыя мастацтвы і навукі, якія знаходзяцца ў міфах паганскай тэалогіі старадаўніх народаў

РАЗДЗЕЛ І

### ПАДЗЕЛ БАГОЎ

Марк Тулій падзяліў багоў на тры класы. Да першага залічыў нябесных багоў, якія завуцца багамі найдаўнейшых плямёнаў; да другога — тых, якія трапілі на неба за свае заслугі, іх ён называе паўбагамі, народнымі альбо багамі радзімы; да трэцяга ён залічыў тых, дзякуючы якім адкрываецца шлях на неба: гэта дабрачыннасці, якім надалі імя багоў. З усіх іх дванаццаць завуцца радцамі, альбо галоўнымі багамі, якіх Юпітэр выкарыстоўвае як дапаможцаў у значных справах; з іх шэсць мужчынскага роду — Марс, Мэркурый, Юпітэр, Нэптун, Вулкан, Апалон; шэсць жаночага роду — Юнона, Вэста, Мінэрва, Цэрэра, Дыяна, Вэнэра. Далучаюць сюды і іншых, якія разам з дапаможцамі завуцца абранцамі: Янус, Юпітэр, Сатурн, Геній, Мэркурый, Апалон, Марс, Вулкан, Нэптун, Сонца, Оркус, Лібэр бацька, Тэлій, Цэрэра, Юнона, Месяц, Дыяна, Мінэрва, Вэнэра, Вэста. Пра іх будзе сказана хаця і каротка, але дастаткова. Апроч таго, што Разінус каротка пералічыў паводле

Геральда і іншых аўтараў, я збяру ў Фірміна, Лактанцыя, Клемента Александрыйскага, а таксама ў каментатараў св. Грыгорыя Назіянзіна і Тэртуліяна штосці вартае памяці дзеля пісання прамоў і складання казанняў.

### Частка першая

### РАЗДЗЕЛ XVII

# ГОРЫ

## У ГРАМАТЫЦЫ, ГІСТОРЫІ, ХРАНАГРАФІІ, АСТРАНОМІІ

Горы маюць назву ад Гора, уладара Эгіпту, які трыма Горамі назваў тры поры року, кожная з якіх складаецца з чатырох месяцаў і кожная ў свой час прыносіць спелыя плады: вясна, лета і восень. Персы і асірыйцы называюць горамі летапісы, а летапісцаў горографамі.

Калі ў эгіпцян Гор і Апалон гэта адное і тое ж, дык грэкі перанеслі назву Горы на дваццаць чатыры гадзіны, якія Гамэр заве дачкамі Апалона альбо Сонца. Мы ведаем складзены некалі міф пра бога Горамазда, які пасля таго, як спарадкаваў апошнія справы па ўтварэнню свету, замкнуў дваццаць чатырох багоў у яйка. Калі сыны Арымана падчас гульні разбілі гэтае яйка, дык тады дабро, перамешанае са злом, з'явілася на свет і такім чынам адна з гадзін прыносіць нам радасць, а другая — смутак. Тое, што мы сказалі пра Гора і Сонца — быццам яны гэта адное, і што Горы вынайдзеныя былі і названыя так Горам, гэта пацвяржаецца абеліскамі Плінія, пра які ён апавядае такімі словамі: «Абеліск, які знаходзіцца на Марсавым полі і мае памер у сто дзесяць рымскіх футаў, мае зроблены Сэсатыдам надпіс, які змяшчае тлумачэнне рэчаіснасці паводле філасофіі эгіпцян. Аўгуст надзяліў яго цудам паказваць па ценю сонца працягласць дня і ночы. Дзеля гэтага ён загадаў пакласці да абеліска на зямлю камень памерам з гэты абеліск. У шэсць гадзін дня зімовага сонцастаяння цень ад абеліска быў роўны даўжыні камня. Паступова дзень за днём цень меншаў, і гэта пазначалася меднымі рыскамі на камні, а потым у свой час наадварот — павялічваўся — па тых жа рысках. Гэты гадзіннік і гэты абеліск былі прысвечаныя Сонцу, і на падмурку абеліска можна было прачытаць такі надпіс: «Цэзар Аўгуст, сын боскага Юлія, Вышэйшы пантыфік, у дванаццаты раз імператар, у адзінаццаты раз консул, у чатырнаццаты раз трыбун, прывёўшы Эгіпет пад уладу рымскага народа, ахвяраваў гэты дар сонцу». Пліній дадае, што там яшчэ быў гадзіннік з пазалочанымі рыскамі і лініямі.

## У ПАЭЗІІ

Арфей склаў песню, што Горы нарадзіліся вясной ад Юпітэра і Фэміды. Гэта пацвярджаюць Арат і Гэсіод. Паўзаній адну з Гор заве Карпо, а другую — Фалота, бо адна дае парасткі, а другая — плады. Пра Горы кажуць, што яны ступаюць мякка і павольна і заўсёды прыносяць штосьці новае. Звычайна згадваюць трох: Эўномію, Дзікэ, Ірэну.

## У ЭТЫЦЫ

Паэты апавядаюць, што Горы пільнуюць брамы да неба. Гамэр дадае, што яны прыводзяць і разганяюць хмары, гэтым ён адзначае зменлівасць надвор'я. Ён кажа, што Горы нарадзіліся ад Фэміды альбо Справядлівасці, бо згодна з законам справядлівасці Бог пасылае нам ці радасныя, ці смутныя гадзіны і робіць іх нібыта вартаўнікамі неба.

Нельга абысьці маўчаннем, што Герсілія, жонка Ромула, як перадае Лабеон, была названая так ад слова

Ілюстрацыя да раздзела «Горы»; абеліск Аўгуста.

Тытульны ліст рукапісу «Паганскія багі», Полацк, 1627 г.

hortando (заахвочванне), альбо, як перадае Плутарх, ад слова orando што значыць маленне. Яна лічылася ў рымлян багіняй прадбачання, і да яе звярталіся пад імем Горы; яна не дазваляла людзям быць нядбайнымі. Ёй, галоўным чынам, складалі ахвяры юнакі, бо ім асабліва не прыстала ленавацца і марнаваць час. Люцына таксама названа Прудэнцыям Горай святла і жыцця.

## У ФІЛАСОФІІ

Гараскоп у эгіпцян трымаў у руцэ гадзіннік і галіну пальмы — сімвалы астралогіі. Яшчэ эгіпцяне малявалі чалавека, які з'ядае Горы, бо гадзіны часу наліваюць плады спеласцю і даюць чалавеку што есці. Таму і паэты прыпісваюць Горам вобраз прыслужніц Сонца, бо яно надае пладам спеласць, пра што можна прачытаць у Стацыя.

На беразе роўным мора Гэспэрыд
распрагае
Сонца гарачых каней і
залацістыя валасы мые
У акіяне.
З глыбінь яго Нэрэіды і Горы
Хуткімі крокамі выбягаюць
і хапаюць
Лейцы і высокую залатую карону.
Вызваляюць вільготныя ад гарачэх
рэмняў
Грудзі сонца, каней, заслужыўшых
адпачынак, вядуць
На мяккую траву, і калясніцу,
падняўшы дышла, перакульваюць.[1]

Эгіпцяне рабілі малюнкі Гораў у вобразе гіпапатама, бо ён накшталт гадзінніка падзяляе ноч і дзень, бо ўдзень хаваецца ў глыбокіх водах, а ўноч пасецца на палях. Альбо таму, як слушна адзначае Каўзін, што ён усе свае жывёльныя справы выконвае ў дакладна акрэсленыя поры часу, альбо таму, што ён жывёліна невядомая і не йначай як пад сховай начной цемры без ведама земляробаў пажырае пасевы. І праз тое ён падобны да маўклівага часу, што моўчкі ўсё знішчае. Паэты малююць такі вобраз, як Горы на Этне альбо Генне збіраюць кветкі. Быццам усё, што калісь узнікла, праз іх гіне, і таму Эклезіяст самымі бязглуздымі на-

[1] Падрадкоўны пераклад

зывае тых юнакоў, якія кажуць: «хай раскоша наша не міне ніводнай лугавіны, увянчаем сябе ружамі, пакуль яны не завялі». Але ж гэтыя вянкі звіваюць ім менавіта Горы. Пяюць і г. д. «і ў момант сыходзяць у глыбіні цямрэчы».

## ЯШЧЭ РАЗ У ЭТЫЦЫ

«Хай нас не абміне,— кажуць яны,— квет часу». Што значыць гэты квет часу? Безумоўна, гэта тое, што збіраюць Горы ў свае кошыкі. Я бачыў у Рыме ў Мэдыцэйскіх садах гадзіннік, зроблены з кветак і розных раслін, так высаджаных, што яны утвараюць сваімі купкамі лічбы гадзінніка. Гэтыя лічбы і гадзіннікавая стрэлка з кветак разам складаюць надпіс: «Хай не абміне нас квет часу». Але і цень там мінае, і кветкі разам з ценем, і час, альбо Горы, разам з тымі кветкамі і ценем. Бо час — гэта той квітнеючы гадзіннік, і там можна ўбачыць, як Горы зрываюць кветкі. Бывала (як давялося бачыць на тускуланскіх вілах рымскіх уладароў), што імёны і радасловы ўладароў складаліся з кветак. Але і яны, безумоўна, пад уздзеяннем упартай бязлітаснасці часу гінуць. На гэта, мабыць, намякала вітальная клаўдзінава песня да Прабіна і Алімбрыя:

Хай славяць імя тваё ўсюды,
Хай у кветках яго ўсе розныя Горы напішуць.

Гэтых уладароў дакараюць: «Адступнікі,— кажуць,— сябе запісалі на зямлі. Парынулі імя сваё на зямлю сваю». Наколькі ж лепш тыя, хто імёны свае запісваюць на нябёсах і ўтвараюць гадзіннік з кветак вечнасці, на якія не падае ніводзін цень. Мудра кажуць, што толькі на гары Алімп — нерухомае паветра і няма ценю. Гэта цалкам праўдзіва наконт сапраўднага Алімпа альбо неба, і таму няма на небе месца ніякому нетрываламу гадзінніку. Насупраць, на зямлі і цень, і завялыя кветкі, і рух бесперапынны — гэта праявы нетрываласці. Пра гэты гадзіннік чалавечага жыцця з кветак квітнеючых, а значыцца, тленных, гаворыць Йоў: «Чалавек, народжаны жанчынай, жыве кароткі час, і як квет, вырастае і гіне» — вось увяданне квету,— «і мінае» — вось рух!,— «нібыта цень»,— (вось цень) і г. д.

## У ТЭАЛОГІІ

Св. Хрызастом, шукаючы адказу, чаму св. Дух а трэцяй гадзіне прыйшоў, вучыць, што трэцяя гадзіна — гэта ўмова літасці і міру. «Запаведзі,— кажа ён,— дае Айцец як бы а першай гадзіне, потым уцелясняецца сын у міласці, а цяпер з'яўляецца і св. Дух, як трэцяя асоба Тройцы, адзначаны саіснасцю і неадзельнасцю. Далей, а трэцяй гадзіне ён да вучняў прыходзіць, каб навучыць тых, хто на зямлі, поўнасці непадзельнай Тройцы і надзяліць нас трэцім законам пасля натуральнага закона. Так, кажу я, можна было б растлумачыць этымалогію паэтычных Гор, што Дзікэ, альбо звычай ці права звычаю, адпавядае містычнай гадзіне натуральнага права. Эўномія ж, альбо ўсталяванне законаў, адпавядае другой гадзіне пісанага права. А Ірэна, альбо мір, адпавядае апошняй гадзіне права літасці альбо міру, пра які апостал кажа: «Браце, вось апошняя гадзіна». Але гэта, магчыма, магло б мець і больш падрабязнае тлумачэнне.

### Частка другая

## ПРА НАРОДНЫХ БАГОЎ

### РАЗДЗЕЛ XI

## ЭСКУЛАП

## У ГРАМАТЫЦЫ

Калі δkελλδυφl значыць «памерці», дык частка α надае слову су-

працьлеглае значэнне, і такім чынам мы можам лічыць, што Эскулап так названы таму, што ён адхіляе смерць, гэта значыць не дазваляе памерці.

## У ПАЭЗІІ

Некаторыя сцвярджаюць, што Эскулап нарадзіўся ад Апалона і Караніды, якая паклала хлопчыка на гары ў Эпідаўры. Там каза паіла дзіця малаком, а сабака пільнаваў. Калі сабаку, а пры ім і хлопчыка, ад галавы якога разыходзілася святло, знайшоў пастух Аўталаюс, ён расказаў пра гэта ўсім суседзям. З таго часу ўверылі, што хлопчык гэты бог, які можа кожнаму даць здароў'е. Іншыя кажуць, што яго даталі з улоння Караніды, нарадзіўшай Эскулапа ад Ісхія, брата Дыяны, і за гэта забітай Дыянай.

Лукіан яшчэ апавядае такое: «Перадаюць, што старажытны святар паклаў маленькага вужаку ў пустое яйка вароны і, заляпіўшы яго воскам, схаваў у багне; праз нейкі час, збудаваўшы ахвярнік, ён пазваў на гэтае месца людзей, каб ў іх прысутнасці аб'явіць, што ён явіць бога. Потым нейкімі невядомымі словамі ён прызваў Апалона і Эскулапа, каб з'явіўся той, хто прынясе шчасце гэтаму гораду. Потым, чэрпаючы ваду чаркай, ён дастаў тое яйка, якое ў прысутнасці мноства людзей разбіў і знайшоў у ім таго маленькага вужаку, чым надта здзівіў людзей. Потым праз некалькі дзён ён паказаў вялікіх памераў вужаку, які адмыслова рухаўся ў цямрэчы, і сказаў, што гэта той маленькі так вырас, і што гэты вялізны вужака і ёсць бог Эскулап, сын Апалона.

## У ГІСТОРЫІ

Дакладна пры консулах Квінце Фабіі і Дэцыме Юніі, калі Горад (Рым — Л. Ч.) апанавала зараза, у згодзе з парадай Сівілавых кніг, паслалі пасլоў у Эпідаўр, адкуль яны, вельмі зычліва прынятыя жыхарамі і ўведзеныя ў храм Эскулапа, вужаку, які быў прадметам пашаны ў Эпідаўры, і які сам папоўз да карабля рымлян, прывезлі ў Рым і шанавалі ў храме, збудаваным на выспе на рацэ Тыбр. Гэта, безумоўна, адбылося па навучэнню злога дэмана.

## У МЕДЫЦЫНЕ І ФІЗІЦЫ

З поўным правам Апалона прадстаўлялі бацькам Эскулапа, і што сам Эскулап перадае ад сонца здаровую моц і такім чынам творыць здароў'е. Маткай яго лічылі Караніду, народжаную ад Флегія, што азначае адпаведны склад паветра, дастаткова сагрэтага сонцам. Такім чынам, калі сонца ў пэўнай меры творыць рух паветра, з сонца і з адпаведнага складу паветра з неабходнасцю нараджаецца Эскулап, значыць здароў'е. Прадстаўлялі, што ад Эскулапа нарадзілася Гігіэя, якая азначае менавіта добрае здароў'е, і Ясо, што значыць магчымасць выздараўлення і лячэння. Да статуі Эскулапа дадавалі кій, вакол якога абвіўся вужака, бо ён з усіх жывых істот самы чуйны і прадбачлівы, і штогод амаладжаецца, і гэта робіць яго сімвалам добрага здароў'я. На манеце Разінуса даданая яшчэ і сава, як вобраз мудрасці. У Марліана вярхі храма Эскулапа аздобленыя перавітымі вужакамі. У тым самым храме знаходліся сабакі, бо Эскулап быў выкармлены з саскоў сучкі. Вянчалі Эскулапа лаўрамі, адзнакай яго бацькі Апалона. Згодна з аднымі весткамі, прысвячалі яму ў ахвяру кур, згодна з другімі — пеўняў, паколькі спажыванне іх вельмі карысна хворым. А казу прыносілі яму ў ахвяру таму, што гэтая жывёліна звычайна хварэе на сухоты, і спажыванне яе мяса некарысна для слабых здароў'ем. Разінус дадае, што ў храме Эскулапа ў Рыме людзі заставаліся на ноч дзеля здароў'я. А Наталіс кажа, што гэткі звычай быў і ў іншых народаў у розных мясцінах.

Апавядаюць таксама, што Іпаліт аджыў дзякуючы мастацтву Эскулапа. Іншыя дадаюць, што Эскулап шмат людзей уратаваў ад смерці. Таму Плутон скардзіўся Юпітэру, што Эскулап забірае з-пад ягонай улады сабе шмат людзей. Тады раз'юшаны Юпітэр забіў маланкай Эскулапа, над смерцю якога так многа слёз праліў Апалон, што ягоныя слёзы пераўтварыліся ў бурштын.

Яшчэ Цыцэрон кажа: «Першы з Эскулапаў гэта Эскулап Апалона, шанаваны жыхарамі Аркадыі, які вынайшаў хірургічны зонд і першы пачаў перавязваць раны. Другі Эскулап быў братам другога Меркурыя. Забіты маланкай, ён, як кажуць, быў пахаваны ў Кінасурах. Трэці, сын Арзіна і Арсіноі, той, што першы вынайшоў ачышчэнне страўніка і вырыванне зубоў; яго магілу і прысвечаны яму гай паказваюць у Аркадыі недалёка ад рэчкі Лузій. Паўзаній кажа ў «Карынфянках», што гэты лузійскі гай меў дзіўны прывілей, каб нікому не дазвалялася там ні нарадзіцца, ні памерці.

Дарэчы, цяпер у Рыме, дзе Эскулапа шанавалі ў вобразе вужакі, штогод змяняючага скуру, шануюць св. Барталамея, які адзіны вынайшаў надзвычайнае мастацтва здабывання вечнага здароў'я, зняўшы з сябе ўласную скуру дзеля Хрыста.

На статуях Эскулап прадстаўлены з сукаватым кіем у руцэ, што указвае на цяжкасць лекарскага мастацтва.

Адныя перадаюць, што быў ён выхаваны сабакам, другія — што Трыгонам, а іншыя — што Хіронам ён быў навучаны медыцыне: пэўна і сабака вучыць медыцыне:

Лекае свае раны сабака гаючым языком.

**Частка трэцяя**

# ПРА БАГОЎ ЯКІЯ, ЯК ВЕРЫЛІ, АДКРЫВАЮЦЬ ДОСТУП НА НЕБА

## РАЗДЗЕЛ XIII

## ПРА БАГОЎ, АЛЬБО БАГІНЬ, ЯКІЯ, ЯК ВЕРЫЛІ, АДКРЫВАЮЦЬ ДОСТУП НА НЕБА

Марк Тулій у III кнізе «Пра прыроду багоў» кажа: «тыя, праз каго адкрываецца доступ на неба, гэта Розум, Дабрачыннасць і Памыснасць, і хай дзеля іх ухвалы ствараюцца храмы». Гэта будзе, паводле думкі Тулія, трэці клас паганскіх багоў.

### У ТЭАЛОГІІ

Але я мяркую, што старажытныя людзі пад Розумам разумелі Бога, як творцу дзейнаснай дапамогі пры ўсялякім пазнанні і дзейнасці. Так кажа і Цыцэрон у II кнізе «Пра прыроду багоў»: «сама рэч, у якой змешчана якаясьці вялікая сіла, мае назву ад гэтай сілы, якая сама па сабе завеццам Богам».

### У ПАЛІТЫЦЫ

Храм Розуму і Веры быў на Капітоліі, ці дзеля таго, што розум менавіта ў галаве змяшчаецца, ці таму, што розум і вера асабліва неабходныя ў курыі і сенаце.

Пераклад з лацінскай паводле выдання: M. K. Sarbiewski. Dii gentium. Wrocław. 1972.

# «ЗАХЛЫНАЙ МЯНЕ ПРАГА ВЕЧНАГА...»

А. Лойка. **Скарына.** Серыя «Жизнь замечательных людей». Аўтарызаваны пераклад з беларускай І. Бубнова. М., «Молодая гвардия», 1989.

А. Лойка. **Францыск Скарына, або сонца маладзіковае.** Раман-эсэ. Мінск, «Мастацкая літаратура», 1990.

Скарыніяна на сённяшні дзень надзіва багатая. Прадстаўлена яна шматлікімі творамі ў розных жанрах і, здаецца, ва ўсіх галінах мастацтва. На жаль, літаратары часцей за ўсё абмяжоўваюцца невялікімі сачыненнямі, зрэдку выдаюць паэмы. Апошні раман, прысвечаны Францыску Скарыне (аўтары М. Садковіч і Я. Львоў), які выйшаў даўнавата, адлюстроўваў тагачасны ўзровень ведаў пра першадрукара, яго жыццё і дзейнасць. Аб гэтым, у прытватнасці сведчыла і сама назва — «Георгій Скарына». Таму, зразумела, павінен быў з'явіцца ў пэўны момант развіцця літаратуразнаўства і грамадскай думкі біяграфічны раман, які па-новаму асэнсаваў бы усё, што звязана з гэтым тытанам эпохі Адраджэння.

У 1990 г. у выдавецтве «Мастацкая літаратура» выйшаў раман-эсэ «Францыск Скарына, або Сонца маладзіковае» Алега Лойкі. Балазе, ён тады ўжо меў вопыт у стварэнні мастацкага жыццяпісу Ф. Скарыны і Я. Купалы для серыі «Жизнь замечательных людей».

Вопыт, набыты А. Лойкам у час праходжання жыццёвымі шляхамі Я. Купалы, паўплываў і на стварэнне рамана-эсэ пра Скарыну, хаця творы ў многім адрозніваюцца. Звярнуўшыся да постаці народнага песняра, да яго акружэння, А. Лойка напісаў традыцыйны раман дзеяння, у якім, як таго і вымагаюць адметнасці жанру, вялікая роля належыць дыялогу. У рамане-эсэ на першым плане знаходзяцца ўласныя аўтарскія развагі. Часам нават над Лойкам-раманістам бярэ перавагу Лойка-даследчык, літаратуразнаўца. І гэта не папрок. Хочацца толькі падкрэсліць, наколькі рознымі могуць быць творчыя падыходы да стварэння мастацкага партрэту вядомых людзей.

Біяграфія Я. Купалы таксама была пабудавана на новых матэрыялах, упершыню ўведзеных ва ўжытак самім А. Лойкам (успаміны людзей, якія ведалі песняра; архіўныя дакументы і тагачасныя публікацыі, новае прачытанне асобных перыядаў гісторыі нацыянальнай культуры, скажам, нашаніўскай пары). Біяграфія ж Ф. Скарыны (са слоў аўтара) грунтуецца на 40—50 ўжо вядомых дакументах. Лойка імкнуўся па-новаму асэнсаваць іх, у чым яму вельмі дапамаглі артыкулы Ул. Калесніка, а таксама яго заўвагі як рэцэнзента рукапісу кнігі. Тут быў патрэбны вопыт і энцыклапедычная дасведчанасць пісьменніка-раманіста, які мог бы «даволі ўдала спалучыць у рамане дакументальна-гістарычныя матэрыялы з творчай інтуіцыяй, творчым домыслам мастака, імкнуўся выявіць тыя зыходныя ўнутраныя і знешнія імпульсы, што прадвызначалі характар і масштабы ўсёй далейшай асветніцкай дзейнасці Ф. Скарыны», як слушна зазначае адзін з першых рэцэнзентаў рамана М. Грынчык. Адначасова павінна была прысутнічаць лёгкасць пяра, якая прыводзіць да унутранага дыялогу з чытачом. Апавядальная плынь рамана надзвычай свабодная, раскаваная. Гэта таксама ідзе ад вопыту аўтара, як навукоўцы і выкладчыка, калі можна імправізаваць, як быццам адмаўляцца ад загадзя прадуманага, асэнсаванага плану, які тым не менш прысутнічае. Проста думак так шмат, што яны як бы ўтвараюць своеасаблівы ланцуг самых розных асацыяцый. І галоўныя звенні ў ім — вызначальныя перыяды біяграфіі чалавека, які быў загадкавай асобаю для сваіх сучаснікаў і застаўся такім для нас.

Не трэба забываць, што

Ф. Скарына быў сынам свайго часу — не менш таямнічага, супярэчлівага і непаўторнага адначасова. Гэты час і адлюстроўваецца А. Лойкам падрабязна, па магчымасці гістарычна-аб'ектыўна. Ён падаецца праз каларыт эпохі, звычкі і побыт насельніцтва, праз аўтарскія ацэнкі, якія то публіцыстычна-завостраныя, тэмпераментныя, то эмацыянальна-узнёслыя, то лаканічна-дакладныя, як таго і вымагае імкненне да самой праўды. Праўда зноў жа — спалучэнне розных колераў паўсядзённасці: «Сярэдневякоўе было і цемрай, і святлом: святлом там, дзе аб'яўляла, што чужынай чалавеку ёсць цемра, а яго айчынай ёсць веды. Туды менавіта, дзе былі ў часе Скарыны веды, туды Скарына перш за ўсё і імкнуўся, канчаючы як чалавек сярэдневяковы, пачынаючы як адраджэнец. Аскетычнае сярэдневякоўе кляло зямлю, глядзела на яе як на часовы прытулак цела і духу, па-над зямным жыццём, узносячы шчасце вечнага неба. Пакуль, аднак, там тое вечнае жыццё на небе, захлынай мяне прага вечнага тут, на зямлі, прага дасканаласці духу чалавечага, душы чалавечай, мудрасці, разумнага!..»

Усё «гэта — Скарынава». Асветнік сам не мог не адчуваць эпохі, што нарадзіла яго; як дзеяч і творца ён аддаваў перавагу зямному існаванню — рэальнаму, канкрэтнаму, а не «боскаму», працаваў «дзеля славы мовы матчынай».

Алег Лойка, так мяркуюць і іншыя скарынаўскія даследчыкі — далёкі ад думкі, што сэнсаваная, прадуманая пазіцыя першадрукара была «падказана» толькі прыроджаным талентам, хоць апошняе мае і вялікае значэнне. Не варта забываць абмежаванасць асяроддзя, у якім рос і выхоўваўся будучы ідэолаг Адраджэння. Купецкае саслоўе, а да яго належыў і бацька Скарыны Лукаш, для свайго часу было даволі адукаваным, мела магчымасць наведваць многія краіны, аднак не магло належным чынам ацаніць вартасць друкаванага слова. Ды і сама кніга нават ім была не па кішэні.

Праўда, нельга забываць і адмаўляць духоўную пераемнасць пакаленняў. Лёс наканаваў Скарыне нарадзіцца ў Полацку, пра які ўжо даўно слава ішла па свеце. Францішак «спазнаў, спасціг» багатую гісторыю свайго краю. Рана пазнаёміўся ён і з «Жыціём Ефрасінні Полацкай», адчуў святасць старонак з пісьмёнамі пра святую, на якую была знешне падобная яго маці. І гэта ўспрымалася ім, як прадвызначэнне лёсу.

У сне да стомленага познім чытаннем «Жыція» Ф. Скарыны прыходзіць сама знакамітая асветніца. Менавіта яна як бы прадказвае далейшы шлях дапытлівага юнака: «А я і цябе, Францішак, як брата свайго, як сястру сваю Гарыславу, клічу да сябе ў Свята-спасаўскі манастыр... Клічу кнігі перапісваць».

Францыск Скарына, акрылёны гэтым пажаданнем, іншымі вачыма глянуў на сябе. Аднак пакуль гэта быў толькі штуршок юнаку, які не ведаў, ці адзіны гэта шлях, падказаны Ефрасінняй Полацкай, на якім суджана яму пракласці сваю сцяжыну.

Але прадчуваў ён, што павінен будзе свядома адмовіцца ад жыццёвага спакою, пачаць пакутлівыя блуканні па свеце. Можа здарыцца і так, што і звычайнае сямейнае шчасце размінецца з ім. Аднак ведаў Скарына і іншае: багацце душы, вернасць свайму народу не вымяраюцца матэрыяльным дастаткам. Да такога ўсведамлення ён ішоў доўга, а ў справядлівасці яго канчаткова пераканаўся, калі трымаў у руках 6 жніўня 1517 г. у друкарні Паўла Северына на Старым Месцы ў Празе сваю першую кнігу — Псалтыр.

Раман і пачынаецца з гэтага моманту, з дня, якому суджана было стаць гістарычным. Астатняе, што было да гэтага, паўстае праз аўтарскі разгляд фактаў і непасрэдна праз успаміны самога Скарыны. Узяць хаця б ўжо згаданы сон-мрою. Уявім, што А. Лойка пайшоў бы шляхам храналагічнай падачы матэрыялу. Што атрымалася б? Ды хутчэй за ўсё тое, што аўтар апынуўся б ў звычайным палоне падзей значных і другарадных, вялікіх і малых. Іншая справа — раман-эсэ. Аўтар больш вольны ў пабудове сюжэту. Ён мае права на шматлікія адыходжанні, ён можа сумяшчаць розныя часы. Нарэшце, перад ім адкрываецца мажлівасць суадносіць рэальныя і фантастычныя пласты. Таму ў некалькіх эпізодах апанентамі Ф. Скарыны выступаюць і персанажы ў нечым міфалагічныя — доктар Фауст, гліняны чалавечак Голем, што як бы ўвасабляе той цярністы шлях, якім ішоў першадрукар і змагаўся з цемрашальствам.

Зробленае Ф. Скарынай на ніве друкавання, нават па мерках сённяшніх дзён, агромністае. А. Лойка не пазбегнуў спакусы прывесці лічбы — у рамане фігуруюць назвы кніг, колькасць старонак, адбіткаў, адпаведнікаў асобных выданняў, якія дайшлі да нас. Прызнацца, гэта не лепшыя месцы твору. Такое можна знайсці і ў манаграфіях адпаведнага профілю і ў скарынаўскім энцыклапедычным даведніку. Хаця, магчыма, для некаторай катэгорыі чытачоў раман стане першым знаёмствам з біяграфіяй нашага знакамітага першадрукара. У такім разе можна даравваць і гэтую насычанасць лічбамі, і пэўную шматслоўнасць, калі аўтарскія эмоцыі «перахлёстваюць» і замест грунтоўнага мастацкага аналізу дзейнасці Ф. Скарыны пачынаецца «апяванне» яго. Празаічная «ода» выйграе, калі яна грунтуецца на аналітычна-фактычным матэрыяле ці тады, калі пісьменніку ўдаецца па-свойму прадвызначыць ход асобных падзей.

Прынамсі, у цэлым вытрымлівае аргументацыю тое, што так званая «познанская эпапея», якая доўжы-

лася 119 дзён і адну ноч, не магла б узнікнуць, калі б у ёй не быў зацікаўлены сам Альбрэхт Гаштаўт — першая асоба ў Вялікім княстве Літоўскім. Па афіцыйнаму тлумачэнню прычынай арышту Ф. Скарыны стала нявыплата грошай. Але і ў дадзеным выпадку неабходна глядзець глыбей, у сутнасць падзей.

Такую магчымасць і выкарыстоўвае А. Лойка. Гэтыя падзеі займаюць цэнтральнае месца ў рамане. Пісьменнік псіхалагічна дасведчана даследуе іх перадгісторыю. Ф. Скарына заўжды намагаўся як мага лепш данесці друкаванае слова да народа. Калі ён выдае «Малую падарожную кніжыцу», ён гаворыць сваім сябрам Якубу Бабічу і Багдану Онкаву: «А цяпер наш купец — той купец, што ў дарозе. З богам праводзіць яго ў дарогу маці, дык няхай і божае слова-часасловец возьме ён у дарогу на любы дзень, на любую хвілю».

Але зварот Ефрасінні Полацкай: «Клічу кнігі перапісваць» асабліва спатрэбіўся Ф. Скарыне, калі ў яго з'явілася жаданне друкаваць «Статут Вялікага княства Літоўскага». У гутарцы з хворай жонкай Маргарытай, да самазабыцця закаханы ў гэтую жанчыну (старонкі, дзе пісьменнік распавядае аб каханні Францішка і Маргарыты,— адны з самых светлых у рамане), ён адкрывае ёй, каму даверае, далейшыя планы, звязаныя з адраджэннем народа: «А ведаеш, я сказаў біскупу Яну пра сваю запаветную мару, я, здаецца, даказаў патрэбу Кнігі нашае, русінскае у Вялікім княстве Літоўскім і што законы ў Вялікім княстве Літоўскім, за спаўненнем якіх так сочыць яго праасвяшчэнства, толькі яшчэ больш замацуюцца, калі Статут будзе выдрукаваны, пашыраны».

Віленскі біскуп Ян тады паабяцаў Ф. Скарыне замовіць слова, пагаварыць з ваяводам віленскім, самім Альбрэхтам Гаштольдам, які не хавае свайго гневу і патрабуе арышту друкара. Боязь прасвятлення народа, боязь абуджэння яго падказвала Гаштаўту рашучасць у дзеяннях, адмаўляла хоць якія-небудзь маральныя законы, заснаваныя на сумленнасці: «Гэта ж канец свету наступіць, калі быдлу даць у лапы Статут, даць друкаваную кнігу...» Каб адзін Гаштаўт меркаваў такім чынам?! Хапала гаштаўтаў, гэтых інквізітараў духу, хто душыў вольную думку, перашкаджаў прагрэсу. Але і сярод тагачасных валадароў сустракаліся і такія, якія са спагадай ставіліся да народных талентаў.

З сімпатыяй, напрыклад, узнаўляе А. Лойка воблік караля Жыгімонта I. Сярод персанажаў рамана прысутнічаюць і іншыя гістарычныя асобы — жонка Жыгімонта Бона Сфорца, гетман Канстанцін Астрожскі, сакратар вялікакняжацкай канцылярыі Дзеадат Септэній — усе, ад каго у большай ці меншай ступені залежыў ці мог залежыць лёс Ф. Скарыны. Напрыклад, Септэній, верагодней за ўсё, мог настройваць Гаштаўта супраць Ф. Скарыны, бо баяўся, што з развіццём друкарскага слова страціць сваю пасаду пісара. Нездарма ж, Гаштаўт у парыве гневу вымаўляе і гэтыя словы: «А навошта у вялікакняжацкай загрукае друкарскі станок?».

Пра адных з гэтых людзей пісьменнік расказвае падрабязна, другія праходзяць эпізадычна, ледзь не мімаходзь, у дзеянні амаль што не бачныя. Робіцца гэта, як таго і вымагала мастацкая задума; бо галоўны герой твора ўсё ж сам Ф. Скарына, астатнія толькі «працуюць» на яго, дапамагаюць лепш зразумець, глыбей адчуць, каго ў асобе першадрукара мела зямля беларуская.

Тытан сваёй эпохі, ідэолаг ранняга беларускага Адраджэння Ф. Скарына — такая думка скразная ў рамане — у многім быў свядомым выгнаннікам, тым пакутнікам, які сам прадвызначыў сабе якраз гэты, а не інакшы, лёс, абдумана ступіў на цярністы шлях.

Глыбокі падтэкст набывае заключнае сцэна рамана. Знаходзячыся ў гаштэце пад Нойштатам, успамінае Ф. Скарына карчму паблізу Вільні, прыгадвае свайго пляменніка Рамана Скарыніча, які тады заспяваў песню, што заўсёды душу Скарыне пераварочвала. То была песня пра «залатога аленя», які людзям шчасце прыносіў. Даўно загучала яна і адразу запомнілася: «Не ўбівай ты мяне, маладзец, некалі я табе прыгаджуся: будзеш жаніцца — на свадзьбу прыду, залатымі рагамі ўвесь двор асвячу».

Заспрачаліся пасля гэтых слоў Ф. Скарына і яго пляменнік, што правільней назваць «высокім часам». Адказаў Скарына: «Не, не на вяселлі хадзі, аленю — не на вяселлі! На хаўтуры хадзі, залатымі рагамі двары асвечваючы. Смерць — высокі час чалавека».

Не пагадзіўся Раман: «Не смерць самы высокі час чалавека, а бяссмерце: вышэй бяссмерця часу ў чалавека няма!..»

Час бяссмерця Ф. Скарыны — час, калі робяцца рашучыя крокі да новага нацыянальнага Адраджэння. І сімвалічна, што 500-годдзе з дня нараджэння чалавека, які ўсё жыццё працаваў дзеля Адраджэння, супаў з разняволеннем яго народа, што нарэшце дамогся дзяржаўнасці сваёй мовы.

А гэта ўжо знак добрай надзеі.

**Алесь МАРЦІНОВІЧ**

